 

адгароджаную цаглянымі карабкамі паверхаў і таму амаль нерэальную адсюль зямлю.

Калі вада пачала падымацца і сталі ўсплываць больш лёгкія рэчы, Марыя не заўважыла. Злёгку прыўзняўшы твар, падставіўшы яго пад цёплыя струмені, яна захлыналася і імі, і сваімі ўсхліпамі, што цішэлі, але ўсё яшчэ скаланалі бяссілае, ненавіснае ёй зараз цела. Здавалася, нішто не магло змусіць яе зрабіць хоць самы звычайны рух — адвесці твар убок, але, адчуўшы ліпкія дотыкі і не зразумеўшы, што гэта адзенне — адзенне, а не чыесьці рукі! — наліпала да ног, Марыя тузанулася, ускрыкнула і, расплёскваючы ваду, выскачыла з ванны. Толькі ў прыхожай, калі згледзела пад сабою лужынку вады, апрытомнела. Азірнулася на сцежку мокрых слядоў. Згледзела на ёй сябе, дзевяцігадовую, босую, з падаткнутаю, як навучыла бабуля, спаднічкаю і цяжкою мокраю анучаю ў руцэ, разгубленую ад таго, што мама крычыць на бабулю, крычыць на ўсю хату: «Мая дачка не будзе стаяць у гразі па калені ні дома, ні тут, запомніце! Падлогу адскрэбці можа хто заўгодна, Марыі наканавана іншае. Іншае! І я не пацярплю, каб нашы прыезды сюды...»

Голас згас, знік гэтак жа раптоўна, як і загучаў. Але Марыя больш не натыкалася позіркам на пустату: яна была дома, яна наслядзіла на паркеце і зараз збярэ, сатрэ ўсе гэтыя падцёкі, яна не выключыла душ і забыла накінуць халат... Рухі здаваліся крыху замаруджанымі, і ўсё ж і дзесяці хвілін не мінула, як парадак быў адноўлены: паркет свяціўся параненейшаму роўным залацістым святлом, халат, туга сцягнуты, шчыльна аблягаў стан, паскіданае ў ванну адзенне, выпаласканае і павыкручванае, цяжкімі скруткамі ляжала ў лёгкай пластмасавай бадзейцы. Штосьці яшчэ? Але, яна павінна падняцца на ліфце на адкрытую веранду, што на самым даху будынка, і развесіць усё, каб сохла. Гэта потым. Крыху пазней. Штосьці яшчэ трымала яе тут, не адпускала.

Усмешка! Марыю не адпускала гэта ўсмешка на фотаздымку! Водсветы ўсмешкі ляжалі на ўсім вакол, і ўсе рэчы ажывалі, жылі якімсьці сваім таямнічым жыццём толькі таму, што памяталі яе, што памяталі музыку тых шчаслівых, агучаных шчаслівымі спадзяваннямі хвілін. Яны памяталі, а Марыя...

Баязліва, гатовая ў любы момант адступіць, адмовіцца ад свайго жадання, наблізілася Марыя да адчыненых дзвярэй у пакой, дзе стаяў раяль, прайшла далей, не дайшла да інструмента і за які крок ад яго спынілася, знерухомела. Слухала. Слухала глухое, абыякавае маўчанне — і ні шкадаванне, ні смутак ні на міг не заварухнуўся ў ёй. Балюча нацягваліся і рваліся якіясь дрыготкія струны ў грудзях, але — бязгучна і, здавалася, гэтак жа абыякава. І ўсё. Музыка ў ёй, хоць у гэта нельга, немагчыма было паверыць, памерла.

Памерла... Вось што было самае невыноснае для Марыі: памерці яны павінны былі разам.

На міг ёй здалося, што варта асмеліцца і крануцца раяля — і ён адгукнецца, загучыць. Марыя нават зрабіла той крок, які падзяляў іх, і прыўзняла, паднесла да яго руку — цень рукі, адбітак яе на паліраванай паверхні, застыў, няўклюдна варухнуўся і тут жа адхіснуўся, знік, сцёрты яе наступным рухам: Марыя рэзка крутанулася і пайшла з пакоя. Нейкі час, блытаючыся ў крысці доўгага халата, няўцямна кружыла па прыхожай, потым, знямоганая гэтым бязмэтным кружэннем, упала ў крэсла, што стаяла побач са столікам для тэлефона. І зноў слухала, слухала цішыню ў сабе...



— Тата заўважыў, што ты змянілася, Марыя, і ўстрывожаны. Спадзяюся, твая маўклівая, зацятая адчужанасць не звязана з амурнымі справамі? Экзамены вось-вось, потым конкурс на паступленне ў кансерваторыю... Шкада, што пуцёўка ў санаторый выпала якраз на гэты час, а то б я...

— Ну навошта ты, мама? У цябе — сваё жыццё, і не трэба, не трэба прыкідвацца, што ты шкадуеш аб гэтым.

— Прыкід-вацца?! Ды адкуль ты ўзяла, што я прыкідваюся?

— Ты ж едзеш не адна. І потым...

— Якія яшчэ «потым»? І што значыць «не адна»? Мо ты скажаш, што маеш на ўвазе?

— Гэта не важна. Мы не пра тое, не пра тое гаворым з табою, мама, як ты гэтага не разумееш? Мы не пра тое...

Марыя падняла вочы на тую сябе, на фотаздымку, і сумна, горка ўсміхнулася ў адказ на яе адкрытую вясёлую ўсмешку. Сабраўшы ўсю волю, паднялася, пацяжэлымі і ад таго яшчэ больш павольнымі крокамі скіравалася ў ванную, узяла бадзейку з выпаласканым адзеннем і выйшла з кватэры. Ад ліфта вярнулася і шчыльна зачыніла дзверы. Пачуўшы, як шчоўкнуў аўтаматычны замок, перасмыкнула плячыма (ключ застаўся на століку) і заспяшалася.

Яе сустрэла неба. Не, сустрэла — не дакладна: у такім выпадку неба павінна б угледзець яе, заўважыць, а яно, гарачае, неабдымнае ў гэтай паводцы золата і чырвані вечара, заходу сонца, не скалыхнулася — ляжала ўгары спакойна, калі не абыякава. Ды і абыякава! З чаго б яно раптам адгукалася на чыюсьці немату? А Марыя нема глядзела на яго, чакаючы цуду, — не верыла ў цуд і чакала яго. Вось-вось, здавалася ёй, хіснецца непарушная глыба вышыні і ссунецца, і ў шчыліну, якая будзе шырэць, раздавацца, хлынуць дзівосныя гукі, празрыстыя, зіхоткія ў сваёй чысціні, і ў гэтых гуках ачысціцца яе душа.

Марыя ўжо чула першыя кволыя гукі і напружвала слых, каб злавіць, ухапіць простую музычную тэму, што ўзнікала, верхнімі шчымлівымі нотамі прарастала ў плач, у крык і гэтым нізкім, ужо нечалавечым крыкам гублялася ў вышыні, дзесьці ў сусвеце, каб дайсці, данесціся адтуль галасам, поклічам — не спадарожніка, у якога ёсць планета, якая яго паслала, а планеты, у якой больш нікога няма — ні чалавека, ні жыцця, ні бога... Можа, толькі — спадзеўка на яшчэ адну, апошнюю, спробу?

Толькі невысокая каменная балюстрада аддзяляла Марыю ад неба, што раптам наблізілася амаль ушчытную, — ад неба і... І ад музыкі! Бо вось жа не ўлоўлівала яна больш ніводнага гуку: узнікла тэма і, нават не акрэсліўшыся, згінула, патанула ў чырвона-залатым мроіве вечара, у даўкім, горкім яго маўчанні. Невыказны, невыносны адчай захліснуў яе: яна ж адчувала, адчувала калісьці таямніцу музыкі, яе чыстай гармоніі, усяго два-тры крокі заставалася...

Два-тры крокі — не адлегласць. Не тая адлегласць, што спыніла б Марыю. Лёгка ўскочыла яна на балюстраду і, нібыта пагуканая кім, не заплюшчваючы вочы, ступіла наперад. Ступіла — і неба не адхіснулася ад яе...

◆

Неба палымнела з рэдкай для красавіцкіх вечароў сілаю — тут, у горадзе, прыўзнятая, адцесненая высокімі гмахамі і крыжападобнымі антэ-



 

намі на плоскіх іх дахах, гэта чырвань здавалася злавеснаю. Падзеленая, паразрываная, калі глядзець знізу, на шматкі і палосы, яна шчамілася ў прагалы паміж дамамі, сцякала па сценах, трывожна адбліскваючы ў шыбах вокнаў, і гусцела так павольна, што, нават пільна раз-пораз узіраючыся, заўважыць гэта было цяжка. Святлана, праўда, і не імкнулася нічога асаблівага вышукваць там, угары, і задзірала галаву хутчэй таму, што і ў прывакзальнай штурханіне то адзін, то другі міжволі дзівіўся на неба, а то і адгукаўся на яго трывогу — мармытаў штосьці сабе пад нос. Як тая цётка, якую яна толькі што абагнала. «Знак, не знак... І што гэта ўжо будзе?» — мовіла яна кожнаму, хто абмінаў яе і яе вялікі чамадан на асфальце, і, як апамятаўшыся, рушыла далей, па якіхсьці сваіх справах, толькі тады, калі нейкі даўгалыгі і пляшывы разумнік (Святлана бачыла яго толькі са спіны) даволі груба зачапіў яе сваім «Чаго ты раскаркалася, цётка? Ішла б сабе, куды ідзеш!».

Іншым бы разам, ды яшчэ ў кампаніі хлопцаў, Святлана пасмяялася б («Бач ты на яго: неабыякавы!»), а сёння толькі зірнула ўслед пляшываму з непрыязнасцю, якая здзівіла яе самую: сказаў і сказаў, чаго не скажаш, калі ў спешцы наткнешся на чый чамадан!

— Вы не падкажаце, чым лепш дабрацца ад вакзала да камвольнага?

Зіркнула на таго, хто пытаўся: малады, вочы нахабна-дапытлівыя (пазабавіцца за яе кошт вырашыў!), адказала ў тым жа тоне:

— На ТУ-154.

І не ўсміхнулася ў адказ на яго белазубую ўсмешку.

Набліжаўся трамвай. Маршрут яго ёй не падыходзіў, але, не зважаючы на чырвонае святло і двух дружыннікаў па той бок праезджай часткі, Святлана матлянулася цераз дарогу, да трамвайнага прыпынку, спакойна, пагардліва працадзіўшы праз зубы «Пайшоў ты...», атрэсла руку падаспелага добраахвотніка парадку і ўскочыла на прыступку: адзін прыпынак праедзе, а там ці перасядзе на другі трамвай, ці пешкі спусціцца з горкі і па той бок Свіслачы, за мостам, будзе, лічы, на месцы. На месцы... Спахмурнела, мерзнучы ці мо злёгку нервуючыся, засунула рукі ў шырокія рукавы світэра і так, не расціскаючы рук, і выскачыла з вагона, ледзь толькі ён спыніўся. Не перайшла на тратуар, як таго вымагалі правілы ды і проста бяспека, стаяла пасярод вуліцы побач з трамвайнымі рэйкамі і разважала: чакаць ці не чакаць...

Разважала нядоўга. Прыгнечаная і нядобрым прадчуваннем, ад якога ніяк не магла выбавіцца, і ашалела-яркім ззяннем неба (тут, на горцы, вочы ад яго не было куды дзець), крутанулася і пайшла — пабегла ў бок ракі, за якой, у адным з самых прэстыжных раёнаў горада, жыла Марыя.

«Не трэба, нельга было везці Марыю з сабой!» — зноў загучала ў ёй запозненае шкадаванне, і гэты раз Святлана не адмахнулася ад яго. Трывога яе нарастала. Кірылу, яго «публіцы» можна было аддаць любую — каго заўгодна, толькі не яе, не Марыю...

Злякнулася ўпершыню выразна акрэсленай, хоць і абарванай на сярэдзіне, думкі («Не, не! З чаго б раптам! Кожнай жа наканавана некалі стаць жанчынай!»), злякнулася і яшчэ прыспешыла крокі. Разумела ж, што Марыя — не «кожная», што яна, Святлана, дрэнь, калі тую, каго пасвойму абагаўляла ўсе гэтыя гады, з першага класа, лічы, аддала на здзек, на гвалт, калі і зараз вышуквала апраўданні, баранілася спадзяваннем на цуд: М а р ы я н е а с м е л і ц ц а, М а р ы я н е з а х о ч а...







Яна, Святлана, канечне, дрэнь, і Кірыл — Кірыл, якому аддана, пакорна служыла яна і душою і целам, — гэтаксама дрэнь. Яшчэ большая. За сябе спалохаўся: як жа, судом запахла... І чысценькі ж нібыта, а віну, пашукаўшы, знойдзеш... Суд, віна, верагоднасць пакарання — Святлана пра гэта не думала. Ні пра што яна зараз не думала. «Не трэба, нельга было везці з сабой Марыю!» — і ўсё. І ўсе словы, што засталіся ў ёй і зрэдчас гучалі, падганяючы, прыспешваючы.

А чырвань угары не цямнела, не шэрхла, і гарачыя водсветы яе сцякалі па аконных шыбах, і здавалася, што ў гэтым руху іх патанаюць, размываюцца абрысы камяніц і яшчэ не адзетых у лісцё тапаляў. У нейкі момант Святлане нават здалося, што і набрынялая чырванню рака, і камяніцы з павыяданымі агнём вокнамі, і чорныя, мёртвыя на іх фоне таполі — плод яе фантазіі: наўяўляла чорт ведае чаго... Але здалося і здалося. Фантазія была яўна ні пры чым. Бо вось жа і іншыя з трывогаю азіраліся на неба. Бо вось жа не адна яна ўздрыгнула, пачуўшы сірэну «хуткай дапамогі». Трывога была разліта ў самім паветры.

«Заўтра дваццаць сёмае... Марыю запрашаў да сябе прафесар кансерваторыі», — прыгадалася раптам Святлане, і яна двойчы ці тройчы вярталася да думкі, спрабуючы зразумець сувязь яе з гэтымі вячэрнімі хвілінамі, з гэтым шаленствам фарбаў вакол, з гэтаю агоніяй (інакш не назавеш) красавіцкага сонца. А позірк ужо імкнуўся ў глыб двара, туды, дзе з-за вугла дзевяціпавярховіка павінен быў вось-вось вытыркнуцца, адкрыцца вугал другога, таго, у якім жыла Марыя. А крокі ўжо запавольваліся. Не хапала дыхання. І рашучасць раптам пакінула яе. Быццам яна ўжо в е д а л а.

Калі, збочыўшы з дарогі, абагнула той, першы, дзевяціпавярховік і ля аднаго з пад'ездаў, таго, куды ішла, убачыла людскі натоўп, не злякнулася. Нават не здзівілася. Трывога, горкае адчуванне віны, страх перад тым, што магло здарыцца і здарылася, змяніліся глыбокаю абыякавасцю да ўсяго. Пуста стала ў душы — так пуста, што сэрца бухала ў грудзях проста-такі аглушальна. Святлана нічога за ім не чула. Ні сірэны «хуткай дапамогі», што падрульвала да натоўпу, ні гулу галасоў, ні сваіх крокаў, цяжкіх і няўпэўненых. Яна — прадчувала. Яна ведала. Кінулася наўздагон, спадзеючыся паспець...

Лепшае, відаць, што цяпер яна магла зрабіць, — павярнуцца і пайсці назад, пайсці адсюль. Куды заўгодна: на раку, у парк, дадому! Ніхто нічога ўжо не зменіць, ніхто... Прыдумалі дурацкага Ісуса, гэткага ж бездапаможнага, як і яны самі, цешыліся, чакалі цуду, а ў выніку: той, хто не вынішчае сваю веру сам, знішчаецца. Так або інакш. Рана або позна. Вось і Марыя... Не трэба, нельга было яе везці з сабою: Марыя жыла музыкаю, задыхалася ўжо, як і ўсе, атрутнымі выпарэннямі хлусні, але пакуль жыла ў ёй музыка... Абступілі! Дзівяцца. Смакуюць чужую смерць. Ніхто не азіраецца на ўздзетага на крыж Ісуса, а і ён — за тое ж... За чысціню спадзяванняў. За чысціню. За казку, якой хацеў вылечыць людства. Людства! Натоўп, падобны на гэты... Шыі выцягваюць, абы ўгледзець чужую кроў, у таго-сяго, глядзіш, і сляза па шчацэ скоціцца: беднае дзяўчо! Пэўна ж, утварыла што якое! А няхай... няхай ведае...

Святлана, нібы ўцякаючы ад сваіх думак, тупа тыцкалася ў спіны, шчыльна, плячо да пляча, падагнаныя ў гэтай жывой загарадцы вакол мёртвага цела, і не знаходзіла праходу, хоць бы малой шчылінкі, каб ушчаміцца, прабіцца наперад. Куды наперад і навошта ёй было туды, яна не адказала б. Ды і не пыталася б. Ні ў сябе, ні ў каго іншага. Ішла — ад

спіны да спіны — па крузе — адзін круг, другі... Не чула нічыіх слоў, нічыіх вохканняў. Не бачыла, у чыю спіну ўтыкалася — усякі раз, як хацела ступіць наперад. Яе не ўпускалі ў круг, яе адштурхвалі — яна не разумела.

Калі ўзляцела, разбіўшы цішыню, якой яна была аглушана, жахлівае выццё сірэны, непапраўнасць таго, што адбылося, дайшло да свядомасці Святланы. І доўга між камяніц і высокіх старых таполяў, падняўшы з іх голля зграі варання, кружыў адчайны крык, адчайны кліч яе:

— Марыя! Ма-рыя...

(ВЫПІСКА З СУДОВАГА ПРАТАКОЛА:

«Шаргун Святлана Пятроўна, яна ж — Дзетка, яна ж — Гун, 1969 года нараджэння, непаўналетняя, звязана з групаю Залужнага з верасня 1984 года. Апроч таго, што прымала ўдзел ва ўсіх оргіях, выконвала ролю агента па вярбоўцы малалетніх асоб, у большасці — школьніц: заманьвала іх на дачу, аддаючы на гвалт, і яны тым самым, пад страхам страшнага пакарання ў выпадку нязгоды ці скаргі, уцягваліся ў распусту, а некаторыя далучаліся да карыстання наркотыкамі...»)



## *Уладзімір Паўлаў*

### КАМІСАРЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ

Вы зусім не відны,
Як пульсары,
Грамадзянскай вайны
Камісары.

Сумятня кінахронік
Нямая:
Люд паўстаў,
Што нічога не мае.

Расступіцеся,
Чорныя хмары,—
Люд вядуць той
На бой камісары.

Камісары
Пакутнай юдолі,
Заслужылі вы
Лепшае долі.

У палон
Белякі вас не бралі.
Жлоба з Троцкім
Знішчаць пачыналі.

Молах
Шабас наладзіў вясёлы —
У крыві падплываў
37-ы.

Адкрываў бог зямны ваш
Вусаты
Калыму, Салаўкі,
Курапаты.

А хто з ім заставаўся
Ў Вандэі,
Станавіўся на горла
Ідэі...

Прамінуліся
Добраю казкай
Камісары
Вайны грамадзянскай.

Кінахронікі
Кадры нямыя.
Там яшчэ ўсе вы —
Людзі жывыя.

Не спяшайце за нас
На бой грозны.
Нам вядомы ваш лёс
Незайздросны.

Пачакайце!..
Не чуюць, не чуюць...
У прасторы
Пульсары пульсуюць.

### МАМІНА КАЛЫХАНКА НАДА МНОЮ

Месяц нахмураны з засені выйшаў.
Дзетак птушыных вецер калыша.
Дзетак птушыных вецер люляе.
Спі, мая кропелька, знічка малая.
Вунь у акенца воўк пазірае.
Татка далёка канал капае.
Быў старшынёю твой татка ў калгасе,
Калі бяскорміца ўсюль пачалася.
Тут і паставіў ён сабе свечку —
Зрэзаў з двух гумнаў стрэхі на сечку.

Ходзяць кароўкі, конікі сыты,
Але гуменцы тыя раскрыты.
Каб на кулі мы саломкі нажалі,
Не пачакалі — татку забралі.
З кім сябраваў ён, кінулі ў горы.
Татка твой — шкоднік — на Беламоры.
Вырасцеш, бог дасць, займееш крылле,
Тыя гуменцы з бацькам накрыеш.
Ночкаю доўгай птушка аддыша —
Дзетак малых яе вецер калыша...

■

Калі я скажу,
Што я самы чэсны,
Я гэтым
Уз'юшу подлых.

Калі я скажу,
Што я самы добры,
Я гэтым
Згуртую хцівых.

Калі я скажу,
Што я самы верны,—
Руку мне
Працягне двурушнік.

Калі я скажу,
Што я самы мудры,—
Ад радасці
Дурань заскача.

Калі я скажу,
Што ўсіх я найлепшы,
На тым свеце павернецца
Мама.

## ЧАТЫРЫ НЯДЗЕЛІ

У адклад на лепшы час
Годы праляцелі.
І сышліся адзін раз
Чатыры нядзелі.

Першай тая, што была
Дзеўчынай з марозу.
Што абдымкі адвяла,
Кінулася ў слёзы.

А другая, што вясной
На спатканнях зябла.
Пакуль смеліўся я з ёй,
Стала жонкай сябра.

Ну, а к трэцяй лета ўсё
Пасылаў я свата.
Яны — веры ці дасцё?! —
З-за таго й жанаты.

Прад чацвёртаю стаю,
А яна і кажа:
«Дочку замуж аддаю,
Што магла б быць нашай».

А сказалі ўчатырох —
Ледзьве не заплакаў:
«Нашым дочкам не дай бог
Гэткіх разявакаў».

Галавою я ківаў,
Стоячы ля хаты —
Сам вас недапільнаваў,
Сам і вінаваты.

■

Палаў пажар, і суцемкі плылі,
І светлы дзень хоць зрэдку пракідаўся.
Але самавыгнаннікі былі
На кожны раз — хто краю выракаўся.

Не выганяў іх з дому злы сусед,
Ні родная пагода і прырода.
У большасці ім трэба быў не хлеб,
А смаката з чужога бутэрброда.

Цяпер пра іх агалашае час
І скрозь гучаць залівістыя ноты.
Аказваецца, з'ехалі ад нас
Пакутнікі адны і патрыёты.

А хто ж быў я, а хто былі ўсе мы,
Што ў трудны час у прочкі не пабеглі?
У Курапатах роў маўчыць нямы
І ў Трасцянцы, дзе тысячы палеглі.

Вас там няма. І добра, што няма.
Бо меншы боль з зямлі к жывым ісціме.
А край чужы ды лёгкая сума
Вяртае думы к кінутай радзіме.

Бог вам суддзя...
А шлях вядзе дамоў
Таго, што гора мыкала па свеце,
Хто не змірыў нянавісць і любоў
Ні ў памятлівым сэрцы, ні ў манеце.



## НА СВЯЦЕ КНІГІ Ў КАЛГАСЕ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» КАМЯНЕЦКАГА РАЁНА, ЯКОЕ ВЁЎ СТАРШЫНЯ У. Л. БЯДУЛЯ

З тым, за што не палаюць, навошта спяшаць?
А хоць крыж на ім цяжкі, трава-мурава!
Калі так, то павінна ў Бядулі спярша
Па надоях і мясу балець галава.

Так і ёсць.
Ды, калгасны праводзячы год,
Ён на кніжчына свята паэтаў заве.
З усіх вёсак у Расну пазвозіў народ,
Бо не хлебам адзіным Бядуля жыве.

У палацы ў фае — і пано і вітраж.
Не адзін тут стараўся сталічны мастак.
А для сцэны рухомай зусім не міраж
І Вялікі тэатр, і заезджы спявак.

У Бядулі хапае душы і дабра.
Вунь патлаты пііт, звыкшы, зноўку пыліць.
А мясцовая песня — што ў полі вярба,
Пахілёная нізка, цярпліва стаіць.

Амаль бачу: адкінецца лішняга друз —
Яна ступіць сюды па расе басанож.
Працай слынны Бядуля на ўвесь наш Саюз,
Буракамі, і бульбай, і статкам... І ўсё ж!

Шлюць Бядулю ў калгас не абы-якіх муз,
Бо і сам ён не просты, ён — двойчы Герой.
А тут раптам сапраўдны амаль што канфуз,
Што на кніжчыным свяце адбыўся са мной.

Падыходзіць чарга. Трэба слова казаць
Старшыні
пра мой тытул, і званне, і чын.
І яму як не зручна, бо госць — што казак,
Які род свой казацкі не ўславіў нічым.

Зала ж звыкла даўно пазнавацца з імёнамі,
Прад якімі — рэгалій на цэлы буклет.
Мне таксама няёмка...
Уладзімір Лявонавіч,
Аб'яўляйце як ёсць:
— Выступае паэт!





## *Уладзімір Мазго*

### РАВЕСНІКУ

Не ты сказаў:
«Масква за намі!..»
Ты нарадзіўся
і узрос
Не пад гарматнымі
стваламі —
Стваламі сосен
і бяроз.
Гула
эстрадная залева,
Вятрыска гнуў,
а ты — трываў...
Калі заносіла
налева —
Направа
ўпарта кіраваў.
Бо ні залева,
ні навала
Цябе спалохаць
не маглі.
Тваім жыццёвым
ідэалам
Заўсёды
смелыя былі.
І за афганскімі
хрыбтамі,
Дзе цішыні
згубіўся след,
Ты не сказаў:
«Масква за намі!..»
Удакладніў:
«За намі — свет!..»

■

*...нашто ж на Зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?*
М. Багдановіч

Жанчыне дадзена —
радзіць,
Жанчыне дадзена —
расціць.
Каханай быць
адзінай быць.
Крый бог,
дзяцей асіраціць.
Я рос з дзяцінства
сіратой,
Туманы піў,
як сырадой,
І пад вандроўны стук
калёс
Глытаў
ільдзінкі слёз.
Спасціг
з трывогаю цяпер:
У чалавеку
дрэмле звер,
І пры жывых бацьках
штогод
Расце
атрад сірот.
Няўжо
забыліся зусім,
Як вочы нам
адкрыў Максім:
Навошта сваркі,
звадкі,
боль?..
У гэтым соль...

■

Яшчэ мы недзе там,
далёка,
На іншым беразе
з табой.
Між намі —
холад, слота,
спёка,
І снегавей,
і лістабой...
Яшчэ заносяць
снегапады
Сцяжыну,
стаўшую мяжой
Тваёй уласнае спагады
І — адпаведнае —
чужой.
Яшчэ, як некалі,
віруе
Рака
святога пачуцця,
А ўжо ніколі
не даруе
Нам
ледзяного забыцця...
Яшчэ,
адолеўшы завею,
Такія розныя ў жыцці,
Як мы змаглі,
не разумею,
На гэты бераг
перайсці?..

■

Знаёмыя твары сяброў,
Прыветныя ўсмешкі.
На ўзмежку
Вячыстых бароў —
Бярэжкі.

Дзе рэха
Канала ў журбе
Капежнай,
Ці не прысніўся
Табе?
— Канечне...

Варушыцца
Зноў напамін
Хваляй...
З табою,
Дзе сёння адзін,
Стаялі...

■

Шаптала снежная бяроста,
Відаць,
Свярбела прадказаць...
А нас даўно
Чакала ростань,
Дзе бестурботна палазам.

Канала
Ўснежаная скруха.
І ты вяртаўся на мяжу,
Дзе бінтавала завіруха
Тваю астыглую
Душу...

### МАЎЧАННЕ ЗОР

*...мы паслалі сігналы да 14 бліжэйшых зорак. У выпадку спрыяльнага выніку адказы прыйдуць у 2018—2064 гадах...*
В. Троіцкі,
член-карэспандэнт
АН СССР

**1**

Касцёр гарэў,
Скакаў агонь,—
Ты вынайшаў яго...
Твой позірк грэў
Зярняты зор
Між воблачных снягоў.

Ты цвёрда верыў,
Чалавек:
Зярняты прарастуць
Адкрыццямі...
У новы век
Касмічную вярсту,
Нібы аблогу
У тайзе,
Глыбока разарэш...

Ты вырастаў,
Нібы з адзеж,
З адкрыццяў —
Пакрысе...

**2**

Спрадвек красуе
Млечны Шлях,
Калосіцца ўгары.
— Ці ёсць жыццё
На тых палях?..—
Мяркуюць плугары.

— Ці ёсць там
Плёсы і брады?..—
Пытанне прабяжыць.

— Бадай,
Па розуму браты
Павінны
Ў небе жыць...

— Хутчэй жа ім
Пашлём сігнал,—
Дадзім
Умоўны знак...

Антэна
Мацае канал:

Эфір трасе
Скразняк...

**3**

Нашчадак,
Выслухай мяне:
Пакуль пішу пяром,
Не раз
Планету скалане
Ўгары
Ракетны гром.

Не раз
Свінцовыя дажджы
Пабачыла Зямля...
Ці давядзецца
Нам дажыць
Да сонечнага
Дня?..

Ці давядзецца
Нам пачуць
Кліч зораў
Паміж хмар?..

Крычу —
Да сонейка качу
Зямны,
Здаецца,
Шар...

**4**

Яна не спіць...
Суладна часу
Рытмічна круціцца
Зямля.
Нібы радар,
любую трасу
Фіксуе зблізку
і здаля.

Хутчэй —
у вечнае прасторы —
Пачуць бы
выснены адказ!..

. . . . . . . . . . . . . .

Калі Зямлі
адкажуць зоры,
То ці заспеюць,
людзі,
нас?..



## ЮРКУ ГОЛУБУ

*...паэзія — гэта прыватная практыка пад зорамі.*
З аўтографа
на кнізе
«Векапомнае поле»

Пакуль зара
Ля Горны
Не раскладзе
Касцёр,
У моры
Рукатворным
Гуляюць
Блікі зор.

Ускінеш галаў:
Высі
Падобны ярыне —
Так густа
Зорны высеў
Сягоння зарунеў,
Што зэльвенскім
Палеткам
Не ўступіць
На ўраджай,
Дзе адкрыццю
Мы — сведкі
Адзіныя,
Бадай...



*Валерый Няхай*

АПАВЯДАННІ

# ДА ГОРАДА РУКОЙ ПАДАЦЬ

Пра тое, што Ягора Лукіча, вядомага ў вёсцы сталяра, сын угаварыў пераехаць да сябе ў горад, ведала ўся Калюга. Чакалі дня, гадалі. Жывёлу і птаства Ягор Лукіч прадаў суседзям, да іх жа перайшла і маёмасць. Задарма ўсё пайшло. Свой інструмент (як жа без яго сталяру), ордэны з ме-



далямі ды сякія-такія фатаграфіі і дакументы Ягор Лукіч склаў у пацёрты чамаданчык. Хата-пяцісценка, асірацелая і прыціхлая, чакала свайго лёсу. Вяскоўцы думалі: Ягор Лукіч ведае, што будзе з домам, але памоўчвае. Сын наказаў не малоць языком, а можа, і самому старому не варта трубіць аб гэтым. Даўнія прыяцелі старога Крывак і Байкоў — сухарлявыя, з маршчыністымі тварамі і шыямі — і яны не ведалі пра дом. Усялякія чуткі хадзілі па вёсцы.

Незадоўга да рэвалюцыі, студзеньскай завірушнай ноччу, з'явілася на свет дзіця, нарачонае Ягорам. А пасля пасыпаліся адзін за адным Федзька, Іван, Зінка. Лука і Праскоўя не нарадуюцца: сытна, галадна — усялякае бывае, але ж заўсёды дружалюбна праходзіла жыццё ў доме, пакуль вайна бядой лютай не прайшлася па зямлі. З сям'і толькі Ягор уцалеў. Вярнуўся з фронту ў апусцелы дом, падправіў яго, а пасля ажаніўся. Сонька, рыжавалосая і белатварая, хутка напоўніла хату цеплынёй і ўтульнасцю.

Хлопцы і дзяўчаты, стаўшы на ногі, разляталіся па гарадах, з гэтым звыкліся. Пусцелі паступова некалі мнагалюдныя вясковыя двары, зводзіліся на нішто. Праўда, былі і такія, хто заставаўся, прырастаў да зямлі. І вадзіліся пакуль у Калюзе і каровы, і певень-крыкун. Была і сціплая мужыцкая весялосць на святах. А ўвосень добра каласілася, гнулася да зямлі збажына... Разляталіся па далёкіх і блізкіх гарадах пасылкі з вясковай спажывай. Былі часіны, калі зімой, як заведзена, кожная хата дымком дыхала, запаўняючыся цеплынёй, а ўлетку двары і вуліцы поўніліся вясёлым гоманам дзятвы. Восенню Калюга пусцела. Рана, з першымі прыцемкамі, сенцы замыкаліся, знікала святло ў вокнах, за якімі дажывалі свой век пакінутыя старыя. Ліха-бедна, але ў хаце трапяталася жывая душа. Аднак мінулым летам з'явілася ў вёсцы першая хата з забітымі вокнамі. Стаяла, наводзячы тугу дашчатымі крыжамі. Выветрыўся з хаты жывы чалавечы дух. Агароджа вакол хаты пакасілася, і сталі з яе знікаць дошкі, яшчэ прыгодныя для гаспадаркі. Знайшліся зайздрослівыя вочы ды заграбушчыя рукі. Былі ў хаце гаспадары, ды нічога ж вечнага няма — пайшлі з жыцця. І вось зараз другі двор на чарзе. Выязджаў Ягор Лукіч, пакідаючы дом-сірацінку. Не было раней такога сярод калюжанскіх.

Віцька, сын Ягора Лукіча, прыехаў па бацьку ў суботу. Сонейка ўжо высушыла начныя росныя пакосы, сагрэла паветра.

Грузавік уляцеў у вёску, ударыў калёсамі па лужынах, абляпаў гразёю агароджы, спыніўся ля высокай таполі. Ягор Лукіч пасадзіў тоненькае дрэўца каля дома ў дзень нараджэння Віцькі. Сорак гадоў мінула. Таполя ўвесь час цягнулася ў неба, не ведаючы зморы і перашкод, а Віцька да семнаццаці гадоў падняўся да вышыні, адпушчанай яму прыродай, і пачаў падавацца ўшыркі.

Ягор Лукіч сядзеў у адзіноце на лаўцы пад акном свайго дома. З выпадку пераезду ў горад на ім былі новы касцюм і чаравікі на тоўстай падэшве. Ягор Лукіч глядзеў, як з кабіны грузавіка вываліўся таўсташчокі Віцька, у куртцы, памятых штанах, выставіўшы пуза, зачыкільгаў, быццам качка, да дома. З другога боку кабіны саскочыў на зямлю шафёр — даўгалыгі, вусаты, у майцы. Хлопец пацягнуўся, пачаў азірацца. Віцька падышоў да бацькі, прысеў, паглядзеў на чамаданчык.

— Прывітанне, бацця. І ўся паклажа? Не багата. Ведаў бы, аўтобусам прыехаў. Астатняе дзе?

Ягор Лукіч, паклаўшы на калені рукі, пацяжэлыя ад працы, маўчаў.



Застыў у аняменні. Вочы яго з чырванаватымі бялкамі глядзелі ў зямлю, набрынялыя павекі ўздрыгвалі. Віцька заўважыў гэта.

— Ты, бацця, стары мой мілы, не бядуй. У крыўду не дам. Запомні, бацька ты мне, а я табе — сын. Калі што — заўсёды можаш вярнуцца, наведацца. Не на край свету сабраліся. Да горада рукой падаць.

Віцька пачухаў патыліцу. Вядома, памаўчаць трэба было, не мучыць старэчую душу, ды не мог Віцька. Хацелася раскатурхаць бацьку, развеяць яго думкі. Але і гаварыць таксама не хацелася. Не да размоў было. Зараз хоць бы крыху цяпла старому, каб адтаў трошкі. Вось жа што з ім зрабілася — не чалавек, яблык сушаны. Якісьці няясны сорам запоўніў Віцькаву душу, быццам молат, грукала сэрца. Але ж справа зроблена, чаго пакутаваць? Гора, маленькае ці вялікае, можа, і тоіцца ў душы чалавека, але ж час вылечвае, вяртае жыццёвыя сілы. Нічога, перажыве і гэта.

— Бацця, за астатняе колькі ўтаргаваў?

Адказу не было.

— Ну-ну, твая воля, — незадаволена і з нейкай палёгкай, што не трэба больш пытаць, прабубніў сын і пайшоў у хату. Ці не засталося чаго? Сноўдаўся па пустой хаце, блукаў позіркам па сценах, бог ведае калі абклееных. Шпалеры вылінялі, абшарпаліся да дзірак. Скакаў па падлозе. Падлога, нібы кураня, папісквала. «У пару акулярык падвярнуўся, — радаваўся Віцька. — Год-два хата яшчэ пастаяла б, а потым — толькі на дровы». З гэтымі думкамі і пакінуў родны дом. Назаўсёды.

Бяда Ягора Лукіча пачалася з Віцькавай мары купіць «Масквіч». Віцьку грошай не хапала, а Ягор Лукіч на старасці год грашыма не памагаў. Выпадак Віцьку падвярнуўся. Сустрэў ён аднойчы прыяцеля, Якава Андрэевіча, інжынера, аднагодка, які насіў акуляры. Разгаварыліся. Скардзіцца той: атрымаў участак для дачы, а доміка днём з агнём не знайсці. Вось каб Віцька бацьку да сябе забраў, а дом яму ўступілі. Не паскупіўся б. Прыкідваў, разважаў. Было аб чым. Стары з восені адгружаў сыну бульбу, яе хапала аж да вясны. А як толькі зямля цвярдзела, клікаў Віцьку і Таньку, нявестку сваю, парсюка калоць. Не пераводзілася ў іх свежаніна. Але ж абяцанні Якава Андрэевіча не выходзілі з галавы. Вырашыў: куплю «Масквіч». Закончыў курсы, правы атрымаў і паехаў у сваю, ужо не родную Калюгу, на перагаворы. Па дарозе разважаў, з якога боку падысці да бацькі. Нічога не прыдумаў, махнуў рукой. Галоўнае — усё выкласці прама з парога, а там словы самі знойдуцца. Прыехаў ноччу, уваліўся ў дом, кінуў на стол плашч, што прамок ад дажджу. За акном працягвала грымець навальніца, удалечыні ўспыхвалі маланкі, у шкло бесперапынна сцёбала вада. Ягор Лукіч, тонкі і галавасты, выцягваў шыю, глядзеў на сына.

— Здарова, бацця! Я зараз па цябе прыехаў. Айда ў горад жыць да нас.

Стары неяк пуста глядзеў на сына, не разумеў.

— Жыві, бацця, з намі. Намучыўся адзін. У нас вада гарачая, ацяпленне, газ на кухні... Танька наказала аднаму не вяртацца.

Дайшло да старога. Спалохаўся ён, прысеў спачатку, потым паклыгаў за печ. Пасядзеў там крыху, уздыхаючы, падняўся, падышоў да сына.

— Ну, падлюга!

— Ды ты пачакай, бацця, — Віцькаў голас баязліва зазвінеў па хаце. — Слухай, што скажу. Паглядзі на сябе: жывога месца няма. — Віцька выставіў палец, пачаў тыцкаць ім. — Куды ні паглядзіш — балячка. Так жа? —

палец сына замёр вертыкальна перад ашаломленым бацькам.— Не варта, баця. А ў нас дактары па вышэйшаму разраду, бальніцы з ліфтамі.

Памярцвеў твар старога.

— Віцька, пачакай троху, дай памерці тут.

— Пажывеш яшчэ, рана паміраць. Мы табе касцюм справім, туфлі новыя... Ты куды, баця? Пачакай.

Згорбіўся стары, апусціў вочы, крэкчучы, улез у плашч і паплёўся з хаты, абышоўшы сына. Праз хвіліну ляпнулі дзверы ў суседкі Сцяпаніхі, а потым засвяцілася акно. Доўга Віцька не спаў, варочаўся, падмінаў пад сваю тугую спіну бацькоўскія грубыя прасціны. Слухаў, як навальніца бахае, быццам хто стрэльбай сваволіць.

...Віцька вярнуўся да машыны. Бацькі не было. На лаўцы туліліся адзін да аднаго Еўдакім Крывак і Іван Байкоў. Абодва павіталіся.

— У горад, значыць, бацьку забіраеш?—пацікавіўся Еўдакім. Адзінае яго слязлівае вока жмурылася, загрубелыя пальцы скрыжаваліся.— Разам яно, канешна, больш зручна. Жонка-то не пакрыўдзіць Ягора?

— Добрая, сусед, добрая,—адказаў Віцька, азіраючыся.— Баця дзе, не бачылі?

— Пайшоў кудысьці Ягор па вёсцы,—адазваўся Байкоў, прыпадымаючы шэры твар.— Вернецца. Ты за сад і дом не бойся, прыглядзім. Гэта зараз Ягор ад'язджае, а, глядзіш, надакучыць там, вернецца: хата ж чакае.

Падышла Сцяпаніха, суседка Ягора Лукіча. Удава гадоў пад шэсцьдзесят, шыракацелая, з перабітым носам—з вайны метка. Глядзела на Віцьку нейк нядобра, папраўляла валасы пад хусткай.

— Ну, сынок, што вытвараеш? Ды памрэ ён у цябе праз... Дактары гарадскія выратуюць? Хе-хе... Чужы Ягор да гарадскога жыцця. Падумай ты, галава дзіравая, як ён там жыць будзе, спаць дзе? Са Светкай тваёй? Дзеўцы скора шаснаццаць, а ты старога да яе... На згубу—вось на што надзея твая. Думаеш, калі старому за семдзесят—скапуцінца хутка? Маўчыш?

Маўчаў Віцька. Паспрабуй запярэчыць. Што ні слова—праўда. З бацькам яму было лягчэй размаўляць і пераканаць яго, чым са Сцяпаніхай. І мужчыны старыя коса пазіраюць. Тут не горад, так проста на суседзяў не крыкнеш, слова крыўднага не скажаш. На гэтых вачах рос, падымаўся Віцька.

— Страху-то нагналі,—сказаў ён ціха.— Да бацькі з клопатам, ды яшчэ і вінаваты аказаўся. Справа сямейная, разбярэмся.

— Бач ты, сямейная,—не сунімалася Сцяпаніха, махаючы рукой.— Хату надумаў прадаць, вось і ўсе твае справы.

— Ведаеш што...—не вытрымаў Віцька, са злосцю сказаў.— Ішла б ты, га? У тваіх жа дзве кватэры ў Мінску, больш, чым мая. Ёсць месца дзе жыць. Але ж не завуць. Ну?

Жанчына моўчкі глядзела на Віцьку.

— Зайздрасць узяла. Ага!—не сунімаўся Віцька.— Твае, вона, падкінулі табе на ўсё лета трох гаўрыкаў, сунулі пяцёрку на ледзянцы, а самі—на поўдзень цю-цю... пузы грэць. Хто табе вясной гной на гарод вазіў? Фёдар? Не, ні Ленка твая, ні Фёдар не прыехалі. І ў горадзе ты ім патрэбна, як папу гармонік.

— Ды што ж гэта ты... Я ж зусім...—разгубілася Сцяпаніха. У голасе жанчыны не столькі папроку было, колькі жаночай безабароннасці, крыўды.



Пакуль гаманілі суседзі аб сваім, ніхто не заўважыў, як у вёску праз сады праніклі жоўтыя «Жыгулі». Прыцісnуліся да агароджы, зарослай пахучым палыном і крапівой калючай. З машыны вылез доўгі, хударлявы мужчына ў акулярах, у ботах, брызентавай куртцы і кепцы, ён агледзеўся і пашыбаваў да дома, што прытуліўся ля таполі. У яго руках былі бляшанка з фарбай і пэндзаль.

А ў гэты час Ягор Лукіч, наведаўшы магілу жонкі, вяртаўся ў вёску. Ішоў ён, шоргаючы чаравікамі па дарозе. Пры ўваходзе ў вёску ля хаты Фёдара, калгаснага брыгадзіра, спыніўся, патаптаўся і зайшоў у дом. Пастаяў у сенях, зазірнуў на кухню. Фёдар, моцны хлапчына з квадратнай шыяй і рыжым чубам, сёрбаў боршч з бацвіння.

— Здарова, Федзя. Я пасяджу?—запытаў стары.

Фёдар падняў галаву.

— Заходзь, Лукіч, сядай. Ад'язджаеш? Ну, ну.

Стары прысеў, захмыкаў, потым заўсміхаўся, падабраў пад сябе ногі і паваліўся на бок.

— Што з табой, Лукіч?—Фёдар падхапіў непаслухмянае цела старога, выпраставаў яго. Ягор Лукіч вінавата ўсміхаўся сухімі тонкімі губамі, вочы яго цьмяна глядзелі перад сабой.

— Стаміўся я, пройдзе,—стары сеў, абапёрся рукамі аб лаўку.— Адвозяць мяне, Федзя. Машына з горада прыехала.

Фёдар моўчкі сёрбаў з талеркі.

— Можа, зламалася машына тая, га?—працягваў стары, пагладаючы на брыгадзіра.—Тады заўтра паедзем. А чаго спяшацца? Горад не цяля, не збяжыць. Віцька агароджу жалезную на магілу маці так і не справіў.— Стары заруxаўся ўсім целам, плечы пінжака, занадта вялікага для яго, прыўзняліся ўгору.—Які ўжо год Віцька абяцае агароджу справіць. Як з'еду адсель, адна Сонька застанецца.

— Ды ты, Лукіч, мабыць, тужыш, нудзішся,—Фёдар закончыў есці, хадзіў па кухні.

— Прыглядзім за магілай. Сваёй накажу, і яна прыгледзіць. Ты вось пра сябе падумай, новае ў цябе жыццё пачынаецца, з усімі выгодамі. Толькі не бойся. Што такое горад? Горад...—Фёдар шчоўкнуў пальцамі,—ну, як баба не бітая, задзірлівая, ганарыстая. Спачатку ў горадзе галава кругам ідзе, а пасля прызвычаішся. Эх, Лукіч. Ты немца біў, не баяўся, а тут у штаны напусціў.

Фёдар падхапіў раптам табурэтку, падсеў да старога.

— Чуеш, Лукіч, як земляка прашу, дапамажы ў адной справе. Стрэльбачку хачу раздабыць новую, двухстволку. Паглядвай там, у горадзе, цяжкасцей ніякіх. Віцька якраз побач з магазінам для паляўнічых жыве. Прасіў Віцьку, упарцінца. Важнічае, гарадскі стаў. А ты наведвай. Як убачыш, што мужычкі прымервающца,—бац мне тэлеграму...

— Каб ведаў, што Віцька так хутка справу праверне, можа, сам у раёне здабыў бы агароджу. На Віцьку надзея была. Забыў маці. А Сонька, як памірала, наказвала: глядзі, Віцька ў нас адзін, уваж яго, калі прыйдзецца. Уважыў.

— Бачыў адну стрэльбу ў Гомелі, маці мая!..—Фёдар страсянуў чубам.— Ствалы, прыклад... І нядорага цягнула, ды грошай з сабой не аказалася. Упрошваў, умаляў прадаўшчыцу патрымаць... Але ж не, а пакуль з'ездзіў дадому ды вярнуўся, дык усё разабралі. Так вось... Значыць, дамовіліся? Вось і добра, а цяпер ідзі, зачакаліся, відаць.

— Ды не, Федзя, — Ягор Лукіч глядзеў знізу на хлопца, нервова пераступаючы нагамі. — Машына ў іх зламалася, я то ведаю. Пакуль кола заменяць, балон надзьмуць... Віцька так і сказаў, што да вечара не ўправяцца. Пасяджу ў цябе, — стары раптам ажывіўся, схапіў Фёдара за руку, прыцягнуў да сябе, прашаптаў: — Федзечка, сынок, схавай мяне. Я табе па гаспадарцы ўсё буду рабіць, усё, усё! Я моцны яшчэ, сто кіло несці магу, не глядзі, што стары, не глядзі... Пенсія ў мяне, трыццаць рублёў...

— Ты што гэта, Лукіч? Што ты гаворыш! — Фёдар павёў шырокім плячом, сціснуў тонкія губы. — Ачмурэў пад старасць! З табой не засумуеш. — І рашуча, амаль не расціскаючы вуснаў: — Уставай!

Ягор Лукіч спалохана падняўся, не адрываючы вачэй ад хлопца.

— Ну што ты, Федзька, не злуй, ну што ты... Віцька не супраць, каб я астаўся, у нас дамоўленасць такая, — схлусіў стары. — Дом яму трэба прадаць, справа то маладая, гарадская, а так Віцька згодны, каб... значыць, гэта... тут астаўся.

— Не выдумляй, стары, ідзі.

Федзька адступіў ад Ягора Лукіча, пачаў падштурхоўваць яго то злева, то справа ў локці, востранькія, як у падлетка. Так і выйшлі на ганак.

— Далей табе дарога вядомая, бывай, Лукіч. Не злуй, — голас Фёдара стаў прымірэнчы. — Дык не забудзь, па-суседску, га? Угавор даражэй грошай. Буду чакаць тэлеграмы. Эх, Лукіч, разам сходзім на паляванне, стралянём раз, другі... — і зачыніў за сабой дзверы.

...Віцька кінуўся шукаць бацьку — няма нідзе. Чамаданчык закінуты ў кузаў, дом замкнёны, ехаць пара, а Ягора Лукіча няма. Шастануў Віцька па суседзях — няма. Пайшоў у сад і наткнуўся на акулярыка. Якаў зладзеявата азірнуўся і выводзіў лічбы фарбай на бярвёнах. Не заўважыў Віцьку. А той паназіраў за ім з-за яблыні, як ён, устаўшы на дыбачкі, спрабаваў дацягнуцца да самага верхняга бервяна, але дарэмна. Пэндзаль тыкаўся ў ніжняе бервяно, фарба выцякала. Якаў мацюгнуўся, сплюнуў, бляшанку з фарбай на зямлю паставіў, паклаў пэндзаль і зноў пацягнуўся ўверх рукамі, але ўжо па яблык. І зноў няўдала — высакавата было. Якаў зноў сплюнуў, ухапіўся абедзвюма рукамі за галіну і... раз! Зламаў! Сарваў яблык, надкусіў, зморшчыўся і шпурнуў яго далёка. Зашумела ў галаве ў Віцькі. Хацеў падскочыць да яго, але ногі не скрануліся, замерлі, а па спіне гарачы ручай пабег.

Здавалася, назаўсёды застанецца ў вушах Віцькі хруст зламанай яблыні, быццам хтосьці безупынна таўчэ шкло ў агромністай ступцы. Якаў даўно пайшоў, пасвістваючы, захапіўшы бляшанку з фарбай і пэндзаль, знік за крапівой. А Віцька, як толькі гарачы ручай збег з яго спіны ды пацякла кроў у анямелыя ногі, спачатку прысеў на кукішкі, потым — зусім на зямлю. Яблыневы сад ляніва шапацеў лісцём, на голлі гойдаліся чырванабокія яблыкі. Віцька падняў вочы — насупраць на бёрнах скакалі крывыя пунсовыя лічбы. Віцька зажмурыўся. «Юда», — падумаў ён і ў гэты час пачуў сігналы машыны. Іх, відаць, падаваў вусаты шафёр. Надакучыла чакаць хлопцу. Віцька падняўся, пацягнуўся, размінаючы мышцы, і накіраваўся да машыны.

Ягор Лукіч, Крывак і Байкоў сядзелі на лаўцы каля таполі. Усе ўтрох згорбіліся, паклаўшы рукі на калені, маўчалі. Шафёр, пакурваючы «Прыму» ў кабіне, убачыў Віцьку і замахаў яму рукой, клічучы да сябе. Віцька ў адказ махнуў, падышоў да старых. Пастаяў крыху.

— Ну што, баця, айда?



Віцька падняў бацьку, як малога, і панёс у дом. Старыя ўсталі, пераглянуліся і пачалі сачыць за Віцькам і Ягорам Лукічом. Віцька абмінуў таполю, нагой адкрыў калітку і пайшоў уздоўж кустоў агрэсту. Старыя назіралі, як каля моцнага Віцькавага пляча матляліся бацькавы ногі ў новых чаравіках з тоўстай падэшвай.

— Нічога, баця, пажывi яшчэ, пажывi, — гаварыў Віцька, мякка прыціскаючы лёгкае цела бацькі да сваіх грудзей. А ў іх штосьці балела нясцерпна, быццам акулярык не яблыню згубіў, а яго, Віцьку, з хрустам зламаў напалам і яго бацьку пад самыя калені секанyў... Віцька моршчыўся ад болю, але не спыняўся. Дадому! Дадому!

— Ы-ы-ыыы, — мармытаў Ягор Лукіч мякка, працягла, быццам цялё, што толькі нарадзілася, і прыціснуўся тварам да грудзей сына.

— Дадому, дадому ідзём, баця. Патрывай крыху. Пасядзі трошкі дома, нікуды не выходзь. Адпачывай. А я зараз канапу вярну. Ты ж яе камусьці аддаў? Ну добра, паспі пакуль, сам знайду. Знойдзем канапу. І стол знойдзем. І крэслы. Няўжо не вернуць? Людзі тут, людзі вакол. Да мяне пачакаем ехаць. Чаго спяшацца, сапраўды? Я ж побач, зусім нічога... Да горада рукой падаць.

Віцька занёс бацьку ў хату, пастаяў пасярод пустога пакоя. Так не хацелася будзіць старога. Вось як соладка спіць, не варухнецца.

— Баця, — ціха паклікаў Віцька.

Няма адказу.

— Бацька, чуеш, прачніся, — Віцька крыху адхіліў бацьку, паглядзеў у яго твар. Вось тут і секанула Віцьку канчаткова, прама ў сэрца, так, што ён войкнуў і прысеў, амаль не выпусціў з рук цела.

— Бацька, бацька... Мілы, не трэба... Што ж ты... як жа ты... Дома ж мы, дома... Тата. Та-а-а-а-та!

# ПА СЯМЕЙНЫХ АБСТАВІНАХ

У гасцініцу мы вярнуліся пад вечар. Пасля вячэры Алег, мой таварыш, з якім разам працуем, некуды паехаў. Я падняўся ў нумар. Змяркалася. Падышоў да акна, рассунуў блакітны цюль і пачаў глядзець на горад. Паступова гасла перад маімі вачыма сіняе неба. Зверху даносіліся смех і размова, чулася музыка. Я абапёрся на падаконнік, пазалочаны промнямі сонца, якое заходзіла, і доўга любаваўся вячэрняй Масквой. Успомніў жонку, дачку. Засумаваў... Мы ўжо сем дзён былі ў Маскве. Наша камандзіроўка закончылася, і заўтра раніцой трэба было вярнуцца дахаты.





Зазваніў тэлефон.

— Вадзім, гэта я, Алег.

— Дзе цябе носіць?

— Я знаходжуся на плошчы Свярдлова, каля прыпынку. Прыязджай.

— Навошта?

— Без пытанняў нельга? У мяне лады. Прыязджай, потым усё раскажу.

Калі я прыехаў, Алег сядзеў на лаўцы, выцягнуўшы доўгія ногі, засунуўшы рукі ў кішэні паліто. Яго вялікія вушы тырчалі з-пад кепкі, як дзве далоні. Сцямнела. Квадраты вокнаў успыхнулі жоўтым колерам, горад пачаў нагадваць гіганцкую шахматную дошку. Я прысеў побач. Міма спяшаліся прахожыя, нячутна, быццам цені, крыху воддаль праносіліся машыны, высвечваючы сілуэты людзей і рады таполяў і клёнаў, што паспелі скінуць сваё лісце.

— Давай, — сказаў я, — што ў цябе здарылася?

З яго таропкага расказу я даведаўся пра Ганну. Алег пазнаёміўся з ёй некалькі гадоў назад і, калі бываў у Маскве, заўсёды сустракаўся.

— Сёння я не магу паехаць да яе адзін, — гаварыў Алег, пазіраючы на мяне. — Так атрымліваецца. А сустрэцца трэба. Жыве яна з дачкой, гасцей у яе не бывае. Пабудзем крыху і паедзем.

Я пагадзіўся. Узялі таксі, паехалі. У машыне Алег даў мне шакаладку, сказаў:

— Дасі дзяўчынцы, я з гаспадыняй буду разбірацца.

— Вялікая дзяўчынка?

— Пятнаццатага красавіка спаўняецца восем.

— Ты папярэдзіў, што прыедзем?

— Там няма тэлефона. Паўгода назад яшчэ не было.

Ехалі мінут пятнаццаць. Шырокая дарога бегла сярод белых агнёў, сініх і зялёных шыльдаў магазінаў. На далёкіх вуліцах свяціліся ліхтары, нізкія, быццам карлікі. Нарэшце машына спынілася ў тупіку. Старыя трохпавярховыя дамы стаялі цесна адзін ля аднаго — здавалася, пройдзе хвіліна, і яны пачнуць штурхацца. Вакол ціха, завулак засынаў.

Мы падняліся на трэці паверх, і Алег пазваніў. Дзверы адчыніліся. На парозе стаяла маладая жанчына ў шэрай сукенцы, акулярах, з-за шкла якіх на нас глядзелі вялікія шэрыя вочы. Цёмныя валасы былі сцягнуты ззаду гумкай.

— Ты?! — здзівілася жанчына. — Праходзьце.

Алег пазнаёміў нас. На выгляд Ганне было гадоў трыццаць. Яна жыла з дачкой у малой двухпакаёвай кватэры. Я павесіў куртку і зазірнуў у пакой, асветлены і ўтульны. У куце на канапе, засланай стракатым пакрывалам, сядзела дзяўчынка з доўгай касой, у сінім спартыўным касцюме.

— Добры вечар, — сказала дзяўчынка.

— Добры вечар, — адказаў я і азірнуўся.

Ганна трымала кісці рук пад пахамі, быццам ёй было холадна, і, крыху схіліўшы галаву, глядзела на Алега. Ва ўсёй яе постаці было нешта прыемнае, па-дзіцячаму пакорлівае.

— Даруйце за ўварванне, — сказаў я. — Нязваны госць, як кажуць...

Ганна перавяла позірк на мяне і ўсміхнулася.

— Ну што вы, — сказала яна. — Мы абедзве прыхварэлі, нікуды не ходзім. Сумота. Зараз чай піць будзем.

 

— І не толькі чай,— дадаў Алег. Ён хутка дастаў з саквояжа шампанскае і падаў Ганне. Тая ўзяла, штосьці хацела сказаць, перадумала і, апусціўшы галаву, пайшла на кухню.

Мы з Алегам прайшлі ў пакой, і ў ім адразу стала цесна. Другі пакой, справа, быў зачынены.

— Добры вечар, Таня,— сказаў Алег і прысеў побач з дзяўчынкай.

— Прывітанне, дзядзя Алег. Вы зноў у камандзіроўцы?

— Зноў. Як справы?

— Хварэю. Я заўсёды вясной хварэю, але хутка выздаравею і пайду ў школу.

Я прысеў у крэсла, Алег і Таня размаўлялі.

— Зімой вы да нас так і не прыехалі,— гаварыла Таня, пазіраючы то на мяне, то на Алега.— Чаму, дзядзя Алег? Мама чакала, чакала...

Алег пакасіўся на мяне.

— Не атрымалася,— адказаў ён.— Работа, а канікулаў у нас не бывае. А ты чакала?

— Я?— Дзяўчынка засмяялася, яе вострыя плечукі ўздрыгнулі.— Не ведаю.

— Як поспехі ў школе? Двоек няма?

Таня зноў засмяялася.

— Вы, калі прыязджаеце да нас, толькі пра двойкі ў мяне і пытаецеся. Не, двоек няма. А ў вас сын ці дачка ёсць? Вы і ў іх толькі пра двойкі пытаецеся?

Алег заварушыўся, прамаўчаў.

У Тані былі цёмныя, крыху выпуклыя вочы і вельмі знаёмыя мне рысы твару: высокі лоб, шырокія калмыцкія скулы, паўнаватыя вусны. Мне падалося, што я ўжо раней сустракаўся з ёй. У пакой увайшла Ганна.

— Алег, дапамажы мне.

Ён выйшаў, прычыніўшы за сабой дзверы.

— А вас як завуць?— запыталася Таня.

— Вадзім. Мы з Алегам працуем разам. У камандзіроўку прыязджалі, заўтра вяртаемся.

Я ўспомніў пра шакаладку.

— Ты шакалад любіш?

— Ды так сабе.

— Што будзем рабіць з ёй?— я выняў з кішэні шакаладку.

Таня паціснула плячыма.

— Пачастуйце маму,— раптам сказала яна.— Мама любіць усё такое салодзенькае.

Я паклаў шакаладку на палічку таршэра і падышоў да стала. На ім — падручнікі, сшыткі, каробкі фарбаў, малюнкі на вялікіх белых аркушах.

— Хто табе гэтулькі фарбаў купіў?— спытаў я.

— Дзядзя Юра. Ён вучыць мяне маляваць акварэллю.

— Ён мастак?

— Так. Дзядзя Юра малюе карцінкі ў дзіцячых кніжках.

Мы з Алегам заседзеліся, і Ганна пакінула нас пераначаваць. Яна прынесла пасцель, я раскінуў канапу. Таня ўжо спала, схаваўшы твар у падушку. Маці паклала яе на раскладушцы ў адным пакоі з намі. Пажадаўшы нам спакойнай ночы, Ганна пайшла да сябе.

Мы ляжалі побач, маўчалі. Каты — начныя бадзягі — трывожылі сваім плачам. У акно нахабна лез месяц, пакой здаваўся сінім.



«Вось і закончылася гэтае дзіўнае спатканне Алега,— думаў я.— Заўтра раніцай ужо дахаты. Няўжо дзеля таго, каб пагаварыць некалькі гадзін аб дробязях, трэба было прыцягнуць мяне сюды? Тут нешта не так».

Ноччу мяне разбудзіў шэпт...

— Ты што, з глузду з'ехаў?

— С-с-с... Хопіць шумець. Разбудзіш усіх.

Шэпт заціх. Я зусім прачнуўся і шырока адкрыў вочы. Алега побач не было. Спакой і ноч гаспадарылі наўкола.

— Алег, адстань,— зноў зашапталі ў другім пакоі.— Пусці. Ты нават не пацікавіўся, як я жыву. Можа, я ўжо замуж выйшла.

— Як замуж? Ты што? А я, а наша дачка?

— Гэта мая дачка. Ты ёй ніхто.

— Як ты можаш, Аня?

— Магу, нават вельмі магу. Мне ўжо трыццаць, Тані восем. Ідзі, запытайся ў яе, хто ты. Дзядзя, мамін знаёмы. Яна вялікая дзяўчынка, як ты ўсё растлумачыш ёй?

Я зусім разгубіўся. Таня — Алегава дачка? Вось які Алег! Падслухоўваць больш я не хацеў, ледзь не закашляў. Стрымаўся — дзяўчынка можа прачнуцца. І, як часта бывае з дзецьмі, пойдзе да маці, а маці не адна.

— Дзяўчынцы патрэбен бацька.

— Патрэбен, але дзе ўзяць?

— Я пасылаў грошы, дапамагаў.

— Сумленне мучыла? Дык вось, усе твае пераводы цалюткія, ні капейкі не ўзялі. Заўтра раніцай усё вярну і прашу, каб нічога лішняга Таня не ведала.

— Таня вырасла, на мяне падобная. Сёння быў у яе ў школе, думаў здалёк паглядзець. А там пытаецца гэткая сівенькая, худая, настаўніца, мабыць: «Хто вы ёй?»

— Што ж ты адказаў?

— Што? Не помню, здаецца, пайшоў моўчкі. На душы агідна. Хаваюся ад уласнага дзіцяці.

— Навошта гэтага прывёў?

— Ён мой сябра. Даруй, спалохаўся. Думаў, не пусціш аднаго. А мне трэба было пабачыцца з табой.

— Сябра? Ведае пра нас?

— Не.

— Які ж ён тады сябра? Лішні раз пераконваюся, што людзі для цябе пешкі. Палахлівец! Нават, бадай, горш. Жывеш як мыш, грызеш паціху, дзе давядзецца. Не адной бабе, відаць, жыццё зламаў. Алег, не муч мяне, не прыязджай. Калі ты тут — зноў з'яўляецца нейкая надзея, але ж нічога не мяняецца. Забудзь наш адрас. Божа, калі ж гэта скончыцца?..

— Аня, дарагая... Не, не, маўчы, слухай. Дапамажы мне. Я ж адзін, разумееш? Увесь час адзін. Вакол тысячы людзей, а я — адзін, акрамя вас, нікога. Чалавек ты ці хто? Чаму не верыш?

Прайшло некалькі мінут. У калідоры груквулі дзверы. Месяц схаваўся за хмарку, у пакоі стала цёмна. Я хутка апрануўся, выйшаў у калідор, уключыў святло. Алегавага паліто не было. Выключыў святло і прайшоў на кухню. Закурыў. Зайшла Ганна і села побач. У доўгім светлым халаце, перахопленым на таліі поясам, яна здавалася неяк ненатуральна выцягнутай. Я хацеў уключыць святло, але Ганна спыніла мяне.



 

— Не трэба, я непрычасаная, ды і Таня можа прачнуцца.

Я патушыў цыгарэту.

— Курыце, нічога, потым праветру. Вы яго даўно ведаеце?

— Даўно.

— Я таксама яго даўно ведаю. Вы ж, мабыць, усё чулі. Даруйце нам.

— Чаму вы не выходзілі замуж? Вы такая прыгожая, чэснае слова. У вас, відаць, прыхільнікі ёсць. — Я ўспомніў пра мастака, які вучыць Таню маляваць, і падумаў аб тым, што ён прыходзіць у гэты дом не дзеля дзяўчынкі. — Я б закахаўся ў вас першы.

— Вы? — Ганна горка ўсміхнулася. Яе тонкае, ледзь бачнае ў цемры цела зашавялілася. — Вы, мабыць, вельмі ўлюбчывы, Вадзім?

— Наўрад. Інакш я не жаніўся б. Ленка, праўда, лічыць, што ў мяне жаночы характар, але гэта не так. Проста я ёй шмат у чым саступаю. У нас дачка, ёй тры гады...

— Дзе ён цяпер, як вы думаеце?

— Блукае дзе-небудзь. Вернецца.

— Думаеце?

— Канечне, вернецца. Вы ж хочаце, каб ён вярнуўся?

— Я кахаю яго.

— Добра, што вы шчырая. Па-мойму, ён таксама шчыра гаварыў, што хоча застацца з вамі. Як вы думаеце?

— Так, такі ён яшчэ ніколі не быў.

— Я нічога падобнага ад яго не чуў. Цяпер я разумею, што трывожыла яго ўсе гэтыя гады. Дапамажыце яму, не адштурхоўвайце.

— Я пагарачылася, але цяпер усё прайшло. Толькі б вярнуўся.

— Хоць мы з ім сябры, але цяпер разумею, што не ведаў у ім галоўнага, не ведаў, што за чалавек ён. Усяго-наўсяго незнаёмец у паліто і кепцы па імені Алег. Так бывае. Сустракаешся з чалавекам з дня ў дзень, называеш яго па імені, размаўляеш... Раптам даведваешся, што былі чужыя адно аднаму. Мабыць, усё так атрымалася, што я кепскі сябра.

— Не горшы, чым ён. Я б ад сваёй сяброўкі нічога не ўтойвала.

Ганна пайшла, я застаўся адзін. Алег не вяртаўся. Дакурыўшы цыгарэту, я адкрыў фортачку і падаўся на канапу.

Было не да сну. Гэтая ноч перавярнула ўсе мае ўяўленні не толькі аб Алегу, але і шмат аб чым іншым. Мы былі сябрамі больш за дзесяць гадоў, і ўсе гэтыя гады, як мне здавалася, я ведаў пра яго ўсё. Атрымліваецца, што памыляўся. Чаму ён хаваўся ад мяне? Цяпер гэта ўсё так недарэчна высветлілася...

Мы пазнаёміліся ў інстытуце, на архітэктурным факультэце. Восенню і зімой мы старанна вучыліся, а вясной вучыцца не хацелася. Мы прапускалі лекцыі і знаёміліся з дзяўчатамі. Летам, праўда, мы гэтых сябровак гублялі. Сёй-той з іх лічыў за лепшае праводзіць водпуск ці канікулы з тымі, у каго былі грошы, а іншыя самі раз'язджаліся хто куды. Што было з намі тады, дзесяць ці дзевяць гадоў назад, калі Алег пазнаёміўся з Ганнай? Алег... Які ж ён быў тады? Акуратненькая стрыжка, модны гальштук і пінжак, рэдзенькія вусікі, напорысты позірк. І была ўжо ў яго Паліна... Невысокая, з маленькім невыразным тварам і вясёлым чубком над вачыма-вугольчыкамі. Ён пазнаёміў мяне з ёй на сваёй дачы ў Зялёным. Мы заканчвалі другі курс і прыехалі ўтраіх на выхадныя дні. Красавік



схаваў усе лужыны ў зямлю, горад і палі паціху прыбіраліся. Добра помню гэты дзень.

У Алега была мара — будаваць такія дамы, каб за іх не было сорамна перад нашчадкамі...

— Для чаго ж тады і існуем мы, архітэктары, — гаварыў ён, — для цудоўнага.

— Цудоўнае ёсць ва ўсім, — пярэчыла Паліна.

Мы сядзелі на верандзе, пілі каву з тэрмаса і разглядвалі халоднае неба ў свінцовых плямах. Злева ад нас стаяў бярозавы гай, нейкі празмерна белы і бязгрэшны, як руская царква. Над гаем чорнымі крыжамі віселі гракі.

— Так, цудоўнае ва ўсім, — паўтарыла Паліна. — Я, напрыклад, вучу дзяцей у школе пісаць «ма-ма», «та-та». Хіба гэта не цудоўна?

— Гэта філасофія, — не пагаджаўся Алег.

— Якраз само жыццё, — сказаў я. — Жыццё складаецца не толькі з цудоўнага.

— Канечне, калі ты маеш на ўвазе шпакоўні, у якіх жывуць мінчане. Ды не толькі мінчане. Убоства.

— Вайна была, — гаварыў я задумёна. — Пасля трэба было будаваць шмат і хутка. Людзі ў падвалах жылі.

— У цябе гэта адтуль? — У зялёных вачах Алега, як у ваўчаняці, успыхвалі агеньчыкі. — Вайна, вайна... Так, тады трэба было будаваць хутка, але ж прайшло ўжо сорак гадоў, а па-ранейшаму будуем без душы. Паставілі каробкі інкубатарскія... Пачварны дом не заменіш, як старыя штаны.

— Паслухай, Алег, — перапыніла Паліна. — Ты марыш закончыць інстытут і будаваць прыгожыя дамы. Ты будзеш іх будаваць, але дзе гарантыя, што нашы нашчадкі, як ты цяпер, не пасмяюцца над намі, над усім тым, што мы пакідаем пасля сябе?

— Не абагульняй. Што тычыцца архітэктуры — у Мінску шмат арыгінальных пабудоў, не толькі ў нас. Значыцца, маглі будаваць і да вайны, і пасля яе. Таму што гэта былі творцы. Аб іншым меркаваць не бяруся. Можна спісаць на вайну што захочаш. Гэтым і карысталіся прыстасаванцы. Гадоў праз дзесяць прыйдзе наш час, час тых, каму цяпер дваццаць пяць — трыццаць гадоў. Творцы — вось за кім будучыня. Творца сваёй справы, няхай гэта муляр ці паэт...

— Навошта ж чакаць гэтулькі гадоў? — сказаў я. — Крытыкаваць усе могуць.

Потым мы гулялі ў лесе, і лес, ачуняўшы ад зімовага сну, чысты, звінеў увесь дзень тонка, быццам крышталь. Вярнуліся галодныя і шчаслівыя. Елі катлеты, што прывезла Паліна з горада, запівалі бярозавікам, якім пачаставаў нас сусед Алега па дачы.

Алег пайшоў у сад, мы засталіся з Палінай.

— Вадзім, як усе мы мала ведаем. Здаецца, інстытут усяму навучыў, да ўсяго падрыхтаваў. А як толькі сутыкнешся ў жыцці з самай простай праблемай, усе веды нічога не варты. Мы навучыліся кіраваць усім, чым хочаш, нават на вялікіх адлегласцях, а вось пра чалавека ведаем столькі ж, колькі пра яго ведалі нашы продкі. Нам няма калі звяртацца да чалавека. Усё спяшаемся, спяшаемся... Сацыёлагі нават апраўданне знайшлі — імклівы век. Глупства ўсё, звычайная адгаворка. Вадзім, я баюся горада. Самыя адзінокія людзі — гараджане.

Паліна не была падобна на іншых дзяўчат, з якімі мы сустракаліся. Тыя былі патрэбны для іншага, але гэтае іншае мімалётнае і заўсёды аднолькавае ад пачатку да канца. Бар... дыскатэка... кактэйлі... музыка з падсветам і разгарачаныя лялечныя твары. Потым чужая кватэра, шыракасценныя пакоі і зноў танцы, выпіўка. Тытунёвыя сінія драконы пад столлю, хіхіканне, разбіты посуд...

Неяк Алег пазваніў мне і запрасіў у чужую кватэру з усім сервісам, як сказаў ён. Я адмовіўся:

— Алег, я ад такога жыцця ператвараюся ў насарога.

— Так, дрэнь гэта. А што ты прапануеш узамен?

— Паехалі ў Ленінград. Там цяпер Рэрыха паказваюць.

— Ты што, разбагацеў? Мне трэба ў Маскву па справах, не магу. Грошай няма, а ты Рэрыха сватаеш. Пазыч трыццаць рублёў.

— Адзін едзеш ці з Палінай?

— Адзін.

Я ведаў, што ён не кахае Паліну. Разумела гэта і яна, але сустракалася з Алегам. Спадзявалася? Магчыма.

У адзін з дзён мы разгаварыліся ў скверыку, маленькім, ціхім, як музейны пакой. Сонца вісела апельсінам, павуцінне блытала галінкі, галінкі гублялі лісце. То была апошняя восень нашага студэнцтва.

— Паліна не для мяне, — гаварыў Алег. — Наогул сям'я не для мяне. Свабода і творчасць — іншага не можа быць, я цвёрда вырашыў. Там паглядзім, усё жыццё наперадзе. Я б не пярэчыў, калі б Паліна ці іншая жанчына нарадзіла мне дзіця. Дапамагаць — калі ласка, але жыць пастаянна разам... Жанчыны прымітыўныя, няўжо ты гэтага не заўважаеш? Асабліва наша сучасная жанчына. Рэстаран, шампанскае, шанэль нумар пяць за чужы кошт — вось іх культура.

— Хлопцы не лепшыя за жанчын. Большая частка памяшалася на анучах. А Паліна іншая. Навошта ты ёй галаву марочыш?

— Нам падыходзяць нашы адносіны. Ніколі больш пра гэта не гавары.

— Алег, ты не баішся адзіноты?

— Ведаеш што, ідзі ты...

Пасля Масквы Алег расстаўся з Палінай. Мы ніколі не гаварылі пра яе.

...Трасуць за плячо... прачынаюся... адкрываю вочы.

— Вадзім, пара, — гаворыць Алег і саскоквае на падлогу, адварочвае ад мяне твар. Апранаемся. Досвітак ледзь прабіваецца ў акно. У пакоі халаднавата. Па падаконніку ходзіць голуб, тонкія кіпцюрыкі скрабуць бляху.

Таня спіць моцна. Каса, якую Ганна з вечара не распляла, смешна тырчыць рыжаватым пэндзлікам.

— Мы не развітаемся з Ганнай?

Алег не адказвае.

Вуліца сустрэла нас сырым ветрам, лужынамі на тратуары. Шэрае неба ў рэдкіх сініх прагалінах. Праходзім некалькі метраў, азіраюся. У акне, рассунуўшы шторы, стаіць Ганна і глядзіць нам услед.

Алег таксама моўчкі азіраецца, і мы абодва бачым, як Ганна падымае руку і завешвае шторы.

— Правяду цябе на таксі і вярнуся, — гаворыць Алег.

Ідзём моўчкі.

— Вадзім, калі нам будзе спачатку цяжка, гэта нічога, праўда?

— Праўда. Цяжэй будзе дзяўчынцы, не забывай аб гэтым. Давай твой білет, здам яго.

— Білет? А, вазьмі. Калі не паспееш здаць, чорт яго бяры. Дырэктару скажы, што бяру водпуск па сямейных абставінах. Вадзім, даруй за ўсё. Многае сёння перадумаў, успомніў. Інстытут, Паліну... Цяпер мне трыццаць пяць, палова жыцця, а нічога выдатнага не зрабіў. А што такое выдатнае ў жыцці чалавека? У тваім, маім, Ганны... Марыў будаваць прыгожыя дамы, а вось ужо дзесяць гадоў пад зямлёю, метро пракладваем. Не больш не менш. І ведаеш, прыемна ўсведамляць, што заняты патрэбнай справай.

— Ты шчаслівчык, Алег. У кашулі нарадзіўся. У цябе такая дачка расце, Ганна столькі гадоў чакае.

— Сапраўды, у кашулі. Ці не сон гэта?

— Не сон. Не спяшайся вяртацца, уладкоўвай усё як належыць. Пішы.

Саджуся ў таксі, і Алег зачыняе за мной дзверцы.

**Мал. А. Дашкевіч.**



## *Ніна Шклярава*

■

Не для адводу
Ад людскіх вачэй
Я гавару вам:
Нам не чуць няможна,
Як дыхае Чарнобыль
Ля дзвярэй.

Хоць вось яно —
Зноў свята пасля стратаў!
Ці ж забароніш
Птушкам гнёзды віць?
І зноў пішчаць
У гнёздах птушаняты,
А людзям зноў у іх
Вучыцца жыць.

■

Выйдзі, бацька, на балкон,
Пабач...
Божа мой, які дзівосны свет!..
І забудзься пра вайну,
Не плач.
Выключ тэлевізар свой, сусед.

Спеў птушыны, смех дзіцяці звонкі —
Вось ад шчасця нашага ключы...
Выключ радыё, мая Алёнка,
Хай трывога ў сэрцы памаўчыць.

Спеюць дні
І адыходзяць гронкамі,
Нібы у капейку, ў белы свет.
Крыж над бацькам...
Бусел над Алёнкай...
На радзіны зазірні, сусед.

■

Церуху парэзалі канавай.
А было ў ёй гэтак лёгка плаваць.
А калісьці тут рачныя хвалі
Думы мае ціхія гайдалі.

Церуху парэзалі канавай!
А яна ж паіла долы, травы.
І пілі з яе далоняў коні...
...І на конях
дзён тых не дагоніш!

■

*В. Інатавай*

Я не маўчу, мая сяброўка.
Зусім я не маўчу, калі
Праз сэрца боль крадзецца лоўка,
Нібы вужака між галін.

Я не маўчу, вяду з табою
Размову мужную сваю.
І хай увосень, не вясною,
Хай позняй птушкай, ды пяю.

І чую: мне азваўся конік
І паімкнулася рака
Наліць вады ў мае далоні...
Я ажыву. Ты пачакай.





## *Святлана Каробкіна*

### РОДНЫЯ НАЗВЫ

Да Закружкі пыльная дарога,—
Нібы сее хто муку-мучыцу...
На мяне глядзіць вадзіцель строга,
Кажа: «Што ж, паедзем, маладзіца!»

Вёска ненадоўга затрымае,
На знаёмы зноў бягу прыпынак,
Вось яна — Крупіца — ад'язджае,
Колькі там рассыпана крупінак?..

Мой аўтобус мае назву Па́здзеркі,—
Да бацькоў ад Мінска — недалёка.
На пясчаным дне у Пцічы пацеркі,
Да дзяцінства светлага — два крокі...

■

Зубры ў Белавежы,
А коні ля ракі.
Як неабмежны межы
Азёрнай асакі...

Кроў капне, і адчуе
У пушчы зубраня,
Што зубр стары вартуе
Яго і сярод дня.

### НАКАЗ САБЕ

Не збіся зноў на сумны лад,
Не разумее робат суму...
Яму вясёла між цытат,
Цікава між пажоўклых мумій.

Яго тэхнічныя мазгі
Даўно ўжо запраграмаваны,
А бусел робіць зноў кругі
Над страшным подыхам нірваны.

■

Не трэба аб'едкамі птушак
карміць,
Насыпце ім чыстага зерня,
І птушкі вас будуць заўсёды
любіць,
Дарыць ясназорае пер'е...
Не трэба штохвілю на неба
глядзець:
Шлях Млечны прарочыць прыродзе
Усё, што павінны і мы разумець,—
Да сэрца птушынага дойдзе.
Не будзем за фортку аб'едкі
кідаць,
Бо нават дзіцё разумее,
Што мы, як і птушкі, павінны
лятаць,
А вось жа — не кожны умее.





## *Тамара Пяркоўская*

■

*«Для шчасця нам так мала*
*трэба —*
*Прывецік добры з старыны.*
Янка Купала

Для шчасця нам так мала трэба —
Прывецік з добрай старыны,
Ды ў хаце пахкі бохан хлеба,
Ды дужыя раслі б сыны.
Ды толькі б раніца звінела,
Лісцё купаючы зарой,
І над палеткам завяснелым
Грымеў шчасліва першагром.
І каб зямля мая спявала,
Як ты спяваў,— на цэлы свет!
Жыві ў вяках! Жыві, Купала!
Прарок народа і Паэт!

### ЖУРАВЫ

Тонкай ніткай трымціць павуцінне
Каля дрэў, ля пажоўклай травы.
А у небе ўстрывожаным клінам
З песняй сумнай ляцяць жуpавы.

Да цяпла гоніць холад крылатых...
Як расстацца з раздоллем палёў,
Як пакінуць абжытыя хаты,
Не адкажа ніхто з жураваў.

Хоць трохкутнік сяброўскі, а цесны.
І далёкі уперадзе шлях...
І ў мяне смутак іхняе песні
Ціхім болем адбіўся ў грудзях.

■

Судзі мяне
Па сваіх законах,
Калі ты лічыш,
Што так і трэба.
Судзі мяне
Асабіста сёння.
І сведкам судным
Хай будзе неба.
І тыя зоры,
Што ярка свецяць,
І гэты месяц,
Што ўсплыў над хатай
І побач сесці
Са мною меціць.
Судзі,
Калі я вінавата.

Судзі за тое,
Чаго не знаю,
Судзі за тое,
Што буду ведаць.
Судзі, што гэтак
Цябе кахаю —
Іду у поўнач
Глухую следам.

■

Ты не думай,
што можна сэрца
Раніць толькі мячом ці стралою,
Што бывае прычынай
смерці
Бой,
дзе
неба гарыць з зямлёю.
Чалавека няцяжка параніць.
І пялёстак стаць можа
смерцю,
Калі шпурнуць яго нечакана
Ў адкрытае
сэрца.

■

Ты вольны.
Вольны назаўжды.
Вядома ж, сэрца
Не прывяжаш.
Бягуць гады...
Ляцяць гады...
І снегапад
На косы ляжа.
Пабеліць косы
Дабяла.
І я цябе
Не патурбую...
У сэрца слота
Залягла,
Не думай толькі,
Што раўную.
Дый да каго?
Да той зімы,
Што беліць
Нам з табой галовы?
Хіба ёй рады
Сёння мы?
Вунь як цярушыць
Снегам новым...
Зноў будзе боль
І будзе сум.
І шчасце будзе
Неспакою.
І я тады
Ў аблоках дум
Паўстану
Прад табой вясною...





*Іван Чыгрынаў*

# ЗВОН — НЕ МАЛІТВА

**Драма ў 2-х дзеях**

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Рагнеда.
Уладзімір Святаславіч, вялікі князь Кіеўскі.
Ізяслаў, князь Полацкі.
Апанасій, праваслаўны прэсвітэр.
Холад, язычніцкі вядун.
Лоўчы.
Былая Ізяслававa Нянька.
Злотнік.
Служанка Рагнеды.
Анея, дачка злотніка.
Паляўнічы ля вогнішча.
Гарабой, таксама з лоўчых.
Дружыннік, ганец вялікага князя.
Чалавек у армяку з башлыком.
Фар, выхавацель велікакняскіх дзяцей.
Усевалад, Мсціслаў, княжычы, браты Ізяслава.

Княжны, дзяўчаты і хлопцы, паляўнічыя, смерды, жабракі, людзі ў армяках з башлыкамі.

---

Мал. **М. Купавы.**

## Дзея першая

*Драўляны замак княгіні Рагнеды на беразе Свіслачы ў Ізяславе. У светлым пакоі княгіня і прэсвітэр Апанасій.*

Апанасій. Матухна княгіня, яшчэ раз кажу: час адумацца вам. Сапраўдны бог наш гаворыць мне: я навяду на паганых увесь стэп гэты, значыць, людзей са стэпу, жорсткіх і крыважэрных, якія блукаюць па зямлі толькі дзеля разбою. І яны павыкідваюць косці бацькоў вашых з магіл, параскідваюць па лугах і нівах пад сонцам, месяцам і зоркамі, якім вы пакланяецеся. Скіньце вашых жорсткіх багоў у Свіслач — і драўлянага Перуна з сярэбранай галавой і залатымі вусамі, таксама Даждзьбога і Стрыбога, як Сімарглу і Мокашу, з усімі разам.

Рагнеда. Пачакай, прэсвітэр. Вось ты пагражаеш нам сваім богам. Значыць, і твой бог жорсткі? Дык навошта мяняць нам сваіх, няхай, як ты гаворыш, і жорсткіх, на такога ж, а можа, і больш яшчэ жорсткага?

Апанасій. Княгіня, старое прайшло. Цяпер настае новае. А ты трымаешся за ранейшае. Нават імя Гарыслава, якое даў табе князь Уладзімір, адкінула. Захацела зноў звацца Рагнедай.

Рагнеда. Майму мужу, вялікаму князю, даўно хацелася вытравіць з маёй памяці ўсё роднае, забыць бацьку і маці, якіх ён забіў, малых братоў, якія таксама былі зарэзаны варагамі. Дзеля гэтага ён звацца прымусіў мяне іначай. Але цяпер я зноў на сваёй зямлі. І тут мая воля!

Апанасій. Матухна княгіня, не так твая воля, як сынава. Ізяславу належыць і гэты град, і ўсё, што навокал яго. А ў Полацку — пасаднік вялікага князя.

Рагнеда. Але сын не выгане маці.

Апанасій. Я таксама гатовы маліцца за чысціню яго душы і праведнасць думак.

Рагнеда. Думаеш, нашы багі назусім адступіліся ад яго?

Апанасій. Хто ведае, княгіня, але муж твой у Корсуні, калі прымаў новую веру, перад усім тамашнім народам сказаў: толькі цяпер пазнаў я сапраўднага бога!

Рагнеда. Не веру я Уладзіміру. Крывадушны ён быў, крывадушны і цяпер. Сын рабыні. А новую веру ўзяў, бо грэчаскія цары не аддавалі без гэтага за яго сястру сваю Ганну. Таму я ў цябе, праваслаўны прэсвітэр, пытаюся: навошта яму, распусніку, яшчэ адна жонка? Толькі дзеля таго, каб парадніцца з вялікімі царамі? У яго ж гэтых жонак без мяне яшчэ чатыры — грачанка, якую забраў у забітага ім жа брата, балгарыня, чахіня і яшчэ адна... Я ўжо не ведаю нават, з якой зямлі яна...

Апанасій. Так, муж твой, княгіня, быў дасюль ва ўладзе пажадлівасці. І новая вера ўратуе вялікага князя ад гэтага. У новай веры яму належыць мець адну жонку.

Рагнеда. Нішто яго не прымусіць адмовіцца ад пажадлівасці. Я добра ведаю яго, таксама як ведаю і тое, колькі ў яго наложніц, а то і звычайных палюбоўніц усяго на адну ноч: у Вышаградзе — трыста, у Белградзе — трыста, у Бярэставе — дзвесце... Не, прэсвітэр, чорт у яго паміж рэбраў заўсёды будзе варушыцца, бунтаваць дурную кроў.



Апанасій. Я ж кажу, па нашай веры нават вялікаму князю можна мець усяго адну жонку. Так што...

Рагнеда. Ці не хочаш ты сказаць, што Уладзімір распусціць свае гарэмы, стане жыць з адной Ганнай? А грачанку сваю, чахіню, балгарыню ды ўсіх іншых развязе ў такія вось удзелы, як мой?

Апанасій. Твайго сына, княгіня.

Рагнеда. Няма чаго лішні раз напамінаць мне аб гэтым! І няма чаго настройваць сына супроць маці! Я ведаю, якія размовы ты вядзеш з ім!

Апанасій. Я выконваю волю яго бацькі, вялікага князя Кіеўскага, і майго бога, Ісуса Хрыста.

Рагнеда. А цяпер, прэсвітэр, слухай маю волю: куміраў мы сваіх бурыць пакуль не збіраемся тут! Скажы вялікаму князю, што мы яшчэ пажывём са старымі багамі. Так што, прэсвітэр, і табе далей знаходзіцца ў Ізяславе не варта.

Апанасій. Матухна княгіня!

Рагнеда. Я не жартую, прэсвітэр. Забірай свае медныя ды сярэбраныя крыжыкі, іконкі на шаўковых гайтанах, на сярэбраных ланцужках ды ступай, адкуль прыйшоў, не бянтэж людскія душы.

Апанасій. Бянтэжыць не варта, але надзею...

Рагнеда. На чаканне кары, на чаканне бяды?

Апанасій. Шлях зямнога жыцця кароткі, але ён нікчэмны перад вечнасцю пакутаў для адных і перад такой жа вечнасцю раю для другіх.

Рагнеда. Для тых, каго выбера твой бог?

Апанасій. Так. Але і для тых, хто выбера яго і хто заслужыць перад ім.

*Заходзіць Ізяслаў.*

Ізяслаў. Добрай раніцы, мама! (*Падыходзіць да Рагнеды, становіцца на калені, цалуе.*)

Рагнеда. Як далася ноч, сын?

Ізяслаў. Над свяшчэнным лесам за Свіслаччу да раніцы слаўся куродым. Няйначай, вядун Холад зноў выведваў у багоў нейкую тайну.

Апанасій. Так, яшчэ з вечара патыхала адтуль цяжкім дымам, ажно нельга было спаць. Відаць, гарэла ў земляных пячурках сырая трава і розная іншая цвіль?

Ізяслаў. Старая ваўчыца таксама выла да самай раніцы. Дазволь, матухна, забіць яе ці хоць бы напалохаць, каб не набліжалася да замка.

Рагнеда. Не, сын. Няхай жыве. Няхай ходзіць і вые. Мы разам будзем адыходзіць на той свет — яна і я. А вось прэсвітэр Апанасій пакіне нас сёння. (*Рагнеда глядзіць на сына, але той апускае вочы.*) Ты хочаш пагаварыць з ім напаследак?

Ізяслаў. Калі на тое будзе твая воля.

Рагнеда. Тым часам, сын, прывыкай ужо і да свае волі. Дык хочаш?

Ізяслаў. Хачу.

Рагнеда. Ну, то не варта нікуды адсюль хадзіць. Заставайцеся тут. А мне трэба распарадзіцца па замку. Бывай, праваслаўны прэсвітэр!

Апанасій. Што вялікаму князю сказаць?

Рагнеда (*засмяялася*). Першае скажы, што мы жывыя. І сын яго, Ізяслаў, і жонка Рагнеда.

Апанасій. Гарыслава?

Рагнеда. Не, Рагнеда.

*Рагнеда выходзіць.*

Апанасій. Бачыш, княжыч, гоніць мяне адсюль твая маці.

Ізяслаў. Яна не цябе гоніць. Яна тваю веру не прымае. Бо лягчэй спакусіць маладога. А людзі ў гадах, як мая маці, цяжка расстаюцца нават са сваімі няхітрымі звычаямі, не тое што з багамі.

Апанасій. Ты не па гадах разумны, княжыч. І гэта без кніжак. Разумею, як бы ўзбагаціўся твой розум пры грамаце.

Ізяслаў. Мне захожыя святары часта чытаюць кнігі.

Апанасій. Гэта добра, княжыч, што ты ўмееш слухаць. Але самыя правільныя кнігі, каб ведаў, грэчаскія, з Царграда. (*Трохі маўчыць, а тады зноў гаворыць.*) Хацелася б мне дазнацца, што начараваў на сваім смуродным вогнішчы Холад?

Ізяслаў. Хутка дазнаемся. Але ты раскажы, прэсвітэр, як гэта было там, у Корсуні, калі бацька мой...

Апанасій. ...І вялікі князь прымаў новую веру?

Ізяслаў. Так.

Апанасій. Матухна твая толькі што казала, што прыняў ён яе з-за царыцы Ганны, але гэта ў яе старая злосць і рэўнасць гавораць.

Ізяслаў. Ты маю маці не чапай, прэсвітэр.

Апанасій. А напраўду было так. Вялікі князь захапіў Корсунь і паслаў царам Васілію і Канстанціну ў Царград сказаць: «Вось узяў ужо ваш град славуты. Чуў жа, што маеце сястру ў дзеўках; калі не аддасце за мяне, то зраблю і вашаму граду тое ж, што гэтаму».

Ізяслаў. Так, гэта голас майго бацькі. Чулі яго пад Пярэмышлем і Чэрвенам палякі. Перамог ён вяцічаў, праўда, на гэтых давялося хадзіць, лічы, за адзін год двойчы. Яцвягі таксама праз год пакарыліся кіеўскаму князю. Паспеў схадзіць мой бацька і на радзімічаў. Там яшчэ і цяпер, кажуць заезджыя сюды людзі, пішчанцы воўчага хваста баяцца... Заключыў нядаўна мір з балгарамі. Балгары так і сказалі: «Тады не будзе паміж намі міру, калі камень стане плаваць, а хмель — танучь».

Апанасій. Твая праўда, княжыч. Воін твой бацька выдатны. Але ці чуў ты размову яго са сваім дзядзькам перад заключэннем гэтага міру?

Ізяслаў. Ну?



Апанасій. Паглядзеў я палонных, кажа дзядзька вялікаму князю, дык усе яны, аказваецца, у ботах. Гэтыя даніну не стануць нам плаціць, пойдзем пашукаем сабе лапатнікаў.

Ізяслаў. Бацькаў дзядзька, вядома, дасціпны чалавек, прэсвітэр, але людзі таксама ці мала што выдумаць могуць. Нябось, не ў Кіеве чуў пагудку гэту? За морам?

Апанасій. Ад людзей, княжыч.

Ізяслаў. Так, людзі паўсюль жывуць і гавораць. Аднак нельга песціць надзею, што яны аднолькава думаюць і пра сябе, і пра сваіх суседзяў. Дык што вялікія цары? Чым яны адказалі на дамаганні вялікага князя?

Апанасій. Не гонар нам, маўляў, хрысціянам, выдаваць за паганых; калі прымеш хрышчэнне, то і яе атрымаеш, гэта значыць сястру, і царства нябеснае прымеш, і з намі аднае веры будзеш.

Ізяслаў. Эйш! І што ж вялікі князь?

Апанасій. Зноў праз паслоў перадаў: закон ваш я ведаю, вялікія цары, і пра веру хрысціянскую чуў і пра богаслужэнне таксама. Тады вялікія цары шлюць сваіх паслоў у Корсунь: «Дык хрысціся, калі ведаеш!» А вялікі князь на сваім стаіць: «Прыйдзіце з сястрой вашай, тады хрысціце мяне!» Пачалі вялікія цары перамаўляцца з Ганнай. Тая ў плач: «Лепш бы мне тут памерці!» А браты ў адказ ёй: «Можа, прывядзе праз цябе бог наш Рускую зямлю да пакаяння, а нашу пазбавіць ад жахлівай вайны». Ледзь прымусілі ехаць сястру ў Корсунь.

Ізяслаў. Грэчаскія цары сілу бацькаву пачулі. Словам, прэсвітэр, вялікі Кіеўскі князь па-ранейшаму пасылае суседзям сваю волю.

Апанасій. Ва ўсім промысел божы.

Ізяслаў. Так, прэсвітэр, багі маюць над намі вялікую сілу, таксама як сонца, месяц і зоркі.

Апанасій. Вы, язычнікі, паграznулі цалкам у забабонах, у прымхах, адным словам, у паганстве. Трэба вам новага бога.

Ізяслаў. Багі, прэсвітэр, аказваецца, таксама не вечныя. Пакуль што вечныя сонца, месяц, зоркі...

Апанасій. Да канца не хочаш, княжыч, даслухаць?

Ізяслаў. Дык яно ўсё і так зразумела. Вялікі князь прыняў у Корсуні новую веру...

Апанасій. Таксама не без промыслу божага. Захварэлі ў твайго бацькі вочы. Не стаў бачыць нічога. Пакутаваў моцна, перажываў, ужо адчайвацца стаў. І тут яму зноў пачалі раіць: калі хочаш пазбавіцца ад хваробы, хрысціся!

Ізяслаў. Заганялі, як у нерат.

Апанасій. Паслухаўся Уладзімір парады, згадзіўся нарэшце прыняць хрышчэнне. І калі біскуп корсунскі паклаў руку на яго, стаў вялікі князь зноў відушчы!

Ізяслаў. Мы тут, у Ізяславе, чулі пра яго хваробу і таксама прасілі сваіх багоў за яго. Так што яшчэ невядома, хто больш літасцівы да вялікага князя быў — ваш, хрысціянскі бог ці нашы, язычніцкія. (*Пады-*

*ходзіць да акна, гаворыць прэсвітэру Апанасію.*) На пераходным мосце ўжо стаіць вядун Холад. Пэўна, княгіню чакае?

Апанасій. Смуродзіў жа цэлую ноч...

Ізяслаў. Я на тваім месцы, прэсвітэр, таксама паслухаўся б княгіні, пайшоў бы адсюль. А то невядома, што гэты Холад наваражыў. У чый бок дым ад вогнішча сёння паказваў? Ты за свайго бога стаіш, ён — за сваіх.

Апанасій (*жагнаецца*). Свят, свят, свят!

Ізяслаў. Нешта не падабаецца мне сёння выгляд нашага ведуна. Адчувае, што стаю перад акном, можа, нават бачыў, што стаю, але не азірнуўся. Стаіць як зацяты.

Апанасій. Ведуны над князямі ўлады не маюць. Адзін бог усім распараджаецца.

Ізяслаў. Над князямі не маюць, а над людзямі маюць. Значыць, па вашай рэлігіі, прэсвітэр, трэба ставіць храмы. Капішчы не патрэбны?

Апанасій. Так, княжыч. Цэрквы, а на іх — званы.

Ізяслаў. Звон — яшчэ не малітва.

Апанасій. Адкуль табе ведама гэта, княжыч?

Ізяслаў. Гасціў у нас адзін кніжнік. Толькі ён быў не з Грэчаскай зямлі. Зайшоў сюды праз Польшчу. Дык той кніжнік і расказваў — і пра храмы, і пра званы, і пра службу ў храмах, і пра тое, што звон — яшчэ не малітва.

Апанасій. Няйначай, лацінянін.

Ізяслаў. Можа.

Апанасій. Вучэнне лацінян, княжыч, таксама хлусліває. Вось паслухай: у царквах сваіх, а цэрквы ў іх сапраўды ёсць, лацінянін табе праўду казаў, але ў царквах тых яны не пакланяюцца іконам. Пішуць крыж на зямлі і спярша цалуюць, а тады становяцца на яго нагамі, топчуць... Гэтаму не вучылі апосталы. Апосталы вучылі цалаваць крыж і шанаваць іконы. Бачу, многія святары тут, па вашай зямлі, ходзяць...

Ізяслаў. То нікому яна не патрэбна была, то раптам...

Апанасій. Ісусу Хрысту спатрэбілася, княжыч. Гэта ён павярнуўся да яе тварам.

Ізяслаў. Добра, прэсвітэр. Ты кніжкі свае пакінь мне, а ўсё астатняе — забірай з сабой. Ды ідзі ўжо, раз княгіня незадаволена. А ў мяне тым часам да цябе просьба: будзеш у Кіеве, схадзі да братоў маіх і сясцёр, яны, відаць, і цяпер жывуць на Лыбядзі, у былым нашым доме. Скажы, што брат іх, Ізяслаў, не забыў іх. Маці таксама плача.

*Прэсвітэр Апанасій кланяецца, выходзіць. Счакаўшы трохі, княжыч таксама ідзе следам. На перакінутым цераз роў мосце стаіць вядун Холад. Ізяслаў падыходзіць да яго.*

Ізяслаў. Ваўчыца з твайго свяшчэннага лесу, няйначай, ашалела. Казалі ў слабадзе, што кідалася надоечы на каваля, а сёння спаць не давала, да самага замка падыходзіла.

Холад (*амаль варожа*). У свяшчэнным лесе, княжыч, усе свяшчэнныя. І птушкі, і звяры, і людзі.

Ізяслаў. Чаму яна сюды па начах ходзіць?



Холад. Бо звер. Зверу не загадаеш.

Ізяслаў. Тады навошта твае чары?

Холад. Мае чары за лесам не маюць сілы.

Ізяслаў. Другі раз зацкую ваўчыцу сабакамі. А то стралу з лука пушчу. Вось настане месячная ноч і ўпалюю.

Холад. Князі часцей на мядзведзяў ходзяць. Кажаш — ваўчыца накінулася на каваля, а не чуў, што ў Валоўшчыне мядзведзь задзёр бабу?

Ізяслаў. Калі гэта?

Холад. Здаецца, заўчора.

Ізяслаў. Трэба сказаць пра мядзведзя лоўчаму. Але ваўчыцу таксама неабходна суняць.

Холад. Далася табе, княжыч, ваўчыца! Вунь прэсвітэр Апанасій...

Ізяслаў. Прэсвітэру таксама адмоўлена ад замка.

Холад. Матухна твая ведае, што рабіць — як сустрэць якога госця і як пасля правесці. Ёй бы ў палацы вялікага князя жыць, тады б і ў Кіеве не здарылася такога замарачэння.

Ізяслаў. Дык гэта не ў Кіеве, гэта — у Корсуне.

Холад. Усё ідзе з Кіева. Там у душах зарадзілася, а ў Корсунь дакацілася.

Ізяслаў. З Царграда, вядун.

Холад. Царград за морам не першы год. Але Кіеў перад ім трымаўся.

Ізяслаў. Ты не абмовіўся апошнім словам з прэсвітэрам?

Холад. Не.

Ізяслаў. Дарэмна.

Холад. Усе гэтыя прэсвітэры не разумеюць аднаго.

Ізяслаў. Чаго?

Холад. Што ўсе людзі, якія жывуць на зямлі, не могуць задавольіцца адным богам. Можа, аднаму чалавеку сапраўды патрэбны адзін бог, але адзін бог на ўсіх людзей... (*Круціць галавой і паціскае плячамі.*)

Ізяслаў. Вось бачыш, і тваю непахісную душу збянтэжыў хтосьці.

Холад. Кіеў, княжыч, Кіеў збянтэжыў!

Ізяслаў. Але на ваўчыцу ўсё-ткі знайдзі ўправу! (*Бачыць, што па мосце ў замак ідзе лоўчы. Крычыць.*) Гэй, лоўчы! (*Лоўчы падыходзіць.*) Ты чуў, што паблізу Ізяслава ходзіць мядзведзь?

Лоўчы. Мядзведзіца, княжыч. Малога мядзведзьку мужыкі на дрэве закалолі, нібыта борці выдзіраў, дык яна цяпер помсціць. Але я паслаў ужо старога Гарабоя дагледзець. Заўтра, калі што, самі можам на коні сядаць.

Ізяслаў. Хвала за кемлівасць, лоўчы. Дык заўтра пагойсаем па лесе?

Холад. Ты б пасцярогся, княжыч. Раз'ятраная мядзведзіца — не старая нямоглая ваўчыца.

Ізяслаў. Спытай сёння багоў, што скажуць пра мой лёс?

Холад. Яны ўжо сказалі пра твой лёс.

*Ізяслаў недаверліва глядзіць на ведуна. Кажа лоўчаму.*

Ізяслаў. Хадзем, лоўчы, на стайню. Хачу паглядзець на Буланчыка. (*Да Холада.*) А ты чаго стаіш? Ідзі ў замак. Ты ж у замак хацеў?

Холад. Я тут, на мосце, пачакаю княгіню. Мне яна патрэбна на адно слова.

*Ізяслаў з лоўчым на вачах ведуна спускаюцца з моста ў двор замка. Княгіня Рагнеда тым часам з'яўляецца на памосце.*

Рагнеда. Аб чым задумаўся, Холад?

Холад. Можна знайсці шмат слоў, каб адказаць табе, княгіня. І ўсе яны будуць правільныя. І ўсе не скажуць да канца праўды. Бо словы ўвесь час мяняюцца. Няма ім ліку і меры.

Рагнеда. Затуманены для мяне сэнс тваіх слоў, вядун.

Холад. Я ўсё пра твайго цяперашняга госця.

Рагнеда. Дык адпусціла ж яго з замка!

Холад. Я не пра тое, княгіня. Вось хрысціяне кажуць, што мы, язычнікі, легкаверныя і прадажныя, што мы па цямноце сваёй панавыдумлялі сабе шмат багоў, да таго ж такіх, якія не маюць і не мелі жывой плоці. А самі хрысціяне што? Таксама вераць у тое ж: у тры дасканалыя сутнасці.

Рагнеда. Ты хутка можаш стаць такім чынам іхнім святаром.

Холад. Не кашчунствуй, княгіня. Але прыйшоў я пагаварыць вось пра што. Нашы багі патрабуюць новую ахвяру. Проста ім належыць яна па праву. Надышоў час чарговай ахвяры.

Рагнеда. Вы кідалі жэрабя?

Холад. Не. Учора змагаліся паміж сабой вада і агонь, плыткае і трывалае, сухое і вадкае.

Рагнеда. На каго ж падзьмула?

Холад. Гэты раз на дзяўчыну.

Рагнеда. Што ж ты вочы адводзіш? Гавары!

Холад. На дачку злотніка твайго, Анею.

Рагнеда. Што яны, твае багі, памуціліся ў розуме?

Холад. Гэта не толькі мае багі, яны і твае, княгіня!

Рагнеда. А што мне сын мой скажа, княжыч Ізяслаў? Яны ж разам растуць! Думаеш, Ізяслаў ухваліць такую ахвяру?

Холад. Раней гэта за шчасце лічылася — стаць ахвярай, паслужыць людзям.

Рагнеда. Я не пра людзей. Я — пра княжыча.

Холад. Княжыч наш хоць і малады целам, аднак узмужнелы розумам. Анея — не яго лёс, дарма што разам растуць. Я сон бачыў. Ізяслаў сядзеў на княскім стале.

Рагнеда. На Кіеўскім?

Холад. Не магу сказаць, княгіня. Гэта і мне невядома. Бачыў Ізяслава на княскім стале, а на якім — незразумела.

Рагнеда. Гэта адно аднаму не замінае. Ізяслаў і Анея... Не, вядун, тут штосьці не так. Ідзі ў свой лес, зноў пачынай чараваць. Скажы багам, што гэты раз яны памыліліся.

Холад. Я ж казаў — змагаліся за Анею вада і агонь, плыткае і трывалае, сухое і вадкае...



Рагнеда. І ўсё-ткі, вядун!..

Холад. Анея цяпер не пара Ізяславу. Ды і вялікі князь не дазволіў бы мецць яе свайму сыну за жонку.

Рагнеда. Пра князя ты памаўчаў бы!.. Уладзімір сам паходзіць ад рабыні. Хіба не чуў? Ад рабыні Малушы. Дык ці яму пярэчыць, каб сын яго браў за сябе таксама з простых дзяўчыну?

Холад. На тое воля князя. Але ахвяраваць гэты раз нашым багам мусіць сваю дачку твой злотнік, княгіня.

Рагнеда. Да яго хто-небудзь ужо хадзіў з гэтым?

Холад. Не.

Рагнеда. Вы падумалі сабе, што ён вараг, а не тутэйшы?

Холад. Гэта не мы думалі, княгіня. Як выбар паў на яго дачку, я ўжо сказаў. А што датычыць варага...

Рагнеда. Ён жа чужой веры!

Холад. Дзе яму ў нас тут трымацца было той веры? Нябось, забыў ужо. Ды і калі ён быў у тых грэках? Ад язычнікаў прыйшоў у грэкі, да язычнікаў зноў прыйшоў. Нават наведваўся колькі разоў на свяцілішча да нашых багоў.

Рагнеда. І ўсё-ткі няўдалы выбар, вядун, ох няўдалы! І княжыч за сяброўку праціўіцца стане, і бацька ўзбурыцца.

Холад. Не нам, княгіня, мяняць дзедаўскія звычаі.

Рагнеда. Але святары заўсёды да голасу князёў сваіх прыслухоўваюцца!

Холад. Таму я і прыйшоў.

Рагнеда. Ізяславу не гаварыце! Заўтра ён нібыта едзе са сваімі людзьмі на паляванне. Мядзведзіцу хочуць упаляваць.

Холад. А злотніку твайму сказаць пра дачку?

Рагнеда. Не з добрай ты справай да мяне прыйшоў сёння, вядун, ой не з добрай!

*Княгіня падыходзіць да краю моста, раздае міласць жабракам. З бліскучымі чорнымі вачамі, з доўгай сівой барадой вядун колькі часу яшчэ ходзіць па мосце, пасля па сцяжынцы падымаецца на замкавы вал. Княгіня вяртаецца ў замак. Той жа светлы пакой, што і раней. Заходзіць Ізяслаў.*

Ізяслаў (*да маці, якая сядзіць каля вялікай скрыні*). Чаго прыходзіў вядун са свайго лесу?

Рагнеда. Не трэба варожасці, сын!

Ізяслаў. Ведаеш, іншы раз надта хочацца зайсці ў іхняе свяцілішча ды парушыць там усё.

Рагнеда. А я ўсё думаю, адкуль гэта ў цябе? Аказваецца, душа твая таксама ўзбунтавалася супроць старых багоў?

Ізяслаў. Супроць багоў я нічога не маю, мама. Мне не падабаюцца людзі, якія знаходзяцца ў свяшчэнным лесе вакол багоў.

Рагнеда. Супакойся, сын. Злосць нічога не выкліча ў адказ, акрамя злосці. Сваіх багоў мы з табой не выбіралі. Мы нарадзіліся з іх згоды.

Ізяслаў. Няхай сабе так.

Рагнеда. Дык навошта бунтуеш?
Ізяслаў. Пра гэта я толькі табе сказаў.
Рагнеда. Багі не толькі чуюць, яны здагадваюцца.
Ізяслаў. Не падабаецца мне вядун Холад.
Рагнеда. Што зробіш? Ён — табе. Бадай, ты яму — таксама. Відаць, праз твае доўгія размовы з прэсвітэрам Апанасіем.
Ізяслаў. Я і з прэсвітэрам гэтаксама размаўляю. Мне не падабаецца, што яны са сваімі багамі пачынаюць раздзіраць чалавека напапалам. Той з Ісусам Хрыстом, гэты... з Хорсам, Стрыбогам ды з Перуном.
Рагнеда. Бедны хлопчык!.. Ты — малады, а ў такія гады чалавек звычайна бунтоўны. Лепей было б, сын мой, каб бунтавалася ў табе сіла, а не душа. Ты маеш у сабе здольнасць пагаварыць сур'ёзна з маці?
Ізяслаў. Так. Я прыйшоў сюды, каб пагаварыць. Я не стаў гаварыць пра гэта ў прысутнасці прэсвітэра. Таму і адказаў на тваё пытанне, што спаў сёння добра. Не, мама, я не ўсю ноч спаў. Бо ў сне бачыў бацьку.
Рагнеда. І тую раніцу?
Ізяслаў. Я чамусьці не дужа помню яе. Яна для мяне была як навальніца. Прагрукатала і адышла за небакрай.

*Княжыч становіцца на калені перад маці, тая бярэ галаву яго ў свае рукі.*

Рагнеда. Ты, мой хлопчык, страціў у тую раніцу бацьку, а я знайшла вернага сына. Дык, кажаш, як навальніца для цябе яна, тая раніца? Можа, гэта і добра. А ў мяне ўсё наадварот. Для мяне тая ноч, а потым раніца як насланнё. І ўсё жыццё таксама здаецца насланнём. Значыць, бацьку ты бачыў у сне безадносна да тае раніцы?
Ізяслаў. Так.
Рагнеда. І як жа ён табе сніўся?
Ізяслаў. Здаецца, зусім без злосці, але ўсё нібыта хацеў штосьці сказаць. І якраз у той момант, як пачуць яго голас, мяне хтосьці будзіў. Напэўна, ваўчыца. І так колькі разоў за ноч. Так што спаў я, мама, дрэнна. І ўсё чамусьці мне сёння не падабаецца. Асабліва вядун Холад. У яго вачах сапраўды холад, дарма што дзікім бляскам гараць. А заўтра ў мяне паляванне. Ведаеш, вакол града нашага мядзведзіца раз'ятраная ходзіць?
Рагнеда. Я чула, сын. Ведаю, што і на паляванне збіраешся. Але ж...
Ізяслаў. Ну вось, цяпер і ты пачнеш ушчуваць. Не першы раз мне на мядзведзяў хадзіць.
Рагнеда. Ты сапраўды не па гадах набіраешся сілы, Ізяслаў. І розуму.
Ізяслаў. Дык пра што ты збіралася гаварыць са мной?
Рагнеда. Гаворка тая нікуды ад нас не ўцячэ. Каго ты возьмеш з сабой на паляванне? Толькі сваіх слуг? Можаш узяць і маіх. Усё-ткі падмога. Ды і медзвяжатнікі мае больш спрактыкаваныя. А твае — маладыя.



Ізяслаў. Няхай. Са мной акрамя іх будуць лоўчы і Гарабой. Хіба, можа, злотніка твайго папрасіць у цябе?
Рагнеда. Не варта. Злотнік — па золату, не па мядзведзях.

*Заходзіць лоўчы.*

Лоўчы. Прабач, княгіня. Мне княжыч патрэбны.
Ізяслаў (*бачыць незадаволены матчын позірк*). Гэта я загадаў лоўчаму адшукаць мяне, дзе б ні быў, калі вернецца Гарабой.
Рагнеда (*да лоўчага*). Гавары.

*Ізяслаў становіцца на ногі.*

Лоўчы. Мядзведзіца бадзялася сёння вакол свяшчэннага лесу. Можа, да замка падыходзіла.
Ізяслаў. Хіба людзі з замка яе пакрыўдзілі?
Лоўчы. Не, княжыч. Тыя смерды цяпер не вылазяць з хат сваіх, што ў Валоўшчыне.
Рагнеда. А я думаю, чаму гэта ваўчыца пад самы замак падыходзіла. Таксама абароны шукала?
Ізяслаў. Дзе будзем абкладваць мядзведзіцу?
Лоўчы. Выедзем, княжыч, на ноч, а там відаць будзе. Куды яна, туды і мы. Урэшце, да раніцы высачым. Сабакі дапамогуць.
Рагнеда. Ты, лоўчы, глядзі там!
Лоўчы. Не хвалюйцеся, княгіня. Вачэй не звяду і паперад сябе княжыча не пушчу.
Рагнеда. Няхай з вамі будуць нашы багі.

*Лоўчы выходзіць.*

Ізяслаў (*сядаючы ў крэсла ў прасценку паміж вокнамі*). Усё-ткі з якой прычыны прыходзіў да цябе Холад?
Рагнеда. Я ж казала. Пагаварыць. Тут ніхто не можа рабіць без княскай волі. Але тым часам і ён сон свой расказаў. Дзіўна, усе бачаць сны, а я не. Вось ужо даўно мне нічога не сніцца.
Ізяслаў. Пра што яго сон?
Рагнеда. Нібыта цябе бачыў на княскім стале.
Ізяслаў. У Кіеве?
Рагнеда. Гэта невядома, на княскім стале. Можа, сапраўды бацька твой успомніў пра цябе. Хоць што я кажу? Хіба да гэтага яму цяпер? І жонку новую бярэ сабе, і веру мяняе.
Ізяслаў. Ты ўсё не можаш яму дараваць?
Рагнеда. Ён не толькі маё жыццё зганьбаваў, але і княства наша Полацкае знішчыў. Ты становішся дарослы, сын, таму пра ўсё павінен ведаць. Можа, дарэмна цябе так доўга трымаю пры сабе? Пара б табе свету паглядзець.
Ізяслаў. Да свету адсюль далёка.
Рагнеда. Далёкі свет заўсёды пасля становіцца блізкі. А бацьку твайму я сапраўды не даравала. У яго ўжо была я, а ён забіў свайго брата і ледзь не з-пад яго ўзяў сабе ягоную жонку, грачанку, ад якой Святаполк.
Ізяслаў. Калі гэта было?

Рагнеда. Што?

Ізяслаў. Ну... тое... калі забіў мой бацька свайго брата Яраполка?

Рагнеда. Не дужа даўно. Але заманіў да сябе ў дом яго, а тады двух варагаў нацкаваў, і тыя паднялі на мячах пад пахі на марозе.

*Зноў перапыняюць іх размову — заходзіць кабета. Гэта былая Ізяслава ва нянька.*

Нянька. Матухна княгіня, недаглядзелі — Красуля твая занудзілася. Сліна з языка цячэ.

Рагнеда. Калі гэта здарылася?

Нянька. Няйначай, з вечара. Недаглядзелі, княгіня...

Рагнеда. Можа, травы нядобрай наелася?

Нянька. Калі гэта відана, княгіня, каб карова ды благую траву ела?

Рагнеда. Можа, памылілася?

Нянька. Каровы, як і сабакі, ніколі з гэтым не памыляюцца. Вінаваты, княгіня.

Рагнеда. Хто ў ноч на кароўніку быў?

Нянька. Сама старшая скотніца. Яна дачку сваю падмяняла.

Рагнеда. А тая?

Нянька. Занядужала.

Рагнеда. Нядужых зусім не трэба трымаць на маім кароўніку!

Нянька. Вінаваты, матухна княгіня, вінаваты!..

Рагнеда. Што мне з вашай віны? Пакліч да Красулі са слабады шаптуна.

Нянька. За гэтым вось і прыйшла. Зараз жа пашлём.

*Нянька выходзіць.*

Рагнеда (*да сына*). Бачыш, чым у гэтай глухамані даводзіцца займацца? Вось праўда ўжо — наш Ізяслаў не Кіеў. Дык пра што гэта мы з табой?

Ізяслаў. Пра князя Яраполка.

Рагнеда. Ах, так. А Яраполк перад тым таксама забіў свайго брата, Алега. Яны — тры браты былі: Яраполк, Алег і Уладзімір Святаславічы. Жывы цяпер застаўся адзін — твой бацька.

Ізяслаў. А якая варожасць была паміж Яраполкам і Алегам?

Рагнеда. Такая ж, як і паміж тваім бацькам і Яраполкам. За Кіеўскі стол. Хоць за сапраўдную прычыну выдаюць іншае. Нібыта на паляванні Алег забіў чалавека, сына Свенельда, які служыў яшчэ ў вялікага князя Святаслава. Таму нібыта папомсціўся Яраполк. Напаў на Алега, разбіў яго. Але брата не сам забіваў, дакладней, не сваёй рукой. Акурат як не сваёй рукой забіваў твой бацька Яраполка.

Ізяслаў. Страшная гэта рэч — княскі стол...

Рагнеда. Крывавая. Хоць у нас, у Полацку, за ўладу гэтак не змагаліся. Ці ведаеш жа ты, сын, хто забіў твайго полацкага дзеда Рагвалода?

Ізяслаў. Не.

Рагнеда. Вось бачыш!.. Бо яшчэ малы.



Ізяслаў. Сама ж нядаўна казала, што час ужо мне мець сваю волю. Значыць, не такі малы, як думаеш?

Рагнеда. Ну-ну, маці заўсёды хочацца, каб яе дзеці не хутка раслі. Дарослыя — становяцца ўжо не яе дзецьмі. Удачы табе на паляванні, сын.

*Ізяслаў спружыніста ўскоквае, выходзіць.*
*Рагнеда з тугой глядзіць яму ўслед.*
*Праз тыя ж дзверы ў пакой ледзь не ўбягае ўсхваляваны злотнік.*

Злотнік (*падае на калені*). Ратуй нас, княгіня!

Рагнеда (*робіць выгляд, што ні аб чым не здагадваецца*). Гавары, злотнік.

Злотнік. Анею ратуй, княгіня.

Рагнеда. Станавіся на ногі. І супакойся.

Злотнік. Прыходзіў са свяшчэннага лесу ад ведуна чалавек. Анею, дачку маю, хочуць прынесці ў ахвяру багам!

Рагнеда. Ахвяраванне не намі прыдумана, злотнік. І тая сям'я, ад якой звычайна бяруць ахвяру, лічыць за гонар гэта.

Злотнік. Княгіня, зразумей, я другой веры. Я — хрысціянін! Я прыехаў у Кіеўскую зямлю хрысціянінам. І я не прызнаю мясцовых багоў!

Рагнеда. Але ж, казалі, таксама хадзіў у свяшчэнны лес?

Злотнік. Хадзіў. Дзеля цікаўнасці.

Рагнеда. А дачка твая?

Злотнік. Сама ж ведаш, яна яшчэ амаль дзіця!

Рагнеда. У ахвяру багам звычайна такіх і прыносяць.

Злотнік. Але як пасылаў мяне вялікі князь з табой, то абяцаў, што тут будуць шанаваць маю веру! Ці я чым-небудзь не дагадзіў табе, княгіня?

Рагнеда. Маёй улады, злотнік, мала для свяшчэннага лесу.

Злотнік. Тады мне давядзецца падавацца са скаргай да вялікага князя ў Кіеў. Я служыць браўся, маючы волю. І я, і мая сям'я недатыкальныя тут!

Рагнеда. Гэта ўсё, злотнік, зразумела. Але жаданне багоў...

Злотнік. Гэта інтрыгі ведуна, княгіня. І не багі гэта. Сама ведаеш.

Рагнеда. Я шаную сваіх старых багоў. Да таго ж, ты павінен зразумець: тут не Кіеў, тут — Ізяслаў. Што да цябе мае вядун Холад?

Злотнік. Да твайго злотніка, княгіня, усе нешта маюць. Адны — справу, другія — зайздрасць.

Рагнеда. Ну а калі ты да Кіева дабярэшся? Да таго ж, мусіць, вялікі князь яшчэ не вярнуўся з Корсуня. Давядзецца, злотнік, скарыцца волі тутэйшых багоў. Тым больш, што выбар іх датычыць лёсу тваёй дачкі, а не цябе.

Злотнік. Адумайся, княгіня! Трэба суняць ведуна! Супакой сваіх багоў!

Рагнеда (*ледзь не ў адчаі*). Ім патрэбна ахвяра, злотнік!

Злотнік. Мая дачка не можа быць прынесена ў ахвяру! Я зноў

табе нагадваю: і я, і мая сям'я — яны вольныя. Мы служым па найму ў Кіеўскага князя, дарма што прыслужваем цяпер табе.

Рагнеда. Але што я магу зрабіць супроць багоў?

Злотнік. Не багі гэта, а звычайнае дрэва! Сёння яно расце, а заўтра згніе. На зямлю ўпадзе. Гэтыя так званыя багі вашы не ядуць, не п'юць і не размаўляюць. Яны зроблены людзьмі. Бог адзін. Сапраўдны бог. Стварыў ён неба, зямлю, зоркі, месяц, сонца і чалавека. І даў нам Ісуса Хрыста. А новыя багі што зрабілі? Самі яны зроблены! Не дам дачкі свае паганым!

Рагнеда. Супакойся. Давай разам падумаем.

Злотнік. Можа, княжыча папрасіць? Яны ж раслі разам з Анеяй? Яшчэ невядома, як ён на ўсё паглядзіць.

Рагнеда. Княжычу і словам не абмоўся! Яму на паляванне. Ладна, ідзі, злотнік. Я падумаю. Да вечара яны ўсё роўна не павядуць яе ў лес. Ты ўстань!

Злотнік. Але з лесу ўжо яе не выбавіш, як павядуць!

Рагнеда. Вось ты казаў, што збіраешся паскардзіцца вялікаму князю. Нябось, сам у Кіеў падаўся б? Але да Кіева далёка, а дачка твая патрэбна багам ці не для гэтай ужо ночы.

Злотнік. Дык што рабіць? Можа, забраць яе і знікнуць адсюль?

Рагнеда. Пярэймуць на дарозе. Вось што, знайдзі ты праваслаўнага прэсвітэра Апанасія, здаецца, ён яшчэ недзе тут. Хоць, прызнацца, абрыднуў мне павучаннямі. Проста ледзь не за горла бярэ: адмоўся ад сваёй веры, прымі другую. Усе яны, гэтыя святары, у сваёй жорсткасці памыляюцца, бо вера да чалавека прыходзіць не так, як яны таго хочуць, нельга прымусіць верыць насуперак жаданню.

Злотнік. Наша хрысціянская вера...

Рагнеда. Памаўчаў бы ты і пра сваю веру!.. Нельга прыводзіць людзей да паслушэнства крыжам і мечам.

Злотнік. Пабойся бога, княгіня!..

Рагнеда. Сам жа кажаш, іх у нас многа. Было многа, а цяпер пабольшала. Яшчэ твайго Уладзімір навязвае. Але няхай. Старыя багі доўга будуць змагацца з новымі. Дык пашукай, злотнік, прэсвітэра Апанасія. Калі яшчэ тут, у Ізяславе, няхай зойдзе да мяне.

*Злотнік кланяецца, выходзіць.*
*Заходзіць нянька.*

Рагнеда (*да яе*). Ну што там?

Нянька. Красуля, здаецца, пасвятлела, матухна княгіня!

Рагнеда. Шаптун быў?

Нянька. Ага. Кажа, што сапраўды нейкая благая трава трапілася ёй учора на лузе.

Рагнеда. Але ў статак Красулю не выганяйце. Няхай пастаіць у кароўніку, дарма што павесялела. Ты вось што, нянька, ты прывядзі ў замак дачку майго злотніка, Анею. Ды глядзі, каб непрыкметна, каб ніхто не згледзеў.

Нянька. Зараз?

Рагнеда. Як здолееш, але ў бацькавай хаце яе не пакідай. Калі нельга будзе цяпер прывесці сюды непрыкметна, то схавай дзе-небудзь да цёмнага. І ў замку таксама схаваеш, нават каб і я не дужа здагадвалася, пакуль не спытаюся.

Нянька. Зраблю, матухна княгіня, зраблю.

*Нянька выходзіць.*
*Заходзіць прэсвітэр Апанасій.*

Апанасій. Матухна княгіня, гневайся ці не, але я не выканаў тваю волю: бачыш, яшчэ ў Ізяславе. Удзень не паспеў сабрацца ў дарогу, цяпер — вечар. Давядзецца новага дня чакаць.

Рагнеда. Як жа ты ладзішся, прэсвітэр, па вадзе?

Апанасій. Са мной, княгіня, слова божае. Хто яго на рэках чуцьме? Рыбы?

Рагнеда. Зрэшты, справа твая. Як дабіраўся сюды, да нас, так і адсюль дарогу знойдзеш. Ты таксама, прэсвітэр, не гневайся, што прыспешваю. Не падабаецца мне, што цяпер многа бадзяецца па зямлі людзей, якія бянтэжаць людскія душы і пасяляюць у іх дарэмныя надзеі.

Апанасій. Такі промысел божы.

Рагнеда. Мы ўжо, здаецца, нагаварыліся з табой, прэсвітэр, і аб наканаванасці, і пра саміх багоў... Я цябе не за гэтым, на ноч гледзячы, паклікала. Значыць, пехатой збіраешся ісці?

Апанасій. Так, княгіня. Як развіднее, так і рушу.

Рагнеда. Адзін?

Апанасій. З богам у душы і на вуснах.

Рагнеда. У Кіеў?

Апанасій. Па дарозе відаць будзе. Але ў Кіеў мне таксама патрэбна.

Рагнеда. У мяне да цябе просьба.

Апанасій. І ў мяне да цябе, княгіня, таксама.

Рагнеда. Выказвай сваю.

Апанасій. Злотнік твой... А ў яго дачка.

Рагнеда. Ведаю.

Апанасій. Трэба ўратаваць дачку яго ад вашых багоў. Па-першае, ён сам грэчаскай веры, значыць, і дачка яго жыве ў той жа веры.

Рагнеда. Яна жыве тут са старымі багамі. І ў свяшчэнны лес разам з тутэйшымі людзьмі ходзіць. А што датычыць бацькі...

Апанасій. Дзяцей нельга адрываць ад бацькоў, княгіня.

Рагнеда (*усё роўна як здзіўлена глядзіць на прэсвітэра, пасля гаворыць*). А мае дзеці ведаеш дзе? З адным тут жыву. А іх у мяне ажно шасцёра.

Апанасій. На тое воля вялікага князя.

Рагнеда. Я даўно ўсё зразумела, прэсвітэр. Аказваецца, на ўсё ёсць нечая воля. А той, сапраўднай волі, якая завецца воляй, нідзе няма. Вось ты вольны?

Апанасій. Я — слуга божы.

Рагнеда. То слухай цяпер маю просьбу. Возьмеш з сабой у дарогу дачку майго злотніка.

Апанасій. Анею?

Рагнеда. Так. Вялікага здзіўлення гэта не павінна выклікаць у людзей. Да таго ж, яе можна пераапрануць, каб не выглядала дзяўчынай. Вось і будзе мець аднолькавы выгляд — два вандроўнікі, слугі божыя.

Апанасій. А бацькі яе?

Рагнеда. Злотнік сам прыходзіў ратунку для яе прасіць.

Апанасій. Не, я не ў тым сэнсе. Бацькі яе тут застануцца?

Рагнеда. Ім нішто не пагражае.

Апанасій. Ты так думаеш, княгіня?

Рагнеда (*не адказвае. Гаворыць*). Але давядзецца вам ісці зараз, прэсвітэр, скрозь ноч, каб ніхто не ўведаў. Ты ступай, падрыхтуйся ўсё-ткі ў дарогу, калі яшчэ дасюль не зрабіў гэтага, а я тым часам пагавару з дзяўчынай. Нянька наша звядзе вас пасля. Ну, здаецца, усё. Ты перад сваім богам загладзіш які-небудзь грэх гэтай справай, а я перад сваімі займею яшчэ адзін.

Апанасій. Бывай, княгіня. Даляцеў усё-ткі з Корсуня сюды звон маёй царквы! Пачуў госпадзі-бог нашы малітвы!

Рагнеда. Не кожны звон — малітва. Тут у нас быў прэсвітэр адной царквы. Дык казаў, што на іхніх храмах зусім няма званоў. «Як гэта?»— пытаемся. «Бо звон — гэта яшчэ не малітва»,— адказвае. Бывай, прэсвітэр!

Апанасій (*уздыхае*). Мне пра гэта княжыч расказваў. Храмы па-рознаму будуюцца.

*Прэсвітэр выходзіць.*
*Заходзіць служанка Рагнеды.*

Рагнеда. Што табе?

Служанка. Прыйшла прыбраць цябе на ноч, княгіня.

Рагнеда. Хіба так позна?

Служанка. Я заўсёды ў гэты час увечары прыходжу.

Рагнеда (*сядае. Апускае галаву на далонь сагнутай у локці рукі*). Які цяжкі сённяшні дзень!.. А тут шчэ Ізяслаў на паляванне сабраўся.

Служанка. Паехалі ўжо. (*Падступаецца да княгіні, хоча разбіраць ёй валасы.*)

Рагнеда. Пачакай. З гэтым паспеем. Лепей схадзі па старую няньку. Скажы, што клічу з Анеяй.

*Служанка выходзіць.*
*Заходзяць нянька, Анея, затым — служанка. Анея ўкленчвае перад княгіняй, утульвае твар у яе ўлонне. Служанка ідзе за спіну княгіні, бярэцца за яе валасы.*

Рагнеда. Ты ведаеш, Анея, я адношуся да цябе, як да свае. Ізяславу таксама ты была ў радасць. Але цяпер пагражае...

Анея. Я чула, як прыходзілі да бацькі са свяшчэннага лесу.

Рагнеда. Тым лепш, раз сама разумееш. Словам, зараз цябе пераапрануць. Дадуць хлапчукоўскае адзенне і выведуць з прэсвітэрам Апанасіем на дарогу.

Анея. Куды?

Рагнеда. Куды ён — туды і ты.







Анея. Значыць, я не вярнуся сюды?

Рагнеда. Не пра гэта трэба думаць, Анея. Над табой навісла небяспека. Неабходна ратавацца. А з праваслаўным прэсвітэрам табе нішто не будзе пагражаць.

Анея. Мяне ж заўсёды бараніў Ізяслаў.

Рагнеда. Ізяслаў на паляванні.

Анея. Дык вернецца!

Рагнеда. Ты слухайся мяне. Калі я кажу так, значыць, іначай зрабіць нельга. Забірай яе, нянька. Пераапранеш, затым звядзеш з прэсвітэрам. І каб нікому ні слова. (*Да служанкі.*) Ты таксама язык свой доўгі прыкусі на нейкі час, бо можаш...

Служанка. Слухаю, княгіня.

Рагнеда. А ты, Анея, даруй, што іначай не можам. Прэсвітэр будзе клапаціцца ў дарозе пра цябе. У Кіеве ён пакажа табе, дзе жывуць Ізяслававы браты і сёстры. Будзеш пакуль з імі жыць.

*Анея плача.*

Рагнеда. Ну, дурніца, што ты?..

Анея (*уголас*). А мамулечка ж мая, а татулечка!..

Рагнеда. Сціхні!.. (Гладзіць дзяўчыну па галаве.) Бывай, Анея.

*Нянька выводзіць Анею з пакоя.*

Рагнеда (*да служанкі*). Ну, што маўчыш?

Служанка. Успомніла Кіеў. Раптам нагарнулася на сэрца. Захацелася туды. Вось ты, княгіня, пра дзяцей сваіх затрывожылася, а я бацькоў згадала.

Рагнеда. А я — Полацк. Хачу ў Полацк. І не маю дарогі туды. Нездарма ж князь Уладзімір пасяліў нас на краі бацькавай зямлі. Бацьку з маці забіў, а мяне з сынам пасяліў на краі зямлі.

Служанка. Анея ўбачыць Кіеў!.. Зайздрошчу ёй.

Рагнеда. Знайшла каму зайздросціць! Гэта калі яна дабярэцца туды, а так — бяглянка. Таксама ж бацькі застаюцца тут...

*Праз расчыненае акно чуваць, як зноў пачынае падаваць голас ваўчыца.*
*Рагнеда ўстае, падыходзіць да акна. Слухае.*

Рагнеда (*да служанкі*). Ты можаш ісці. Але заначуй сёння блізка ад маёй спальні.

Служанка. Дабранач, княгіня.

Рагнеда. Але не засынай, пакуль не вернецца нянька. Няхай скажа, як у іх там. Прызнацца, я гэту Анею мела ўвесь час на прыкмеце для княжыча. Бо як жыццё далей пойдзе — успомніць пра яго бацька ці не. Ладна, ступай. Гэта не твая справа.

*Служанка выходзіць. Княгіня ўсё яшчэ стаіць каля расчыненага акна. Чуваць, як ваўчыца то сціхне, то зноў завые...*

Рагнеда (*уздыхае*). Ах ты, няшчасная!..

*Вельмі здалёку прыходзіць з'явішча, бы насланнё... Спіць на ложку вялікі князь Уладзімір. Рагнеда ўстае з той жа пасцелі, бярэ прыхаваны нож, замахваецца ім на мужа. Але той прачынаецца, хутка адводзіць ад свайго горла нож. Крычыць — кліча ахоўніка-варага. Той становіцца ля дзвярэй. Уладзімір у сподні ім клі-ва выходзіць. У княскую спальню тым часам забягае малы Ізяслаў. Маці шэпчацца з*

*ім. Ізяслаў павісае на шыі маці. У гэты момант у спальню прыходзяць д з в е  ж а н ч ы н ы. Пачынаюць рыхтаваць Рагнеду да пакарання. Затым сюды ўваходзіць вялікі князь, з ім — Д а б р ы н я  і  д р у г і я  княскія людзі. І раптам паміж Рагнедай і гэтым натоўпам, загароджваючы вялікаму князю шлях да Рагнеды, становіцца Ізяслаў. Заступаючыся за маці, малы крычыць на бацьку, тупае малымі ножкамі. Здзіўлены, Уладзімір адхінаецца назад, адступае, а тады выходзіць з усёй світай са спальні. Ахоўнік-вараг таксама пакідае пакой, дзе адбывалася ў цяперашнім уяўленні Рагнеды маўклівая дзея. Пасля гэтага Рагнеда кідаецца да сына, абдымае яго і горка плача...*

*...Ноч. Лес. Ад вогнішча, якое палае паміж дрэў на паляне, лятуць іскры... Хрумстаюць у торбах авёс коні.*

*Ля вогнішча сядзіць Ізяслаў і лоўчы. Трохі далей — яшчэ паляўнічыя.*

Л о ў ч ы. Княжыч, нарэшце ты хочаш даведацца праўду пра свайго дзеда Рагвалода, полацкага князя... Я ўсяго адзін раз бачыў яго, другога твайго дзеда, Святаслава, якога забіў печанег Кура, не ведаў.

І з я с л а ў. І гэта праўда, што з чэрапа майго дзеда печанегі зрабілі чашу, каб піць з яе віно?

Л о ў ч ы. Так расказалі. Але я сюды, на Русь, прыйшоў ужо з тваім бацькам.

І з я с л а ў. Адкуль?

Л о ў ч ы. З-за мора. З варагаў. Адзін час бацька твой шукаў там паратунку ад свайго брата Яраполка.

І з я с л а ў. У майго бацькі яшчэ быў адзін брат.

Л о ў ч ы. Так, княжыў у зямлі драўлянаў Алег Святаславіч.

І з я с л а ў. А хто яго забіў? Штосьці маці мне блытана гаварыла.

Л о ў ч ы. Я ж кажу, гэта не пры мне было. Але чуў, што нібыта яго спіхнулі з моста свае ж воіны, калі ўцякалі ад Яраполкавай дружыны.

І з я с л а ў. Незайздросны лёс!.. Можа, на Святаслававых дзецях праклянцце ляжыць?

Л о ў ч ы. Так, быць князем у вашай зямлі нялёгка. Ну, а наконт праклянцця, дык... Ты папрасі, каб табе прыслалі з Кіева старыя кнігі, якія пісаны яшчэ пры тваёй прабабцы княгіні Вользе. Мне давялося бачыць іх у вялікага князя. Там пра ўсё напісана. Але ці поўная праўда ў іх, не скажу, бо я прыйшоў на Русь з тваім бацькам з-за паўночнага мора, ад скандынаваў. Няхай табе тыя кнігі нанова пісцы перапішуць. Адкуль пайшла чыя зямля і хто жыў у ёй, хто правіў ёй.

*Да вогнішча падыходзіць адзін  п а л я ў н і ч ы.*

П а л я ў н і ч ы. Нешта даўно не чуваць загоншчыкаў.

Л о ў ч ы. А яны не будуць гнаць сюды мядзведзіцу. Як высачаць яе, Гарабой адразу прышле чалавека. Яна ж не ў бярлозе. Увесь час рухаецца.

І з я с л а ў. Добра было б, калі б адшукалі яе па той бок Свіслачы. Сабакі б пагналі сюды праз раку. А мы — насустрач.

П а л я ў н і ч ы. Дрэнна, што яна цяпер лютая.

І з я с л а ў. Станеш лютай.

Л о ў ч ы. Я пра гэту мядзведзіцу чуў даўно. Але не сустракаў у лесе. Недзе ж і мядзведзь прыходзіў сюды, раз дзіця ў яе з'явілася.

П а л я ў н і ч ы. Гэта пэўна ўжо. (*Адыходзіць ад вогнішча.*)

Л о ў ч ы. Ты б заснуў, княжыч, пакуль што да чаго.



І з я с л а ў. Паспім пасля палявання. Ты вось гаварыў пра кніжкі. Помню, бацька любіў, каб яму чыталі іх манахі.

Л о ў ч ы. Кніг цікавых, княжыч, сапраўды шмат. Але пра тутэйшую зямлю мала. Таму і расказваю аб адным і тым жа кожны па-рознаму. Я вось раскажу табе, княжыч, калі не спіцца, як пасылаў сватоў твой бацька з Ноўгарада ў Полацк. Гэта на маіх вачах было. Я і сам адзін раз ездзіў у такім пасольстве разам з іншымі отракамі да твайго дзеда Рагвалода, каб аддаў за нашага князя сваю дачку, цяперашнюю тваю маці.

І з я с л а ў. Расказвай. (*Узяў палена, паварушыў ім у вогнішчы; зноў снапом паляцелі ўгору іскры.*)

Л о ў ч ы. Да маці тваёй сватаўся вялікі князь Яраполк, які сядзеў тады на стале ў Кіеве. І яна давала згоду пайсці за яго. Уладзімір таксама дачуўся пра яе прыгажосць. А найбольш, можа, хацеў выступіць супроць брата Яраполка, бо пасля вяртання з-за мора меў моцную дружыну і пасягаў у думках на Кіеўскі стол. Было гэта якраз перад паходам на Кіеў.

І з я с л а ў. Браты заўсёды варагавалі?

Л о ў ч ы. Можа, таму, што яны толькі па бацьку браты. Маці ў іх былі розныя. Нават з розных земляў.

І з я с л а ў. Мы таксама ад розных маці. Мсціслаў з Усеваладам мае адзінаўтробныя браты, Святаполка нарадзіла грачанка, Вышаслава — чахіня, балгарыня — Барыса і Глеба, а ёсць яшчэ Святаслаў і яшчэ адзін Мсціслаў. Бачыш, усіх нават пералічыць цяжка!

Л о ў ч ы. Так, вялікі князь мае моцны корань. Але калі хочаш, княжыч, то слухай, як прыязджалі мы ў Полацк да твайго дзеда Рагвалода.

І з я с л а ў. Расказвай.

Л о ў ч ы. Прыйшлі мы да Рагвалода ў замак і кажам: «Князь Ноўгарадскі Уладзімір паслаў нас да цябе сказаць, што хоча дачку тваю Рагнеду ўзяць сабе ў жонкі». А дзед твой адказвае: «Трэба спытаць у дачкі». Паклікаў княжну, пытае яе пры нас: «Хочаш за Уладзіміра?»— «Не,— кажа,— не стану разуваць сына рабыні, хачу за Яраполка».

*Да вогнішча падбягае Г а р а б о й.*

Г а р а б о й. Дзе княжыч?

Л о ў ч ы. Ну вось, не далі дагаварыць. А можа, гэта к лепшаму, княжыч. У тваім узросце не пра ўсё належыць ведаць. Пасталееш — тады ўжо. Міма нічога не праляціць. І добрае, і благое. (*Да Гарабоя.*) Дык што там у вас здарылася?

Г а р а б о й. Паблізу замка зноў мядзведзіца ходзіць!

І з я с л а ў. І ваўчыца там?

Л о ў ч ы. Звер звера палюе.

І з я с л а ў. А можа, яны абедзве на людзей палююць — і ваўчыца, і мядзведзіца?

Л о ў ч ы. Урэшце, хто іх ведае.

І з я с л а ў. Значыць, пераплываць раку ўсё-ткі давядзецца ёй, а не нам?

Ізяслаў. А калі яна кінецца ў другі бок?

Гарабой. Усё роўна яе смерды павернуць да нас. Цяпер ёй ад нас не ўцячы. Загадвай трубіць, княжыч.

Ізяслаў. Зараз?

Гарабой. Так.

Ізяслаў. Гэй, трубы!

*Чуюцца паляўнічыя ражкі. На паляне ўсе на нагах. Хапаюцца за зброю. Ізяслаў ляскае ў ножнах сваім мечам, спяшаецца да каня. За ім — лоўчы з рагацінай і сякерай. Зноў трубяць паляўнічыя ражкі. Аднекуль здалёку далятаюць чалавечыя крыкі, сабачы брэх.*

## Дзея другая

*Раніца. Зыркае сонца. Па адкінутым драўляным мосце ў замак ідуць вясёлыя паляўнічыя. Паперадзе — княжыч Ізяслаў. Двое смердаў нясуць на жэрдцы мокрую, таму, відаць, цяжкую шкуру забітай мядзведзіцы.*

*Насустрач праз мост спяшаецца Рагнеда.*

Рагнеда. Каб ведаў ты, колькі я хвалявалася, сын?! *(Хоча абняць княжыча, але бачыць кроў.)* Ты паранены?

Ізяслаў *(радасны)*. Супакойся, мама. Гэта мядзведжая кроў. Запэцкаўся, калі шкуру здзіралі ды тушу секлі на кавалкі.

Рагнеда *(з недаверам глядзіць на лоўчага)*. Ён праўду кажа?

Лоўчы. Праўду, княгіня. Але паказаў сябе гэты раз сапраўдным мужчынам.

Ізяслаў. Так, мама. Я яе...

Рагнеда. Хвалько ты, Ізяслаў. *(Усё-ткі прытульвае сына, нягледзячы, што кроў, да сябе.)*

Лоўчы. Княжыч праўду кажа. Сёння ён мяне ад абдымкаў мядзведзіцы ўратаваў. Рагаціну яна выбіла з маіх рук, дык ён падхапіў і пад звера падставіў. Так што гэта цалкам яго паляўнічае шчасце!

Рагнеда. Не, лоўчы, не толькі паляўнічае. Мусіць, княжычу... Словам, рада бачыць вас усіх жывымі-здаровымі. Дзякуй за сына, паляўнічыя!

Лоўчы. Мядзведзіцу, дакладней, мяса, вязуць на кані. Куды яго, княгіня?

Рагнеда. А што, княжыч, можа, наладзім пір? Вялікі князь, а твой бацька, заўсёды пасля ўдалага палявання наладжваў пір. Ты таксама становішся магутны.

Ізяслаў. І паклічам сяброў.

Рагнеда. Дзе яны, тыя нашы сябры? У Полацкай зямлі, акрамя нас, князёў няма. Гэта трэба з Турава каго запрашаць, а то і з Польскай зямлі.

Ізяслаў. У мяне, мама, сяброў многа. *(Паказвае на паляўнічых.)* Вось, глядзі!

Рагнеда. Гэта таму, сын, што ты яшчэ ніколі не адчуваў сябе князем. Ды і ці зведаеш калі такое пачуццё?



*Чуюцца крыкі: «Коннік! Коннік!»*

*Праз нейкі момант па мосце да натоўпу ледзь не падбегам набліжаецца дружыннік — ганец вялікага князя Уладзіміра.*

Дружыннік *(яшчэ не адрозніваючы нікога ў натоўпе)*. Вялікі князь Уладзімір патрабуе ў Кіеў свайго сына Ізяслава! *(Нарэшце заўважае Рагнеду, апускаецца перад ёй на правае калена, схіляе галаву.)* Княгіня, я да вас адразу з Корсуня. Сказана з'явіцца Ізяславу ў Кіеў!

Рагнеда. Чаму раптам у Кіеў, калі вялікі князь у Корсуні?

Дружыннік. Адтуль ён неўзабаве накіроўваецца ў Кіеў. Там патрэбны яму Ізяслаў.

Рагнеда. Аднаго?

Дружыннік. Сказана з'явіцца аднаму.

Рагнеда. Але чаму? Якая патрэба?

Дружыннік. Не хвалюйся, княгіня, я звычайна не прывожу з сабой дрэнныя весткі. Але чаму вялікі князь кліча Ізяслава ў Кіеў, таксама не ведаю.

Рагнеда. Устань. Даўно ў князя служыш?

Дружыннік. З тае зімы.

Рагнеда. А-а, балазе, што не помню цябе.

Дружыннік. І я першы раз цябе бачу, княгіня.

Рагнеда *(да сына)*. Бачыш, княжыч, а мы толькі гаравалі, што гасцей няма дзе знайсці для піру.

*Дружыннік здагадваецца, што перад ім Ізяслаў, схіляе галаву, а тады заўважае мядзведжую шкуру, прыходзіць у захапленне.*

Дружыннік. Віншую, княжыч, з выдатнай шкурай. А я — па цябе.

Ізяслаў. Можаш забраць сабе гэту шкуру, калі з добрай весткай да нас.

Дружыннік. Гэта стане вядома табе ў Кіеве. Але ж я ўжо сказаў княгіні, што благіх вестак не развожу па зямлі. Вялікі князь звычайна пасылае мяне з добрымі весткамі. А за мядзведжую шкуру — дзякуй.

Ізяслаў *(да Рагнеды)*. Мама, дазволь клікаць госця ў замак?

Рагнеда. Калі ласка, ганец.

*Вечар. У замку ў трапезнай накрыты гасцінны стол. Рагнеда частуе дружынніка з Кіева. Тут жа сядзіць Ізяслаў. Слугі носяць стравы.*

Рагнеда *(да ганца)*. Дык, кажаш, вялікі князь мяне не кліча ў Кіеў?

Дружыннік. Даруй мне, княгіня, але сказана прывезці аднаго княжыча.

Рагнеда. А новую жонку князеву, Ганну, давялося бачыць?

Дружыннік. Так.

Рагнеда. Ну і што? Як яна?

Дружыннік. Візантыйская царыца.

Рагнеда. Гэта я ведаю, што яна сястра грэчаскіх цароў.

Дружыннік. Ну, а ў астатнім — яна жонка вялікага князя, княгіня.

Рагнеда (*хмурыцца тварам*). Колькі ты ў нас прабудзеш, дружыннік?

Дружыннік. Ноч. Можа, яшчэ паснедаю, калі княгіня дазволіць. Княжыч павінен быць таксама гатовы к дарозе ўранні.

Рагнеда. Калі госцю ў нас не падабаецца...

Дружыннік. Задужа ўдзячны, княгіня, за гасціннасць, за ласку, але сказана не бавіцца. Ды і княжычу, бачу, ужо няймецца, засядзеўся тут у вас. Так, княжыч?

Ізяслаў. Я... даўно мару прамчацца на кані да Кіева.

Рагнеда. Ты не слухай яго, дружыннік, ён яшчэ малы. Таму надумала я: ехаць вам у Кіеў не ў сёдлах, а ў ладдзі.

Ізяслаў. Мама!..

Рагнеда. Да Кіева далёка, і ты не вынесеш коннай дарогі. Адна справа, сын, гойсаць тут на Буланчыку, па лясах ды палях вакол замка, зусім іншая — прамчаць у сядле да Кіева. Ды і... навошта гэтак спяшацца? Хіба табе з маці дрэнна ў Ізяслаўе? Гэта ж твой горад!

Ізяслаў. Мама, я даўно не бачыў Кіева.

Рагнеда. А што там бачыць? (*І тут жа да госця.*) Давядзецца вам, дружыннік, усё-ткі плыць па вадзе. У нас тут добрая ладдзя ёсць. Коні вашы стануць у ёй таксама.

Дружыннік. Слухаю, княгіня.

Ізяслаў (*больш упарта*). Мама, па рэках у Кіеў і да восені не даплывеш!

Рагнеда. Хлопчык мой! Іншы раз лепей не пасляшыць, чым раней апынуцца. Думаеш, бацька змяніў нялюбасць да цябе? Думаеш, ён забыў, як ты стаў яму на дарозе, калі варагі ішлі забіваць мяне?

Дружыннік. Княгіня, хто старое згадае, таму вока вон.

Рагнеда. З-за шчаслівай сынавай долі я не ўспаміната б пра старое. Але...

Дружыннік. Я не чорны веснік, княгіня. Я...

Рагнеда. Матчына сэрца заўсёды ў трывозе па дзецях. Ізяслаў вунь на паляванне паехаў, а я вачэй скрозь ноч не заплюшчыла. Ну ды ладна, чаму быць, таго не мінаваць. А паедзеце вы ў Кіеў усё ж па вадзе. Так мне спакайней будзе. Прынамсі, да Турава па вадзе. Спярша адсюль вось, ад замка нашага, па Свіслачы, пасля па Бярозе, а тады ўжо ў Дняпро... Ну, а з Турава можна і на кані да Кіева даскакаць. Значыць, заўтра?

Дружыннік. Так, княгіня.

*Ізяслаў падыходзіць, цалуе маці. Дружыннік п'е новы кубак п'янога мёду.*

Рагнеда. Ну, а цяпер, дружыннік, раскажы нам, дзе давялося табе пабыць, што бачыў? Ты ўжо ў новай веры?

Дружыннік. Дружыну вялікі князь будзе хрысціць у Кіеве. У Корсуні яго хрысцілі аднаго.

Рагнеда. Дык, можа, гэта ён хоча перавярнуць у новую веру і нашага Ізяслава?

Дружыннік. Ты задаеш, княгіня, такія пытанні, на якія мне цяжка адказваць. Я далейшай князевай волі не ведаю. Мне загадана адно: прывезці ў Кіеў княжыча Ізяслава.

Рагнеда. Ладна, забудзем!.. Тут нядаўна праваслаўны прэсвітэр быў, Апанасій. Не знаеш яго?

Дружыннік. Не.

Рагнеда. Дык той нам шмат расказваў пра новую веру. Дарэчы, твой прыезд, дружыннік, прэсвітэр Апанасій таксама ўсё роўна як прадказаў праз сон. Але раскажы і ты, як хрысцілі вялікага князя?

Ізяслаў. А што за сон, мама?

Рагнеда. Ат, пасля, сынку, пасля. Цяпер паслухаем дружынніка.

Дружыннік. Хрысціў вялікага князя ў Корсуні...

Рагнеда. Пра гэта расказваў прэсвітэр. Чаму вялікі князь прыняў новую веру? Няўжо і праўда праз тое, што з царскай сястрой захацеў ажаніцца?

Дружыннік. Прэсвітэр гэтак гаварыў?

Рагнеда. Не.

Дружыннік. Якую веру прыняць, у Кіеве доўга думалі, княгіня.

Рагнеда. А старая вера? Чым не падабаюцца цяпер у Кіеве нашы багі?

Дружыннік. То князь Уладзімір рашае.

Рагнеда. І за сябе рашае і за ўсіх людзей?

Дружыннік. Выходзіць, так.

Рагнеда. А што смерды, баяры?

Дружыннік. Наракаюць. Не кожны хоча разлучацца са старымі багамі.

Рагнеда. Дзіва што! А вялікі князь вельмі награшыў з гэтымі багамі, калі шукае новага. Спадзяецца, што новы бог даруе яму старыя грахі. Дзівак. Ну, то расказвай, дружыннік.

Дружыннік. Перад тым як прыняць новую веру, князь Уладзімір раіўся са сваімі баярамі, пасылаў у розныя канцы свету паслоў. Але да таго яшчэ прыходзілі ў Кіеў балгары магаметанскай веры. Кажуць, ты, князь, і мудры і разумны, а закону не ведаеш. Пазнай наш закон і пакланіся Магамету.

Ізяслаў. А бацюхна?

Дружыннік. Кажа, якая ж ваша вера? Магаметанскія балгары адказваюць, маўляў, вучыць нас Магамет так: не есці свініну, не піць віна, затое можна блудзіць з жанчынамі. Калі хто бедны на гэтым свеце, то бедны застанецца і на тым.

Рагнеда. А жанчынам што дазваляецца пры іхняй веры?

Дружыннік. Яны ў іх тое ж самае могуць рабіць, а яшчэ і больш таго.

Рагнеда (*засмяялася*). Цьфу!

Дружыннік. Вялікі князь таксама плюнуў пасля балгарскіх паслоў. Затым прыходзілі ў Кіеў яўрэі. Была ў вялікага князя гамонка з рымскімі філосафамі. Паслухаў ён усіх, а тады рашыў і сваіх паслоў накіраваць.

Рагнеда. Куды яны хадзілі?

Дружыннік. Былі і ў немцаў, і ў грэчаскіх балгараў. Нарэшце дайшлі і да Царграда. Цары, а там два цары — Васіль і Канстанцін, выслухалі кіеўскіх паслоў, сказалі патрыярху: «Падрыхтуй царкву і клір і сам апраніся ў свяцісельскія рызы, каб пабачылі рускія славу нашага бога».

Рагнеда. Значыць, не царыцу паслы адразу ўбачылі там, а славу мясцовага бога?

Дружыннік. Прынамсі, вярнуліся яны ў Кіеў радасныя. Кажуць: «Знаходзіцца там бог з людзьмі, і служба ў іх лепшая, чым у іншых краінах». Вялікі князь паслухаў ды кажа: «Сапраўды, свайго ніхто не ганіць, адно хваліць. Але ж бабка мая Вольга...»— «Калі б быў дрэнны грэчаскі закон,— сказалі князю баяры,— то не прыняла б яго бабка твая Вольга...» І сказаў вялікі князь: «Дзе прымем хрышчэнне?»—«Дзе табе люба»,— адказалі яны. Вось і выбраў князь Уладзімір Корсунь, наперад заваяваўшы яго.

Рагнеда. Значыць, князь і сына кліча ў Кіеў, каб хрысціць?

Дружыннік. Няйначай.

Рагнеда. Аднаго чалавека прымусіць прыняць такую веру, ну, гэта... гэта яшчэ не бяды. А вось цэлы народ, які жыў на сваёй зямлі са сваімі багамі? Гэта нам, князям, толькі здаецца, што народ падобны на статак. І ўвогуле, святары новых рэлігій дарэмна ганяць нас, язычнікаў, маўляў, і такія мы і гэткія... Быццам толькі і робяць, што гібеюць у дзікунстве. А нашы карагоды, нашы язычаскія святы, напрыклад, Купалле... Хто яго забудзе? Не, дружыннік, народ гэтага ніколі не забудзе! У вас, у варагаў, нябось, ёсць свае багі?

Дружыннік. Так, княгіня.

Рагнеда. У кожнага народа сваё, а тут з Царграда прысылаюць нам праз мора сваё жаданне. Не думаю, што князю Уладзіміру лёгка будзе давацца хрышчэнне рускай зямлі... Але добра, позна ўжо, заўтра вам у дарогу. Дабранач. (*Княгіня ўстае з-за стала.*) А з табой, сын, трэба яшчэ пагаварыць. Толькі заўтра. Мне трэба сказаць сёе-тое ў Тураў. Добра?

Ізяслаў. Ага, мама.

*Княгіня выходзіць.*

Дружыннік. Ну што, княжыч? Смачна мы закусілі мясам тваёй мядзведзіцы. Дык рушаем заўтра?

Ізяслаў. Рушаем, рушаем! (*Бярэ пад руку падпітага госця, выводзіць з трапезнай.*)

*Лес. На начлег укладваюцца прэсвітэр Апанасій і Анея, пераапранутая ў хлопца.*

Апанасій (*жагнаецца*). Прывыкай, отрак, да такіх начлегаў. Іх у нас наперадзе шмат.

Анея. Хоць бы якое вогнішча!..

Апанасій. Вогнішчы, отрак, раскладваюць жабракі. За дзень навыпрошваюць кавалкаў, а тады на вогнішчы пякуць яечню ці сала смажаць. Мы ж з табой, бачыш, нічога не выхадзілі. А тое, што мелі з ласкі княгіні, згубілі, ломячыся сюды праз лес ды балота.



Анея. Без вогнішча страшна.

Апанасій. Чаго нам баяцца? З намі, отрак, бог наш.

Анея. Але трэба было дайсці хоць да якога-небудзь жытла.

Апанасій. Да яго яшчэ не адзін дзень тупаць. Я гэту дарогу ведаю. Ёсць тут, праўда, адно паганскае паселішча, на Нямізе. Але туды нам нельга.

Анея. Чаму?

Апанасій. Бо яно пакуль блізка ад тваіх багоў.

Анея. Бацька кажа, што гэта не нашы багі.

Апанасій. Гэта ён цяпер так гаворыць, а дасюль, нябось, маўчаў, а ты хадзіла ў свяшчэнны лес.

Анея. Думаеш, пагоня будзе за намі?

Апанасій (*жагнаецца*). Свят, свят! Ну, засынаем, а ўранні, як сонца ўзыдзе, харчу пашукаем. Я ўсё ўмею — і грыбы пячы на вогнішчы, і рыбіну злавіць у балацявіне. У лесе ўсяго хапае, не журыся, отрак. (*Кладзе свой хатыль пад галаву, выцягвае на імшаніку найпрост ногі.*)

Анея. Спі, дзядзечка, спі. Я пагляджу.

Апанасій. А то хадзі да мяне. Грэх — замолім.

Анея. Баюся, дзядзечка.

Апанасій. Ты ўжо, мусіць, не дзеўка?

Анея. Не, дзядзечка, дзеўка.

Апанасій. Нездарма твае багі захацелі мець цябе за ахвяру. Чыстая, цнатлівая. Гэты ваш вядун Холад... ой-я-ёй!

Анея. Не ведаю, дзядзечка.

Апанасій. Годзе, спі, цётачка, калі мяне не хочаш. Але гэтае тваё нежаданне, дасць бог, нядоўга будзе працягвацца. Я гвалтаваць не прывык.

Анея. Мне княжыча шкада будзе.

Апанасій. Дурніца, пра княжыча забудзь. Ён табе — не пара.

Анея. А я гатова ў дом да яго хоць трэцяй, хоць чацвёртай, а то і палюбоўніцай.

Апанасій. Цьфу, паганцы!

*Раптам чуецца свіст. На прэсвітэра Апанасія, а тады і на Анею тут жа накідваюцца нейкія людзі ў армяках з башлыкамі, з-пад якіх не відаць твараў. Усё адбываецца, лічы, умомант. Прэсвітэру Апанасію нападаючыя звязалі вяроўкамі рукі назад, Анею, якая ўсхапілася на ногі, таксама затрымалі.*

Чалавек у армяку з башлыком. Ну што, манах, думаў, ад нас далёка ўцячэш?

Апанасій (*спакойна*). Я — не манах, я — прэсвітэр праваслаўны. І не ўцякаў, а ішоў з Ізяслава, ад княгіні Рагнеды, у Кіеў.

Чалавек у армяку з башлыком. Няма розніцы — манах ты ці прэсвітэр. Навошта яе звёў з града?

Апанасій. Гэта не яна, а ён. Хіба сляпы?

Чалавек у армяку з башлыком. Хто тут сляпы, хто відушчы — зараз пабачым. Дык навошта звёў яе?

*Прэсвітэр маўчыць.*

Чалавек у армяку з башлыком *(да Анеі)*. А ты што нявінныя вочы талопіш? Думала, пераапранешся ў хлопца, дык ніхто і не пазнае. (*Дастае з торбы сукню, кідае Анеі.*) На, прымі нанава дзявочы воблік, а то срамата. (*Бачыць, што Анея не спяшаецца здымаць з сябе мужчынскае адзенне, загадвае свайму хаўрусніку.*) Надзявай сам на яе сукню. Ды здзяры спярша штаны, а тады ўжо...

*Хаўруснік пачынае тузаць дзяўчыну, але тая сама бярэ ў рукі сукню. Тут жа, на віду ва ўсіх, мяняе адзенне.*

Чалавек у армяку з башлыком. А цяпер, манах, бывай. Прабач, рукі мы табе развязаць не можам. Ногі, бачыш, таксама не спутваем, дарма што ты прыткі. А можа, бліжэй да бярозы яго, га?

*Усе акрамя Анеі смяюцца.*

Чалавек у армяку з башлыком. Ладна, заставайся так, як ёсць. Паспееш яшчэ выспацца да раніцы. Ды не ўздумай вярнуцца ў Ізяслаў. Няма чаго бянтэжыць людскія душы.

*Адыходзіць. На імшаніку застаецца адзін праваслаўны прэсвітэр. «О, госпадзі!» — ледзь не ў адчаі ўскліквае ён.*

*Знаёмы пакой у замку Рагнеды. У ім — княгіня. Заходзіць вядун Холад.*

Рагнеда. Што табе, Холад, не сядзіцца ў тваім свяшчэнным лесе? Хіба цябе непакояць чужыя багі?

Холад. Маю справу да княгіні.

Рагнеда. Я ўжо іншы раз хачу, каб вы рабілі свае справы без мяне.

Холад. Без прыхільнасці княгіні нельга.

Рагнеда. Гэта багі табе такую пачцівасць падказваюць?

Холад. Княская ўлада — боская ўлада.

Рагнеда. Якая ў цябе справа?

Холад. Наконт дачкі твайго злотніка.

Рагнеда. Мне казалі, што яна нібыта знікла кудысьці?

Холад. Нашы багі наставілі яе на правільны шлях. Яна вярнулася.

Рагнеда (*здзіўлена*). Як вярнулася?

Холад. Пра тое адны багі ведаюць. Гэта іх тайна, як уплываць на людзей.

*Рагнеда колькі часу маўчыць, ходзіць задуменна па пакоі. Спыняецца.*

Рагнеда. Значыць, лёс дзяўчыны вырашаны?

Холад. Так.

Рагнеда. І чаго ад мяне твае багі чакаюць?

Холад. Каб прыйшла да свяцілішча.

Рагнеда. Калі?

Холад. Сёння ўвечары.

Рагнеда. Ты чуў, што вялікі князь ужо прыняў хрысціянскую веру?

Холад. Чуў.

Рагнеда. І што ён нам скажа, калі дазнаецца, што дачку яго чалавека, а злотнік ягоны чалавек, дарма што тут, у Ізяславе, жыве, дык







што ён скажа нам, калі дачуецца, што дачку яго чалавека прынеслі ў ахвяру драўляным багам?

Холад. Такая воля багоў, няхай, як ты кажаш, хоць і драўляных. Але не табе, княгіня здзекавацца з іх. Цяпер хапае каму рабіць гэта. Таму мы павінны абараняць сваіх багоў.

Рагнеда. Адкуль ты ўзяў, што здзекуюся? Але злотнік кажа, што ты знарок наваліўся на яго.

Холад. Такая воля багоў.

*Рагнеда зноў моўчкі ходзіць па пакоі.*

Рагнеда. Ладна, я згаджуся прыйсці да свяцілішча. Але з той умовай, што выбар ахвяры адбудзецца нанава, пры людзях. На каго багі пакажуць, таго няхай і бяруць сабе. Няхай перад імі стануць хлопцы і дзяўчаты. А багі пакажуць, каго хочуць.

*Вядун думае, пасля з неахвотай ківае ў знак згоды галавой, выходзіць. Княгіня пляскае ў далоні, кліча кагосьці: «Гэй!»*

*Каля свяцілішча ў лесе, што паблізу горада Ізяслава, людскі натоўп. Вядун Холад, княгіня Рагнеда стаяць побач. За імі — нейкія язычніцкія святыя. Хтосьці са служак свяшчэннага лесу пераціраe вяроўкаю знізу драўлянага ідала. Насупраць размясціліся паўкругам на пэўнай адлегласці адзін ад аднаго дзяўчаты і хлопцы ў белым адзенні. Сярод іх — Анея. Служка, які пераціраe ідала, увесь час пазірае на яе, нацягваючы вяроўку так, каб пакласці ідала насупраць Анеі. Людзі зачаравана сочаць за гэтым ягоным свяшчэннадзеяннем. Хтосьці выдае невыразныя гукі — ці то горлам, ці то з дапамогай музычнага інструмента. А можа, грае так наструненая вяроўка. Нарэшце служка пераціраe дрэва, драўляны ідал падае на траву, паказваючы вострай галавой на Анею. Чуюцца розныя галасы — радасці, расчаравання і горычы.*

*Злотнік кідаецца з-за натоўпу да дачкі.*

Холад (*да княгіні*). Бачыла, багі зноў пацвердзілі свой выбар!

Рагнеда (*сумна і злосна*). Багі нашы сапраўды вельмі настойлівыя ў сваім жаданні! Асабліва ты, вядун!

*Рагнеда ў суправаджэнні ведуна, які штосьці даводзіць ёй, пакідае ахвярную паляну. У Рагнедзіным доме на Лыбядзі ў Кіеве Ізяслаў з радасцю кідаецца да чалавека, які расчыняе перад ім дзверы. Гэта — Фар, выхавацель велікакняскіх дзяцей.*

Ізяслаў. Дзядзька Фар!..

Фар. Не забыў мяне ў сваім далёкім Ізяславе, княжыч?

Ізяслаў. Сам бачыш, не!

Фар. А я ўжо каторы дзень пасылаю людзей на бераг Дняпра, чакаем ладдзю.

Ізяслаў (*усё яшчэ радуючыся*). Мы — конна! Нам з дружыннікам матухна дазволіла ад Турава сесці на коней.

Фар. Ну і як? (*Ляпае княжыча па клубах.*) Не набіў мазалі?

Ізяслаў. Я ў сядле добра трымаюся.

Фар. Далёка адсюль твой Ізяслаў? Я ўсё прыкідваю ў галаве, дзе ён? Знаю, што ў Полацкай зямлі.

Ізяслаў. О, дзядзька Фар! Туды доўга ехаць, а яшчэ даўжэй плысці. Калі з Кіева, то спярша па Дняпры, пасля па Бярозе, затым ужо наша Свіслач. Град наш яшчэ далей. На самым пачатку яе. Скажы, Фар, а як тут мае браты, сёстры? Маці найперш прасіла паклапаціцца пра іх.

Фар. Што тваім братам ды сёстрам? Яны ў Кіеве. Гэта ты, небарака, у глухамані. Але цяпер, думаю, усё мінецца. Вялікі князь нездарма адтуль выклікаў. Як княгіня?

Ізяслаў. Доўга сумавала. Цяпер гаспадыняй жыве ў нашым замку.

Фар. Спалохалася, калі ганец па цябе прыскакаў?

Ізяслаў. Яна ж — маці!..

Фар. Так, маці.

Ізяслаў. А навошта мяне бацька паклікаў? Дараваў мне ўчынак той?

Фар. Тваім учынкам кожны бацька павінен ганарыцца, княжыч. Праўда, спярша гарачка розум затлуміла. Ну, ды не мне судзіць князёў. А навошта паклікаў цябе бацька, дакладна не ведаю. Але не хвалюйся. Ты пакуль з дарогі памыйся, з братамі пагавары. Ты ж помніш іх?

Ізяслаў. Братоў помню. І Мсціслава, і Усевалада, а сясцёр — не.

Фар. Цяпер тут і Яраслаў жыве. Сёстры, як і ты, на маці падобны, а браты — на бацьку.

Ізяслаў. А Яраслаў — хіба наш?

Фар. Раз выхоўваўся з вамі, значыць, ваш.

Ізяслаў. Скажы, Фар, а ўвогуле... дзяцей у вялікага князя многа?

Фар. Адных сыноў — дванаццаць. Акрамя вас, што нарадзіла Рагнеда,— Вышаслаў, Святаполк, Святаслаў, Барыс, Глеб, Станіслаў, Пазвізд, Судзіслаў... Ну, а дзевак, дык... Ладна, княжыч, у нас часу пагаварыць яшчэ будзе. Ты тут прывыкай пасля дарогі, а я наведаюся ў замак, скажу вялікаму князю, што ты прыехаў. Гэй! (*Пляскае ў далоні.*) Хто там, нясіце княжычу Ізяславу чыстае адзенне, няхай умываецца ды адзяваецца! Ды паклічце да яго братоў і сясцёр!

*Фар выходзіць.*

*Сапраўды, пакуль Ізяслаў умываўся ды адзяваўся з дапамогай прыслужніка, да яго прыбеглі браты-падлеткі, сёстры меншага ўзросту.*

Усевалад. Дарэмна не паспеў на хрышчэнне ў Кіеў! Ці, можа, знарок спазніўся?

Ізяслаў. Дарога вялікая.

Усевалад. Дзе гэта твой град?

Ізяслаў. Як табе сказаць? Усе пытаюцца, дзе Ізяслаў, я тлумачу, а па вачах бачу, што мала хто разумее, дзе гэта. Трэба было сесці, брат, на каня ды разведаць дарогу да нас. А разам — і маці пабачыць. Нябось, забыў нават аблічча яе?

Усевалад. Ты так гаворыш, быццам мы знарок?

Мсціслаў. Я добра помню маму. Нават помню, як вы з ёй ад'язджалі з Кіева.

Ізяслаў. А я вось гэтага якраз і не помню. Што было да таго, помню, а як пакідалі Кіеў — забыў.

Усевалад. Град твой завецца па табе?

Ізяслаў. Так хацеў вялікі князь, а наш бацька Уладзімір Святаславіч. Град будаваў для нас ён.

Мсціслаў. Пачакай, Усевалад, няхай Ізяслаў раскажа пра маму.
Першая княжна. Ага, няхай!
Ізяслаў (*глядзіць на іх*). Вы — мае сёстры?
Другая княжна. Сёстры, сёстры!
Ізяслаў. Які лёс у нас!.. Меиь бацьку і маці, а жыць паасобку. Мама часта ўспамінае вас, тады плача, як успамінае.
Першая княжна. Яна прыгожая?
Ізяслаў. Як і вы!

*Сёстры шчасліва смяюцца.*

Мсціслаў. Вы, сарокі белахвостыя, клікалі б брата ў трапезную. Нябось, галодны?
Ізяслаў. Не, голад чамусьці прапаў. Убачыў вас, і голад прапаў.
Другая княжна. Гэта, брацік, ад радасці. Мы таксама рады табе. (*Пытаецца ў сястры.*) Праўда?
Першая княжна. Праўда, праўда!
Ізяслаў. А вас — пахрысцілі ўжо ў новую веру?
Усевалад. Усе мы цяпер хрысціяне. Цябе, відаць, таксама бацька паклікаў у Кіеў дзеля гэтага.
Ізяслаў. А як... ну як хрысцяць?
Мсціслаў. Я табе раскажу.
Першая і другая княжны. Раскажы, раскажы!
Усевалад. Ціха, сарокі!
Мсціслаў. У Кіеў бацька вярнуўся з Корсуня з царыцай і адразу загадаў скінуць з гары ідалаў, адных — пасекчы, другіх — спаліць.
Першая княжна. Ты яму пра Перуна раскажы.
Мсціслаў. Не перабівай! А то абедзвюх выставім за дзверы.

*Заходзіць Фар.*

Фар (*да Ізяслава*). Ну, княжыч, можаш радавацца: вялікі князь насказаў зараз жа прывесці цябе. Абедаць будзеш ужо, няйначай, у бацькі.
Мсціслаў. Фар, мы яму не дагаварылі!
Фар. Дасць бог, паспееце нагаварыцца.
Мсціслаў. Мы яму не дагаварылі, як людзей у Кіеве хрысцілі!
Фар. Хадзем, хадзем, Ізяслаў. (*Да Мсціслава.*) Я сам раскажу яму.
Першая і другая княжны (*наперабой*). Фар, прывядзі яго зноў да нас!
Фар. Прывяду, прывяду.

*Ізяслаў і Фар ідуць па сцэне.*

Ізяслаў. Ты, Фар, не даведаўся, дзеля чаго выклікаў мяне вялікі князь?
Фар. То яму аднаму ведама. Хадзем.
Ізяслаў. А што з Перуном было?
Фар (*махае рукой*). Ат, з ім зрабілі тое самае, што і з іншымі старымі багамі. А вось тут, па берагах гэтага Ручая, ішлі кіяўляне на Дняпро прымаць новую веру.
Ізяслаў. А што на гэта гаварылі язычніцкія святары?



Фар. Княжыч, запомні — тут паўсюды воля вялікага князя, яго ўлада над усім і над усімі. Прыехаўшы з Корсуня, ён адразу ж загадаў прывязаць Перуна да конскага хваста, і той валачыў яго з гары па Барычову ўзвозу да Ручая, а дваццаць дружыннікаў беглі следам, дубасілі старога бога жэзламі.
Ізяслаў. А што ж кіяўляне? Што яны?
Фар. Няверныя, канечне, плакалі, гледзячы на ганьбаванне, нават з плачам суправаджалі свайго бога да самага Дняпра. Але вялікі князь загадаў і далей адпіхваць Перуна. Сказаў: «Калі прыстане дзе да берага, адпіхвайце яго. А калі пройдзе парогі, тады толькі пакіньце яго». Няверным жа тым часам загадаў сказаць: «Калі не прыйдзе хто заўтра да ракі — ці то багаты, ці то бедны, жабрак ці раб — будзе мне вораг!» На другі дзень узышоў вялікі князь з папамі царыцынымі і карсунскімі на бераг Дняпра, куды збіраліся натоўпам кіяўляне, пагнаў людзей у ваду, і там яны стаялі ў ёй па грудзі, а папы хрысцілі іх малітвамі, стоячы на беразе.
Ізяслаў. Няўжо, Фар, увесь Кіеў дабрахотам з'явіўся на хрышчэнне?
Фар. Сам жа чуеш, княжыч, вялікі князь пагражаў. Але многія з града паўцякалі. Гэта дакладна вядома. Так што на нашай зямлі цяпер адным часам і паганскія багі, і новы, Ісус Хрыстос. І доўга яны будуць змагацца за душы людзей. Міне многа-многа часу, а на зямлі ў нас будуць прыхільнікі старой і новай веры. Але вялікі князь, пакуль жывы, не адступіцца, будзе гнаць з зямлі старую веру.

*У замку, куды неўзабаве прывёў Фар княжыча Ізяслава, сустрэў іх вялікі князь Уладзімір Святаславіч.*
*Суровы і не зусім ветлівы, Уладзімір доўга глядзеў на сына. Хто ведае, можа, здалося раптам бацьку, як стаў гэты сын яго ў абарону маці, княгіні Гарыславы. (Сцэна: няйначай, усё-ткі «ўбачыў» ён тую раніцу, прыйшла яна цяпер да яго, як насланнё.) Нарэшце вусны вялікага князя разышліся ва ўсмешцы, ён заплюскаў вачамі, яўна адганяючы ад сябе насланнё.*

Уладзімір. Ты, Фар, можаш ісці. Пакінь нас адных. (*Ступае да сына.*) Як даехаў, сын?
Ізяслаў. Дзякаваць багам.
Уладзімір (*зноў хмурачы лоб*). У нас тут, у Кіеве, цяпер адзін бог.
Ізяслаў. Так.
Уладзімір. Але пра багоў пасля. Ну-тка, выцягвай з ножнаў свой меч. (*Крычыць.*) Гэй, хто там, прынясіце мой меч! (*Да княжыча.*) А то вырас ты, бачу, з вежу, а вось якая рука ў цябе.

*Вялікаму князю падносяць меч.*

Уладзімір. Трымайся! І не зважай, што перад табой вялікі князь, а твой бацька. Успомні, як кідаўся некалі абараняць маці!
Ізяслаў. Бо малы быў...
Уладзімір. Такога саромецца не варта. Іншая справа, што ў бацькі даравааць прасіць усё роўна калі, а давядзецца, аднак саромецца таго ўчынку не трэба. Ну, пачалі.

*Вялікі князь і княжыч пачынаюць змагацца на мячах. Уладзімір адчувае, што сын добра валодае зброяй, крычыць: «Хвалю, Ізяслаў, хвалю!» — і спрытным ударам выбівае з рукі яго мяч. Ізяслаў колькі часу стаіць збянтэжаны. Уладзімір аддае дружынніку свой меч, падыходзіць да сына, ляпае па плячы.*

Уладзімір. Значыць, недарэмна траціў час. Адчуваецца дзедава рука, ды і бацькава таксама.

Ізяслаў. Якога дзеда?

Уладзімір (*амаль злосна*). Не так важна! Я вось дзеля чаго цябе паклікаў у Кіеў, Ізяслаў. Хачу пасадзіць нарэшце сваіх большых сыноў на сталы ў градах. Вышаславу даю Ноўгарад. Святаполку — Тураў, Яраславу — Растоў. Табе, Ізяслаў,— Полацк, вотчыну твайго дзеда Рагвалода.

Ізяслаў. А што атрымаюць мае аднаўтробныя браты — Усевалад, Мсціслаў?

Уладзімір. Гэта мой клопат. Ты пра іх не турбуйся. У іх таксама ёсць бацька. Але яны яшчэ не ў гадах. Пасля атрымаюць сваё, дарма што градаў у маёй зямлі пакуль не хапае. (*Смяецца.*) Сыноў у вялікага князя Кіеўскага больш, чым градаў. Трэба пачынаць ставіць іх паўсюды — і на Дзясне, і на Трубежы, і на Суле. Мсціславу, як падрасце, думаю аддаць Цьмутаракань, а Усеваладу — Уладзімір. Як жа твой град выглядае цяпер?

Ізяслаў. Расце.

Уладзімір. Няхай Ізяслаў застаецца маці. А сам едзь у Полацк. Хіба не рады?

Ізяслаў. Радасць вялікая.

Уладзімір. Думаю, што атрымаць дзедаву вотчыну — гэта акурат дакрануцца гарачай рукой да радасці. У Полацку дасюль былі мае пасаднікі. Па чарзе. Цяпер ты будзеш там законным князем. Вялікі стол па-ранейшаму застаецца за мной, тут, у Кіеве. Гэта ты павінен ведаць і шанаваць. У астатнім — Полацкі стол твой.

Ізяслаў. А зямля дзедава?

Уладзімір. Зразумела, што табе аддаецца пры гэтым уся Полацкая зямля, якой некалі валодаў дзед Рагвалод. Відаць, ты цяпер станеш высвятляць, што адбылося ў Полацку, калі ішоў я з Ноўгарада ў Кіеў. Табе нагавораць усялякага, толькі слухай. Маці, няйначай, таксама галаву задурыла сваёй нянавісцю. Урэшце, яе зразумець можна. Але слухай, што скажу я.

Ізяслаў. Слухаю, вялікі князь.

Уладзімір. Я напаў на Полацк і загадаў расправіцца з князем Рагвалодам. Перш за ўсё таму, што той увесь час спрабаваў адваёўваць у Ноўгарада валасці, якія ніколі не належалі яму. Па-другое, у вайне, якую вёў Ноўгарад, дзе я княжыў, Полацк падтрымліваў Кіеў, а князь Рагвалод хацеў мець за зяця Яраполка. Твой дзед па матчынай лініі, Ізяслаў, быў, такім чынам, маім ворагам. Не знішчыўшы ягонага гнязда, я не стаў бы вялікім князем у Кіеве. Разумееш?

Ізяслаў. Так.

Уладзімір. Цяпер я прыняў новую веру. І як сказаў апостал Павел: «Усе мы, хто хрысціўся ў Ісуса Хрыста, у смерць яго хрысціліся, дакладней, мы хаваліся з ім, хрышчэннем гэтым, у смерць, каб, як Хрыстос уваскрэс з мёртвых славай айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцці». Ты з гэтага зразумеў што-небудзь?

Ізяслаў. Словы тваё невыразныя пакуль.

Уладзімір. Так вучыць апостал Павел, адзін з тых, хто быў разам з Ісусам Хрыстом.

Ізяслаў (ківае галавой). Мне аб гэтым расказваў праваслаўны прэсвітэр Апанасій, што прыходзіў да нас у Ізяслаў.

Уладзімір. Я, сын мой, аддаючы табе Полацкі стол, хачу, каб ты зразумеў: мінулае прайшло, цяпер усё будзе па-новаму. Але стол атрымаеш пасля таго, як прымеш новую веру. Без гэтага я не дам табе Полацкага княства.

Ізяслаў. А што старыя багі? Як мне са старой верай быць?

Уладзімір. Гэта не вера была. Звычайнае замарачэнне. Таму са старымі багамі ў сваім княстве мусіш зрабіць, як зрабіў я тут, у Кіеве. Нябось, чуў?

Ізяслаў. Фар мне расказваў.

Уладзімір. Тым лепш. Бацькава воля павінна быць выканана цалкам. Я не стану доўга затрымліваць цябе ў Кіеве. Пакуль справа дойдзе да твайго хрышчэння, падбірай сабе людзей, з якімі паедзеш у Полацк. Многа адсюль не бяры. Дружыну набярэш там. А пасаднік мой табе дапаможа. Галоўнае, збяры вакол сябе разумных людзей. Слухайся іх, але і свой розум таксама май. Каго ты адсюль возьмеш? Прасі!

Ізяслаў. Нікога тут пакуль не ведаю. Але таго дружынніка, што прыязджаў да нас ганцом, дазволь узяць у Полацк.

Уладзімір. Бяры.

Ізяслаў. І Фара мне дай.

Уладзімір. А братоў тваіх ды сясцёр хто выхоўваць стане? (*Падумаўшы.*) Ладна, пагавару з Фарам. Яшчэ каго?

Ізяслаў. Дазволь пажыць трохі ў Кіеве, агледзецца.

Уладзімір. Добра. Але ўсё роўна доўга не затрымлівайся. У Полацку чакаюць новага князя.

Ізяслаў. Ведаюць — каго?

Уладзімір. Чакаюць, але пакуль не ведаюць. Аб гэтым знаем ты ды я. Запомні, сын: даўняе прайшло, за яго больш не трымайся, цяпер будзе ўсё новае; мы былі пагразнулі ў цемнаце і грахах; цяпер наблізілася да нас выратаванне, ноч прайшла, а дзень наблізіўся.

Ізяслаў. Што ж ты нічога не пытаеш пра маю маці, а тваю жонку?

Уладзімір. Пра яе мая воля табе выйдзе пасля. А цяпер — хадзем у трапезную, сядзем за абедзенны стол. Любіш паесці? Князь павінен многа жэрці.

*Замак у Ізяславе. У святым пакоі княгіня Рагнеда, нянька. Адчыняюцца дзверы, шырокім крокам, у багатым княскім адзенні, са зброяй заходзіць Ізяслаў.*

Ізяслаў. Вітаю, княгіня!

Рагнеда. Добрага дня, сын! Бачу, князем з Кіева вяртаешся?

*Ізяслаў падыходзіць да маці, становіцца на правае калена, схіляе галаву.*

Ізяслаў. Вялікі Кіеўскі князь, а мой бацька Уладзімір Святаславіч вярнуў нам Полацкі стол.

Рагнеда. Я рада, сын, што табе нарэшце па праву дасталася дзедава вотчына. Што дзеці? Як твае браты ў Кіеве жывуць, сёстры?

Ізяслаў. Кланяюцца табе.

Рагнеда. Ніхто не захацеў прыехаць сюды?

Ізяслаў *(сумеўся, але ўсё-ткі сказаў)*. На тое не было волі вялікага князя.

Рагнеда. Ты ўстань, князь! Значыць, Уладзімір не дараваў мне? Табе дараваў, а мне — не?

Ізяслаў. Табе застаецца на ўсё жыццё гэты град. Я паеду сёння ж у Полацк, ты будзеш жыць тут. Па новай веры...

Рагнеда. Ты прыняў новую веру?

Ізяслаў. Так. Дык па новай веры вялікаму князю цяпер належыць мець адну жонку.

Рагнеда. Адну?

Ізяслаў. Так, адну.

Рагнеда. І ён пакідае за сабой новую, Ганну?

Ізяслаў. Я гэтым дужа не цікавіўся. Але, няйначай, гэта так. Дык згодна з новай верай князь дае волю ўсім сваім жонкам. Табе, мама, таксама.

Рагнеда. Навошта мне яго воля!

Ізяслаў. Можаш зноў выходзіць замуж.

Рагнеда. І гэта ўслед за распусным бацькам гаворыць мой сын! Я не пазнаю цябе, Ізяслаў! У Кіеве цябе падмянілі.

Ізяслаў. Не, мама, проста я стаў сапраўдным князем. А сюды прыехаў, каб пабачыць цябе і пераказаць на словах тое, што загадаў бацька.

Рагнеда. А ў Полацк? Возьмеш мяне з сабой у Полацк?

Ізяслаў. Ты застанешся жыць тут, мама. Я ўжо сказаў.

Рагнеда. Вялікі князь забараняе? А ты не здольны не паслухаць яго? У цябе ж цяпер твой Полацкі стол!

Ізяслаў. *(да нянькі)*. Ты — выйдзі.

Нянька *(бурчыць)*. Ну вось, дажыліся — ужо ад старой нянькі ў маіх князёў з'явіліся тайны! *(Выходзіць.)*

Ізяслаў. Я атрымаў яго з адной умовай.

Рагнеда. З якой?

Ізяслаў. Што воля вялікага князя ў Кіеве абавязковай будзе ў Полацку.

Рагнеда. І ты ўзрадаваўся такому сталу?

Ізяслаў. Я прыняў яго.

Рагнеда. Але ж полацкія князі амаль заўсёды былі незалежныя ад Кіева.

Ізяслаў. Мама, галоўнае, што ў Полацку зноў будзе свой князь.



Рагнеда. Навошта ён такі князь там — звязаны па руках і нагах? Дзед твой Рагвалод не схіліў галавы ні перад кім.

Ізяслаў. Затое і паплаціўся.

Рагнеда. Ён бы не паплаціўся, калі б я самахоць згадзілася разуць ногі сыну рабыні. Ты гэта ведаеш?

Ізяслаў. Цяпер я ведаю шмат, мама. Але ты не павінна дакараць мяне, што я згадзіўся на пэўных умовах прыняць Полацкі стол. У мяне ў галаве снуюцца планы...

Рагнеда. О няшчасная зямля! Што з табой будзе?

Ізяслаў. Раней часу не трэба плакаць па ёй. Цяпер у яе ёсць гаспадар, свой князь.

Рагнеда. Няшчасная яна і няшчасны сын мой!

Ізяслаў. Ладна, мама, здаецца, я ўсё пераказаў, трэба спяшацца ў Полацк.

Рагнеда. Ты не раздзеліш са мной нават трапезу?

Ізяслаў. Няма калі, мама. Скажы, каб памянялі коней, а то мае стаміліся.

Рагнеда. А сам ты?

Ізяслаў. Яшчэ трымаюся ў сядле.

Рагнеда. Цяпер ужо зусім зразумела — падмянілі цябе ў Кіеве, сын! Раней ты не такі быў!

Ізяслаў. Раней не ляжаў на мне княскі клопат. Жылі сабе тут, і ўсё.

Рагнеда. Ты яшчэ ўспомніш наша тутэйшае жыццё, яно будзе здавацца табе самым лепшым.

Ізяслаў. Ты гаворыш так, быццам не жадаеш шчасця ні мне, ні нашай зямлі, якую мы назад атрымалі?

Рагнеда. Якраз таму я і гавару гэтак, што хвалююся і за цябе, і за бацькаву зямлю.

Ізяслаў. Прасі багоў за нас. Хоць што я кажу? Наконт багоў таксама ёсць воля вялікага князя. Дарэчы, трэба сказаць няньцы, каб прывялі сюды Анею. Я вазьму яе з сабой у Полацк.

Рагнеда. Яна не прыйдзе.

Ізяслаў. Чаму?

Рагнеда. Яе забралі да сябе багі.

*Ад нечаканасці Ізяслаў сядае на ўслон, бярэ ў далоні твар.*

Ізяслаў. Каму гэта ў галаву прыйшло аддаць яе багам у ахвяру?

Рагнеда. Самім багам. Я была тады ў свяшчэнным лесе, выбар паў на яе...

Ізяслаў. І ты не заступілася?

Рагнеда. Перад багамі ўсе людзі роўныя!

Ізяслаў *(устае, бліскае вачамі)*. Трэба спаліць гэты лес і разбурыць свяцілішча з усімі яго кумірамі! Так, як учынілі з імі ў Кіеве! А на іх месцы паставіць праваслаўныя цэрквы са званамі.

Рагнеда. Ты гэтага не зробіш, сын! Бо нашы багі будуць доўга харкаць крывёю ўслед вам, здрадзіўшым старой веры! Сам жа не адзін раз паўтараў за тым заходнім святаром: звон — яшчэ не малітва...

*Рагнеда падае перад сынам на калені.*

Ізяслаў. Устань, мама... Устань!.. *(Бярэ яе, становіць на ногі.)* Урэшце, жыві тут, як знаеш!.. Бывай! (*Выходзіць.*)

*Усё той жа светлы пакой. Праз многа гадоў.*
*Княгіня ўвечары стаіць каля расчыненага акна. Няйначай, што на дварэ якраз зноў пара позняга лета.*
*У пакоі з ёю — нянька.*

Рагнеда. Забылі пра нас, нянька. Нават сын забыў. Пахавалі нас тут, як у магіле.

Нянька. Такая планіда наша, княгіня.

Рагнеда. Так, планіда, будзь яна праклятая!

*Чуецца, як пачынае выць недзе старая ваўчыца.*

Рагнеда. Толькі яна верная пакуль застаецца.

Нянька. Дык звер жа...

Рагнеда. Гэта я не дала яе некалі забіць Ізяславу... А вось Анею...

*Княгіня слухае. І да яе прыходзіць апошні ўспамін, як цяжкі прывід: Уладзіміравы варагі ў лета 6488-е ўрываюцца ў Полацкі замак, забіваюць на вачах у Рагнеды бацьку, маці, братоў...*



# Публіцыстыка

 



# ЗРУЙНАВАНАЯ ПАМЯЦЬ МУРОЎ

Час умее паміраць. Няўмольна, непазбежна. Па ім застаецца ўспамін. Памірае чалавек—застаецца рэчы, у якіх увасоблены ягоны дух. Знікаюць рэчы—знікае і дух...

Ход гісторыі і лёс чалавека... Гэтыя два непарыўна звязаныя паняцці праз усе варункі часу крочаць побач. Чалавек робіць гісторыю, гістарычныя законы падпарадкоўваюць сабе чалавека. Бывае, яны супярэчаць адзін аднаму. Тады адбываюцца драмы—драмы адзінкавых асоб альбо цэлых народаў. І праз многія гады цяжка бывае шукаць правага і вінаватага, адрозніць аб'ектыўнае ад валюнтарысцкага, недасведчаную неадукаванасць ад злачыннага намеру.

Жыццё чалавека ў прасторы стагоддзяў—бліскавіца, якая згасае так імгненна, што не пакідае па сабе і следу. Але часам застаюцца справы. Адны—падобныя подзвігу Геракла, другія—учынку Герастрата. І мусіць насіць іх матухна-зямля, пакуль не згасне над ёю сонца. а людзі—помніць, пакуль будуць хадзіць пад гэтым сонцам.

Сёння з нябыту ў наш абнадзеены век вяртаюцца постаці закатаваных, зняважаных і ашальмаваных людзей. Мы адчуваем свой абавязак перад іх памяццю, а разам з тым—абавязак перад памяццю Бацькаўшчыны, кожнага яе куточка, што моўчкі знікалі, не ведаючы нават сутнасці судовай «справы».

Пра лёс аднаго з іх і пойдзе наш аповед.

Той, хто прыязджае ў Полацк, адразу заўважае прыгожыя маляўнічыя плакаты, якія абвяшчаюць аб старажытнасці гэтага горада: 1125 год! Нявопытны падарожнік, убачыўшы такую лічбу, пачынае прыгадваць храмы Смаленска, сцены Пскова, Сафійскія саборы Ноўгарада і Кіева. Уяўляюцца магутныя камяніцы з высокімі вежамі, залатыя макаўкі раскіданых па наваколлі манастыроў, багатыя экспазіцыйныя залы шматлікіх музеяў. Моцна абнадзейваюць бачныя здалёк званіцы Сафійскага сабора, купал Багаяўленскай царквы XVIII стагоддзя. А што далей?

А далей наш цікаўны падарожнік трапляе ў звычайны невялікі гарадок, скрозь забудаваны сталінска-хрушчоўскімі дамамі, наборам ледзь не тыповых помнікаў, бюстаў і стэл. Ёсць і прыкметы дня сённяшняга: шэрыя блочныя хмарачосы з выразнай і тыповай адсутнасцю дэкору, коміны фабрык і заводаў, неад'емны двухпавярховы універмаг і г. д.

«І гэта ўсё?»—здзівіцца ён. Не, не ўсё. Ёсць магчымасць агледзець рэшткі велічнага некалі Сафійскага сабора XI ст. і яго больш познюю перабудову ў XVIII ст., згаданы ўжо Багаяўленскі сабор XVIII ст., дзе зараз размешчана гарадская карцінная галерэя, будынак Брацкай школы, у якой выкладаў першы настаўнік Пятра І Сімяон Полацкі. Можна ўбачыць будынак былой лютэранскай кірхі, у якой пасля зацягнутага рамонту нарэшце адкрыўся адзіны ў горадзе краязнаўчы музей. А яшчэ—домік Пятра І, дзе быццам бы спыняўся сам цар пад час Паўночнай вайны. Чырвоны мост—своеасаблівы дзеючы помнік вызваленню Полацка ў 1812 г. І некалькі помнікаў У. І. Леніну. Адзін з іх, гіпсавы, пафарбаваны бруднай чырвона-карычневай фарбаю, на нашу думку, мае мала агульнага з дарагім кожнаму савецкаму чалавеку вобразам правадыра. Ёсць яшчэ помнік камсамольцам, Францішку Скарыне. помнік перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне. Калі пашанцуе, дык, запытаўшы мясцовых жыхароў, можна знайсці і былы Спаса-Праабражэнскі манастыр, які быў заснаваны ў XII ст. Ефрасінняй Полацкай. Але гэты аб'ект не заўсёды ўваходзіць у маршруты экскурсій, а таму аб ім расказваюць толькі тады, калі турыстаў правозяць у бок чарговай «адметнай» новабудоўлі або «гіганта пяцігодкі».

Мясцовыя экскурсаводы могуць расказаць і пра іншыя выдатныя мясціны, але часцей за ўсё—не выходзячы з аўтобуса, бо глядзець, уласна кажучы, няма на што. Некалькі год мне падоўгу даводзілася працаваць у гістарычным цэнтры горада, ды я ніколі не бачыў пешых экскурсій. Між тым у аўтобусах з вуснаў экскурсаводаў проста-такі дуплетамі злятаюць словы: «там быў», «там знаходзіўся», «некалі стаяў»... І толькі вопытны

**Раскопкі на Вялікім пасадзе X—XIII стст., дзе вучоныя ледзь паспелі спыніць будаўнікоў.**



 

 



Помнік вызваліцелям Полацка 1812 г. Знесены ў 1935 г.




Барысаглебская царква XII ст. Бельчыцкага манастыра. Гравюра XIX ст. Зараз не існуе.

турыст з багатай фантазіяй мог уявіць, як «быў», як «знаходзіўся», як «стаяў». І гэтых «быў» ледзь не ўтрая больш за сённяшнія «ёсць».

Невядома, з чыёй лёгкай рукі ўсе нашы культурныя і гістарычныя страты (у асноўным архітэктурныя) мы з лёгкім сэрцам і чыстым сумленнем далучаем сёння да ахвяр ваеннага ліхалецця. Сапраўды, гэтай бядоты на нашай зямлі хапала. Але ж варта прызнаць, што былі ў нашай сучаснай гісторыі часы, калі то цішком, то прыкрываючыся гучнымі лозунгамі знішчалася культура—помнікі і людзі.

Гістарычны цэнтр Полацка—плошча Леніна (былы Кадэцкі пляц). Вакол яе апошнія два гады шмат было размоў. Бездапаможны, навукова і гістарычна неабгрунтаваны архітэктурны план прадугледжваў забудову плошчы сучаснымі бетоннымі каробкамі, хітра названымі «індывідуальным праектам». Адна з чатырох—12-павярховая,—па словах галоўнага архітэктара горада А. Ф. Седзюка, павінна была завяршыць гістарычную частку архітэктурнага ансамбля. Справа нават не ў тым, што, не папярэдзіўшы навукоўцаў, пачалі будаваць дамы на каштоўным археалагічным пласце тысячагадовай даўнасці. А ў тым, што цалкам забыліся «адказныя» безадказныя таварышы на гэту самую гісторыю. А некалі ж людзі яе ведалі... Куды прасцей прыпісаць да гісторыі свае ўласныя дасягненні і быць упэўненым, што калі мыльны пухір і лопне, дык адбудзецца гэта пасля цябе ўжо. Гісторыя полацкай плошчы вельмі паказальная сама па сабе. Можа, нават тыповая.

Першыя гарадскія пасяленні з'явіліся на тэрыторыі сучаснай плошчы Леніна ў канцы IX—пачатку X ст. З пабудоваю Езуіцкага калегіума і нават трошкі раней, з часоў надання каралём Рэчы Паспалітай Стэфанам Баторыем прывілеяў братам Лайолы на полацкія землі ў канцы XVI ст., гэты пляц становіцца новым гарадскім цэнтрам. У XVII ст. тут пабудаваны касцёл Святога Стэфана (пазней названы Мікалаеўскім), Дамініканскі кляштар, першая полацкая аптэка. Услед за імі ў XVIII—XIX стст. з'яўляюцца Дом губернатара, Казённая палата, Крымінальная і Грамадзянская палаты, Земскі суд і г. д. Лагічным завяршэннем стаў помнік воінам-вызваліцелям Полацка, пабудаваны да стагоддзя Айчыннай вайны 1812 года. Адметная архітэктура гэтага помніка ў спалучэнні з цяжкімі чыгуннымі ланцугамі вакол яго складала ўражанне паступовага нарастання спічастай перспектывы ў накірунку да Мікалаеўскага сабора, што асабліва добра назіралася пры падыходзе да галоўнай гарадской вуліцы—Аляксандраўскай (раней Віцебская, а зараз—частка пр. К. Маркса). Усё цалкам стварала адчуванне велічнага ўздыму, гарманічнай прыгажосці.

У 1905—1906 гг. і ў 1917 г. плошча з'яўлялася цэнтрам усіх рэвалюцыйных падзей. Тут і на суседніх вуліцах адбываліся дэманстрацыі, мітынгі, гучалі стрэлы, лілася людская кроў. Да пачатку 30-х гадоў плошча не мела архітэктурных страт: перажыла і белапольскія абстрэлы, і кайзераўскую акупацыю, пакуль... краіне не спатрэбіўся метал. Па разуменню мясцовых улад, адзінае выйсце—знесці помнік 1812 г. Пра тое, што чыгун, з якога адліты гэты амаль 17-метровы манумент, быў непрыгодны для паўторнага выкарыстання, чамусьці не падумалі. Шматтонны помнік спачатку спрабавалі проста перакуліць з дапамогаю «фардзонаў». Але трактары, зачапіўшы помнік сталёвымі тросамі, самі паўсталі на дыбкі, а чыгунная глыба нават



Багаяўленскі сабор XVIII ст. замыкае перспектыву вуліцы.

не зварухнулася. Тады выклікалі брыгаду газарэзчыкаў, якія і разрэзалі манумент на кавалкі.

Скончыў сваё духоўнае існаванне і Мікалаеўскі сабор. «Па жаданню жыхароў горада» яго зачынілі, званы знялі і адправілі на пераплаўку. Шматлікія пахаванні, якія знаходзіліся ў скляпеннях сабора, перашкаджалі планам далейшага яго выкарыстання. Таму косткі нябожчыкаў «сабралі» ў адну крыпту пад уваходам, а вызваленыя падвалы скарысталі ў якасці складаў як гародніны. Так у сярэдзіне 30-х гадоў нябожчыкаў Мікалаеўскага сабора пасялілі ў адзін «інтэрнат».

Дзесяцігоддзем раней спыніў сваё існаванне як «культавая забудова» Сафійскі сабор. У 1921 г. з яго былі рэк-

 

візаваны ўсе каштоўнасці з золата і серабра ў дапамогу галадаючым Паволжа... Спроба зрабіць у саборы музей (1923—1924 гг.) не мела поспеху. Музей перавялі ў былую лютэранскую кірху, якая разоў у дзесяць была меншая за сабор. А з трэцяга на Кіеўскай Русі сабора Прамудрасці Божай зрабілі збожжасховішча.

У «пераломныя» 20-я гады была зачынена Багаяўленская царква. Яе бібліятэку і некаторыя рэчы перадалі ў краязнаўчы музей, акрамя тых каштоўнасцей, якія таксама пайшлі на паратунак галадаючым. У самой царкве зрабілі спартыўную залу.

Але і на гэтым разбуральная хваля не спынілася. Тады ж пастановай мясцовага Савета быў узарваны і разабраны комплекс Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра XII ст. Маўляў, патрэбна цэгла для новабудоўлі. Цэглу з больш позніх прыбудоў (XVIII—XIX стст.) разабралі, у той час як плінфу—тонкую цэглу XII ст.—проста знішчылі, бо яна «не мела будаўнічай вартасці». Разам з манастырскімі храмамі амаль цалкам загінулі старажытныя фрэскі, а таксама пахавальня полацкіх князёў у сутарэннях Пятніцкай царквы.

У 30-я гады быў знесены сабор францысканцаў, заснаваны ў 1648 годзе. Калі прайсці сёння па вуліцы Леніна (былой Ніжнепакроўскай), дзе знаходзіліся сабор і кляштар, нават цяжка ўявіць, каму яны маглі замінаць. Зараз ад кляштара захаваўся толькі адзін двухпавярховы дом № 18, дзе размясціўся раённы аддзел міліцыі. А летась да гэтага дома прыбудавалі яшчэ адзін у псеўдастаражытным стылі, папярэдне перакапаўшы без навуковага даследавання каштоўныя археалагічныя напластаванні. Застаецца толькі дадаць, што слаўнае міліцэйскае будаўніцтва адбылося ў межах ахоўнай зоны Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка. Паўстае пытанне: як магло такое здарыцца? А вельмі проста. Ведамства—у дадзеным выпадку Міністэрства ўнутраных спраў—уключыла ў архітэктурна-праектную групу чыноўніка з другога ведамства—Міністэрства культуры. А паколькі апошняму падпарадкоўваецца гісторыка-археалагічны запаведнік, то чыноўнік дапамагае ажыццявіць праект без лішніх клопатаў, за што і атрымлівае добрую ўзнагароду, менавіта тыя грошы, якія павінны былі выкарыстаць на папярэднія навуковыя даследаванні. Вось і атрымліваецца, што там, дзе пахне грашыма, пытанні этыкі, маралі, абароны помнікаў і г. д. саступаюць на другі план.

Але вернемся на некалькі дзесяцігоддзяў назад. Вернемся да падзей, побач з якімі такая дробязь, як перайменаванне вуліцы Стралецкай у вуліцу імя М. Горкага, здаецца не вартай увагі.

У другой палове 30-х гадоў раскручаны махавік вандалізму спыніць ужо было няпроста. У 1936 г. на месцы знесенага помніка 1812 г. будуецца помнік У. І. Леніну па праекце скульптара А. Бембеля. Помнік быў цікавы і нават незвычайны. На высокім п'едэстале стаяў Уладзімір Ільіч, абапал яго, трохі ніжэй,— салдат і матрос. Відаць, жаданне паставіць новы помнік замест ранейшага было паспешлівым, бо не ўлічылі архітэктурных асаблівасцей плошчы. Вышыня помніка каля 12—15 м, а за ім, ва ўсёй сваёй велічы ўзвышаўся Мікалаеўскі сабор амаль шасцідзесяціметровай вышыні. Спічастая кампазіцыя помніка 1812 г. і сабор дапаўнялі адзін аднаго, скульптурная ж група людзей на фоне сабора значна гублялася. Заўважылі гэта толькі тады, калі новы помнік быў устаноўлены. Відавочныя памылкі, зразумела, трэба выпраўляць. І шлях знайшлі просты: знізіць вышыню Мікалаеўскага сабора шляхам зносу ягоных веж да званіц. Сказана—зроблена. Але і гэтага падалося мала. Нават усечаны сабор перашкаджаў новай кампазіцыі. Тады гарадскія ўлады вырашаюць яго «па-мастацку аздобіць» і скарыстаць у выглядзе тэатральнай дэкарацыі. Паміж вежаў сабора замацавалі вялізны маляваны партрэт Сталіна ў лямпачных гірляндах. Знізу партрэта на ўсю даўжыню прасціраўся лозунг «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»—таксама электрыфікаваны. У сукупнасці з пражэктарамі, якія ўвечары асвятлялі помнік, партрэт у лямпачках, па словах сведак, пакідаў моцнае ўражанне.

Не абмінулі віхуры тых гадоў і Спаскага манастыра, заснаванага славутай Ефрасінняй Полацкай у сярэдзіне XII ст. 13 мая 1922 г. ускрылі мошчы самой Ефрасінні і адправілі іх у Маскву на выстаўку, а потым—у Віцебскі краязнаўчы музей. Годам раней з манастыра былі рэквізаваны ўсе каштоўнасці. Сярод іх: крыж Лазара Богшы XII ст., ра́ка, у якой ляжалі мошчы Ефрасінні, вагою ў 40 пудоў серабра. У 1928 г. манастыр нагул зачынілі. Манашкі вымушаны былі





Гарадзішча Рагнеды і Рагвалода IX—X стст.

пасяліцца на лядах каля станцыі Гараны пад Полацкам.

Ну, і застаецца дадаць, што ў трыццатыя гады для пашырэння полацкага аэрадрома разам з царквою былі знішчаны Міхайлаўскія могілкі, на якіх знаходзілася і магіла рэвалюцыянера Шылкоўскага, які загінуў у 1905 г., а таксама старыя яўрэйскія могілкі, праз якія правялі вуліцу (сучасная Юбілейная), і насып да моста праз Дзвіну.

Узнікае пытанне: што за навала прайшлася па нашых помніках у 20—30-я гады, разбуральную сілу якой можна параўнаць хіба што з жудасным цунамі? Яна прайшлася па памяці нашых дзядоў і бацькоў. А што рабілі мы, іх дзеці? Завучвалі па школьных і інстытуцкіх падручніках лічбы дасягненняў і рапартаў, перавыкананых планаў, ганарыліся «выдатнымі поспехамі» ў галіне мастацтва і культуры. Так, культуры, якой нас старанна пазбаўлялі. Нас прымушалі адлічваць крокі гісторыі краіны толькі ад 1917 г., ад першых пяцігодак, па вехах грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, завучваць лічбы з'ездаў і пленумаў, дасягненняў жывёлагадоўлі, якіх не існавала, памнажаючы іх на колькасць яек на душу насельніцтва. І як жа яно ўсё добра ўкладвалася ў галодную, але «перспектыўную» тэорыю шчаслівай будучыні! Ні адзін выкладчык не змог нам дасціпна растлумачыць, чаму тысячагадовая гісторыя нашага народа так лёгка ўкладвалася ў чацвёртай частцы падручніка, а апошнія 70 год «пачэсна» занялі астатнюю яго плошчу? Белыя плямы 30-х і канца 40-х гадоў нават не краналіся, а ў дарэвалюцыйную гісторыю трывала забілі асінавы кол, літасціва пакінуўшы ў якасці патрыятычных прыкладаў барацьбу з мангола-татарамі, крыжакамі, паўстанні супроць царскага самаўладдзя і яшчэ тое-сёе.

Рэлігія, як было абвешчана, ёсць «опіум для народа», а гэта значыць—далоў званы, фрэскі, абразы ды і самі цэрквы! Імёны правадыроў павінны зіхацець на карце краіны, а таму—далоў Марыупаль, Самару, Ніжні Ноўгарад, Набярэжныя Чаўны, Іжэўск. Некаму зда-



 

ліся немілагучнымі назвы: Дрыса, Прапошаск, Гародня, Менск—прэч іх! Няхай будуць Верхнядзвінск, Слаўгарад, Гродна, Мінск. І ўсё гэта рабілася ад імя народа, бо, маўляў, гісторыю робяць масы, і толькі часам—асобы. Так, але асобы— не заўсёды людзі. Бывае, нараджаюцца і пачвары.

«Асоб» з кожным годам нараджалася ўсё больш і больш. На жаль, яны і дагэтуль плодзяцца. Калі пойдзе так і далей, то хутка мы будзем жыць не ў гарадах і мястэчках, і нават не ў вёсках, а сярод знакамітых асоб, назваў газет і часопісаў, розных шыльдаў «яблынек» і «вішанек». Шмат было пакладзена намаганняў, каб пазбавіць нас уласнай гісторыі, яе каранёў у зямлі і ў душах. Партыйныя дзеячы тыпу В. Г. Кнорына былі не першыя, хто адмаўляў беларусам у нацыянальнай самастойнасці, гісторыі і дзяржаўнасці. Кнорыны ведалі, што неабходна рабіць, каб дасягнуць сваёй мэты.

Да гэтага часу ў друку, у выступленнях некаторых псеўдазмагароў за нашы ідэалы чуеш: «Па нашай зямлі ўсе стагоддзі гуляла вайна. Колькі знішчыла толькі апошняя!» Так, знішчыла. З гэтым нельга не пагадзіцца. Але давайце будзем дакладныя: чаго, колькі і як?!

Вернемся ў Полацк. 1918 год, вайна з белапалякамі. Горад захоплены па левы бераг Дзвіны і абстрэльваецца з гармат і кулямётаў ажно 7 месяцаў. У той час адзінай дзеючай праваслаўнай царквою заставаўся Багаяўленскі сабор. Ён апынуўся на перадавой лініі абароны. Але служба тым не менш не спынялася. Веруючых склікалі званы. У час набажэнства яго абстрэл спыняўся. Па самім саборы, зразумела, не стралялі.

У той жа пакутны год Полацк пазней захапілі кайзераўскія войскі. Яны не разбураюць архітэктурных помнікаў, а карыстаюцца імі. Ад Сафійскага сабора аж да Стралецкай вуліцы была пракладзена драўляная маставая. Але пасля вызвалення Полацка Сафія была зачынена з 1921 г., каштоўнасці рэквізаваны.

1941—1944 гг. Полацк акупаваны фашысцкімі войскамі. Адчыняецца Сафійскі сабор, Мікалаеўскі, Пакроўская царква, аднаўляецца Спаскі манастыр, Багаяўленская царква. Некаторыя з іх рамантуюцца. З дазволу і з дапамогаю акупацыйных улад вяртаюцца з Віцебска мошчы Ефрасінні Полацкай. З гэтай нагоды ў дзень прыбыцця цягніка з мошчамі была нават адменена камендантская гадзіна. Па дарозе мошчы суправаджаў прадстаўнік штандарткамендатуры капітан Фукс. Было арганізавана нават Царкоўнае ўпраўленне ў Полацку.

Мы далёкія ад думкі, што акупанты выступалі ў якасці руплівіцаў на ніве беларускай спадчыны. У захопнікаў былі свае добра прадуманыя мэты, якія не мелі нічога агульнага з клопатам пра культуру і гісторыю краю. Таму, калі ім спатрэбілася, цалкам знішчылі старыя Ксавер'еўскія і яўрэйскія могілкі ў раёне сучаснага стадыёна «Лакаматыў», падарвалі Дамініканскі касцёл, а фотаздымкі руін змясцілі ў нямецкіх газетах з подпісам: так бальшавікі распраўляюцца з каталікамі.

Панеслі ў вайну страты і гістарычныя грамадзянскія забудовы Полацка. Зараз, вядома, цяжка сказаць, хто разбурыў болей, бо горад бамбілі і абстрэльвалі як у 1941 г., так і ў 1944 г. Арыенцірам для гэтых абстрэлаў і бамбёжак часцей за ўсё былі вежы Сафійскага сабора. І тым не менш мясцовыя жыхары добра памятаюць масіраваны налёт савецкай авіяцыі 28 мая 1944 г. за некалькі дзён да вызвалення горада. У выніку налёту амаль цалкам быў знішчаны гістарычны цэнтр Полацка, бо менавіта тут былі камендатура і штаб нямецкіх войск. Хочацца верыць, што ў гэтым была ваенная неабходнасць, і радавацца за братнюю Прагу, на чые архітэктурныя помнікі пры вызваленні савецкімі войскамі не ўпала ніводная бомба.

Кажуць, на вайне як на вайне. І яно сапраўды так. Ды толькі пасля вайны мы зноў пайшлі па пратаптанай дарозе: цягнікі па-ранейшаму перавозілі зняволеных у Сібір, толькі на гэты раз—адразу з Германіі, а мы працягвалі зносіць помнікі архітэктуры: і тыя, што добра захаваліся, і тыя, што былі пашкоджаны. У Полацку зніклі цэлыя вуліцы: былая Верхнепакроўская, Аляксандраўская, Азараўская, амаль цалкам Спаская. На аднаўленне помнікаў сродкаў не знайшлося. Затое знайшлі іх для ўзвядзення ў псеўдакласічным стылі будынка НКУСа (сучасны Полацкі гарвыканком) і аднаўлення старых астрогаў.

Наступная разбуральная хваля ў Полацку прайшла ў 50-я гады. Зноў былі зачынены ўсе цэрквы. Апошнім у 1954 г. спыніў сваё існаванне Спаскі жаночы манастыр. Манашак вывозілі ў Жыровічы. Частка з іх адмовілася і засталася ў Полацку, частка перабралася ў Віцебск. У гэтыя гады былі знішчаны Староверчаскі храм на гандлёвай плошчы па Плігаўскай вуліцы (зараз вул. Ф. Скарыны), падмуркі Барысаглебскага храма Бельчыцкага манастыра часоў Кіеўскай Русі, касцёл Бернардынскага манастыра XVIII ст. (падмуркі-пахавальні засыпаны будаўнічым друзам), Мікалаеўскі сабор і частка кадэцкага корпуса XVII ст., гаспадарчыя забудовы ўздоўж Замкавага праезду. Апошнія ў 70-я гады знесены брацкія забудовы Дамініканскага манастыра. А ў помніках, якія захаваліся, былі размешчаны дзяржаўныя ўстановы. У Сафійскім саборы—база кнігагандлю і Дзяржархіў, у Багаяўленскім саборы—тэкстыльная база, а потым прамтаварная база Гархарчпрамгандлю, у Крыжаўздзвіжанскім храме Спаскага манастыра—збожжасховішча, а пасля—хлявы для жыхароў камунальных дамоў. І толькі ў лютэранскай кірсе—краязнаўчы музей.

Ці лёгка зносіліся помнікі? Не. Гэты працэс быў поўны супярэчнасцей. І не столькі з меркантыльных інтарэсаў, колькі з матэрыяльных. Яскравы таму прыклад—лёс Мікалаеўскага сабора. Адразу пасля вайны ў ім і кадэцкім корпусе размясціліся ўсе полацкія дзяржаўныя ўстановы, былі адкрыты мэблевы, харчовы і прамтаварны магазіны. Засяліліся гараджане з разбураных дамоў. Фармальна кадэцкі корпус належаў шпіталю, але апошні займаў толькі палову будынка. Доўгі час полацкія ўлады дамагаліся перадачы вольнай часткі, якая прылягала да Мікалаеўскага сабора, для гарадскіх устаноў. Нарэшце аддалі пустое крыло і нават пачалі ў ім рамонт. Але тут высветлілася, што ніхто: ні бальніца, ні завод «Шкловалакно», ні Дом піянераў— не жадае яго браць. І гарвыканком знайшоў простае рашэнне: будынак знесці. У 1964 г. «сваю» палову—сабор і частку корпуса—гарсавет узарваў, што абышлося больш за 40 тысяч рублёў. Выдатныя помнікі архітэктуры перасталі існаваць, а на іх месцы ў 1978 г. быў узведзены плоскі дзевяціпавярховік, які атрымаў у палачан назву «дом з вушамі».

Можа ўзнікнуць пытанне: што гэта— злачынства ці дзікунская недасведчанасць? Ні тое, ні другое. Чытач будзе здзіўлены, калі даведаецца, што ўсё рабілася ў адпаведнасці з планам «развіцця» архітэктурна-будаўнічай структуры горада, які меў нават пэўныя ідэалагічныя абгрунтаванні.

Першы генплан развіцця Полацка быў складзены ў 1937—1938 гг. архітэктарам І. Рапапортам і абумоўлены тым, што з пачаткам будаўніцтва новага сацыялістычнага грамадства «паўстала пытанне» і аб будаўніцтве адпаведнага горада для жыхароў гэтага новага грамадства. Вырашалася задача ліквідацыі «узаконенной веками классовым обществом противоположности между центром города и его окраинами, т. е. местом, где жили привилегированные классы и где жила-трудилась масса эксплуатируемых людей». (Цытата, як і некаторыя звесткі, узята з рукапіснай кнігі І. П. Дэйніса «Полоцкая старина», якая захоўваецца ў фондах Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка. Прыведзенымі цытатамі нам не хацелася б абражаць добрую памяць аднаго з самых выдатных і нястомных полацкіх краязнаўцаў. Але варта адзначыць, што пры ўсёй сваёй любові да гісторыі Полацка і яго архітэктурных помнікаў І. П. Дэйніс застаўся чалавекам свайго часу. І менавіта такім ён і яго нататкі цікавяць нас сёння.) Вось такі вульгарна-класавы падыход да гарбудаўніцтва быў пакладзены ў ідэйны падмурак першага праекта. Па ім прадугледжвалася: знос усіх забудоў па левы бок найстаражытнейшай Ніжнепакроўскай вуліцы (сучасная вул. Леніна) і стварэнне брукаванай набярэжнай Дзвіны; развіццё цэнтральнай плошчы (былой Кадэцкай, зараз пл. Леніна) за кошт зносу ўсіх забудоў ад плошчы да Чырвонага моста (рака Палата); будаўніцтва на Верхнім замку побач з Сафійскім саборам бальнічнага гарадка і парку; асушэнне Валова азярка, дзе, згодна паданням, было капішча Перуна, і стварэнне парку, а на месцы манастыра Іаана Прадцечы (востраў пасярод Дзвіны)—таксама меркавалася разбіць парк.

Але «цяжкае міжнароднае становішча» не дазволіла цалкам здзейсніць гэты план.

У 1948—1950 гг. быў распрацаваны другі генплан развіцця Полацка. Фактычна ён паўтараў папярэдні і пашыраў яго. План прадугледжваў знішчэнне дробных забудоў, пашырэнне цэнтральнай плошчы, утварэнне праспекта К. Маркса. Гэтая ідэя набывала канкрэтную форму прама такі з касмічнай хуткасцю—«разрушения города облегчили условия новой планировки». Паміж вуліцамі К. Маркса і



**Мікалаеўскі сабор.** 1963 г.

Арджанікідзе былі знесены ўсе забудовы. Замест іх створаны шырокі бульварпраспект К. Маркса. Ліквідаваны полацкі кірмаш (былая Гандлёвая плошча), дзе знаходзіліся ратуша, гандлёвыя рады, таможня. Былі павялічаны асобныя кварталы, знішчаны многія старыя вуліцы.

У 60-я гады ў сувязі з будаўніцтвам Наваполацка і перспектыўным зліццём двух гарадоў складаецца новы план, які ўдакладняецца ў 70-я гады. У такім выглядзе ён існуе і па сённяшні дзень.

Не кранаючы перспектыўных навабудоўляў у гарадскіх мікрараёнах, давайце паглядзім, што гэты план прадугледжвае для гістарычнага цэнтра горада. На плошчы Леніна літаральна да 1987 г. меркавалася ўзвесці чатыры жылыя дамы: тры пяціпавярховікі і адзін 12-павярховы гмах. Усе па так званым «індывідуальным» праекце, які мала чым адрозніваецца ад прамавугольна-блокавай тыповай забудовы. Але менавіта гэты праект, на думку галоўнага архітэктара Полацка, і павінен быў «завяршыць» будаўніцтва гістарычнай часткі гарадской плошчы. Не звярталася ўвага нават на тое, што пад знос траплялі помнікі грамадзянскай архітэктуры, напрыклад дом № 1 па вул. К. Маркса. Пад націскам грамадскасці распачатае будаўніцтва было спынена, але далейшы лёс плошчы і дагэтуль невядомы.

Тым жа планам па-ранейшаму прадугледжваецца знос будынкаў па левы бок вуліцы Леніна ўздоўж Палаты, каб апрануць раку ў камень і бетон. Меркавалася таксама правядзенне цераз Верхні замак, непадалёк ад Сафійскага сабора, буйной транспартнай магістралі, ад якой пасля адмовіліся. Праўда, пачалі будаваць гэту магістраль ледзь не па цэнтры старажытнага Запалоцкага пасада. З поўначы да гістарычнага цэнтра падступаюць дамы, у тым ліку новенькія Полацкваддбуда, якія знішчылі натуральнае наваколле найстаражытнейшага гарадзішча VIII—IX стст. Ведамства Вадбуда ліквідавана, але «помнікі» яму засталіся. Акрамя прыгаданай ужо міліцыі, на вуліцы Леніна, на месцы знесенай гістарычнай забудовы, узведзена тыповая скрыня са шкла і бетону, у якой рассялілася мясцовае начальства. На плошчы Леніна бездапаможна, па-за ўсякай крытыкай, узведзены і куб-прыбудова да гаркома партыі.

Такім чынам, сёння фактычна ажыццяўляюцца ідэі і задумы першага генплана 1937—1938 гг. Дагэтуль нашым шаноўным архітэктарам карціць упіхнуць у гістарычную тканіну Полацка сваё кволае дзіцятка і трапіць у гісторыю славутага горада.

Часопіс «Строительство и архитектура Белоруссии» ў № 3 за мінулы год надрукаваў некалькі артыкулаў, прысвечаных Полацку. Сярод іх—старшыні гарвыканкома тав. Хоміча К. Л. Аўтар адзначае, што праект рэгенерацыі і гістарычнай забудовы Полацка 1983—1985 гг. «выполнен на достаточно высоком профессиональном уровне». Тэма ж, якая каторы ўжо год «занимает общественность»,—гэта горкі лёс цэнтральнай плошчы горада. І калі б на гэтай плошчы адпаведна праекту ўсё-ткі пабудавалі 12-павярховы гмах, то сам будынак і «завершающие его элементы должны были

**Кадэцкі корпус.** 1988 г.



соответствовать сложившемуся историческому силуэту». Знаёмыя словы, недзе мы іх ужо чулі...

З другога артыкула архітэктара В. Я. Токаравай пад шматабяцаючай назвай «Соблюдая преемственность» можна ўжо даведацца ў дэталях пра планы і захады архітэктараў, аўтараў праекта «рэгенерацыі». Вось прыклад таго, як шаноўныя спецыялісты рупяцца аб захаванні і адраджэнні архітэктурнай спадчыны старажытнага Полацка: па вуліцы К. Маркса і У. І. Леніна — «снос ветхих, не представляющих ценности строений, предусмотрен комплексный и выборочный ремонт зданий с необходимой реконструкцией и реставрацией». Дзе гарантыя, што ў разрад «ветхих» не трапяць будынкі гістарычнай фонавай забудовы? «Новое строительство намечено с учетом композиционного завершения пл. Ленина». Чым думаюць завяршыць плошчу? Ці не тымі дамамі, ад якіх быццам бы адмовіліся, ці якімі іншымі? Адна з будаўнічых зон, якая ўваходзіць у праект, — «территория реки Западная Двина, где предусматривается создание набережной». Гэта ідэя вядома яшчэ з 30-х гадоў. Замест таго, каб ачысціць і паглыбіць рэчышча, абсадзіць зялянінаю, стварыць зону адпачынку, калі ласка, — бетон. На тэрыторыі Верхняга і Ніжняга замкаў прадугледжваецца «снос малоценных одноэтажных строений». Па-першае, менавіта гэтыя невялічкія «строения» надаюць замкам каларыт. Па-другое, ці пыталі архітэктары ў людзей, якія жывуць у гэтых «строениях», ці ведаюць, што многія не хочуць пакідаць абжытыя мясціны, але пры ўмове, што ў дамы падвядуць хоць бы гарачую ваду, зробяць ацяпленне, каб стварыць элементарныя ўмовы жыцця?

Наступны пункт. «Локализация функций городской больницы на ограниченном пространстве». Зноў паўмеры, замест таго, каб пабудаваць новую бальніцу ў іншым месцы і ўвогуле пазбавіць Сафійскі сабор суседства з гэтай несамавітай будынінай — сюды ж штодня прыходзяць сотні турыстаў, і не толькі з нашай краіны! Турысты часам вымушаны аглядаць архітэктурныя помнікі, літаральна праціскаючыся праз натоўп хворых, што робяць мацыён на свежым паветры...

Вельмі здзіўляе і насцярожвае, што аўтары праекта, гэтыя «рупліўцы» на ніве захавання традыцый, з ходу адмятаюць слушныя прапановы рэстаўрацыйных майстэрняў. Сярод іх — знос 27 будынкаў у гістарычнай зоне, якія з'явіліся пасля вайны і не адпавядаюць традыцыям полацкага горадабудаўніцтва, адраджэнне будынкаў Мікалаеўскага і Дамініканскага сабораў, аднаўленне на старажытнай плошчы трох двухпавярховых будынкаў і г. д. Усе гэтыя прапановы «не нашли поддержки». Падобная фармуліроўка нагадвае даўно знаёмае — «есть мнение». А калі аднаўленне страчанай гістарычнай архітэктуры не з'яўляецца рэгенерацыяй, то што ў такім выпадку «рэгенерацыя»?

Гэтым пытаннем мы і вымушаны скончыць артыкул. Лёс і будучыня старажытнага Полацка, першаснага сярод беларускай культуры, застаюцца цьмяныя і нявырашаныя. Могуць запытаць у аўтара: а што ён прапануе? На жаль, аўтар не архітэктар, а гісторык, і, з пункту гледжання гісторыка, упэўнена можа сцвярджаць толькі адно: без павагі да мінуўшчыны, без аднаўлення гістарычных страт немагчыма жыццё любога народа. Страта ж любым народам гістарычнай памяці — палова ад дарогі ў нябыт.

**Сяргей ТАРАСАЎ,**
**археолаг**



# З ПЯЧАТКАЙ «ЗЯМЛІ І ВОЛІ»

**Калі гаворка закранае мінулае рэвалюцыйнага руху ў нашай краіне, не абмінаюць звычайна «Зямлю і волю» — агульнарасійскую супрацьурадавую арганізацыю нелегалаў у пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя, узнікненне якой звязана са славутымі імёнамі М. Г. Чарнышэўскага, братоў М. А. і А. А. Серна-Салаўевічаў, М. В. Шалгунова, М. І. Уціна. Адзначым, што немалую ролю ў дзейнасці «Зямлі і волі» адыгралі многія нашы землякі — легендарныя паўстанцы 1863-га. Узяць, напрыклад, хоць бы такі пераканаўчы факт: у жніўні 1863 года Кастусь Каліноўскі па просьбе земляволь-цаў даслаў у Пецярбург друкарскі варштат, і гэта поруч з іншымі сумеснымі захадамі было ажыццяўленнем на справе вялікай ідэі еднасці беларускіх і рускіх рэвалюцыйных сіл у супольнай барацьбе з агульным ворагам двух прыгнечаных народаў — царызмам.**

**Між тым, пра гэту «Зямлю і волю» (пас-**



ля, у 70-я гады мінулага стагоддзя, існавала яшчэ адна арганізацыя падпольшчыкаў пад аналагічнай назвай) моладзь амаль зусім не ведае. Нічога дзіўнага: школьныя падручнікі, дапаможнікі вышэйшых навучальных устаноў аднагалосна абышлі яе належнай увагай. Праўда, яшчэ далёка не ўсё высветлена тут і спецыялістамі-даследчыкамі, старонкі гісторыі першай «Зямлі і волі» дагэтуль стракацяць белымі плямамі. Таму літаральна кожная дакументальная знаходка з новымі беларускімі матэрыяламі пра згаданую арганізацыю прыкметная і, без усякага перабольшвання, важкая надзея ў вывучэнні вытокаў руска-беларускага рэвалюцыйнага братэрства.

...Вопіс былой канцылярыі магілёўскага губернатара за 50—60 гады мінулага стагоддзя, знойдзены ў Дзяржаўным гістарычным архіве Беларускай ССР, быў небагаты, справы не сістэматызаваны, зберагалося іх мала. Можа, таму гэтыя рэшткі ніколі не вывучаліся як след. Увагу ў скупым вопісавым пераліку міжволі прыцягнула наступная назва: «Аб выяўленні ў паштовай скрынцы аршанскай паштовай канторы адозвы Рускага цэнтральнага народнага камітэта «Зямля і воля». Калі ж заказаў арыгінал са сховішча, дык на стандартнай, выцвілай ад часу шараватай вокладцы тоненькай папкі змог прачытаць: «№ 30. Справа канцылярыі магілёўскага грамадзянскага губернатара. Сакрэтнага стала. Аб рознага роду абуральных адозвах. Пачата 4 сакавіка 1863 года. Скончана 14 сакавіка 1863 года. На 5 старонках». Са зразумелым хваляваннем спехам праглядаю дакументы. Сярод рукапісных папер — друкаваная адозва, пазначаная ўверсе блакітнай пячаткай «Зямлі і волі». Знаходка, безумоўна, каштоўная, бо ў беларускіх архівах праклamацый «Зямлі і волі» да тае пары (пачатак 80-х) яшчэ не знаходзілі, амаль нічога не ведалі і пра іх распаўсюджанне.

Але што ж вынікае са зместу згаданай папкі? Пачну па парадку.

4 сакавіка 1863 года магілёўскі губернатар сапраўдны стацкі саветнік А. П. Беклямішаў накіраваў паліцэйскім спраўнікам прадпісанне з грыфам «вельмі сакрэтна»: «З Санкт-Пецярбурга разасланы ў розныя губерні адозвы на рускай мове, якія маюць на мэце схіліць рускіх на карысць... палякаў і адхіліць афіцэраў і салдат нашай арміі ад выканання службовага іх абавязку.

На аркушах гэтай адозвы, надрукаванай двума слупкамі, маецца ўверсе круглы штэмпель, вакол якога словы: «Рускі цэнтральны народны камітэт», а ў сярэдзіне «Зямля і воля», унізе ж стаіць: «Друкарня таварыства З. і В.».

Мець назіранне, ці не трапіла згаданая адозва ў Магілёўскую губерню і якое ўздзеянне яна выклікае».

Мінула дзесяць дзён, і губернскі паштмайстар сакрэтным рапартам давёў да ведама губернатара, што праклamацыя ўчора знойдзена памочнікам наглядчыка Аршанскай паштовай канторы А. А. Гарадковым пры наступных абставінах. Дастаючы з паштовай скрынкі сваёй канторы пісьмы для сарціроўкі, Гарадкоў звярнуў увагу на невялікі самаробны канверт без подпісу, які быў запячатаны чырвоным сургучом з адбіткам герба «срэбнай малой манеты». У канверце — якраз той «друкаваны паўаркуш» з блакітнай пячаткай падпольнага рэвалюцыйнага таварыства, якім нядаўна цікавіўся пан губернатар. Паштмайстар, не стрымаўшыся, дадаў: «на згаданым паўаркушы... абураючыя і дзёрзкія выказванні наконт урада».

Тут неабходна зрабіць кароткае адступленне і адзначыць, што праграма «Зямлі і волі» выразна акрэслілася летам — восенню 1861 года. Яна прадугледжвала ліквідацыю самаўладдзя і стварэнне дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, надзяленне сялян зямлёй без выкупу і ўвядзенне абшчыннага землекарыстання, знішчэнне прыватнай уласнасці, самавызначэнне народаў, раўнапраўства жанчын. Таварыства мела 14 мясцовых аддзяленняў у буйных расійскіх гарадах, вайсковую арганізацыю, куды ўваходзіў і «Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы» на чале з А. Пацебняй (складаўся прыкладна з 200 чалавек, адным з членаў быў капітан Смаленскага пяхотнага палка К. І. Крупскі — бацька Надзеі Канстанцінаўны Крупскай, ён потым наўмысна выведзе сваю роту з баёў з паўстанцамі).

Але ж вернемся да праклamацыі, якую са здзіўленнем дастаў з непадпісанага канверта аршанскі паштовы чыноўнік. Тэкст пачынаўся словамі: «Льецца польская кроў, льецца руская кроў...» Пад гэтаю назвай дакумент і ўпамінаецца ў спецыяльнай літаратуры. Рускія рэвалюцыянеры-дэмакраты, вітаючы нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 года, звязвалі яго з планам ваенна-сялянскага паўстання ў Расіі і таму ў праклamацыі звярталіся з заклікам да воінаў рускай арміі: «Афіцэры і салдаты!.. Блізкі час, калі народ рускі... зразумее паскудную... палітыку сучаснага рускага ўрада... з вызваленнем Польшчы цесна звязана свабода нашай пакутлівай Радзімы... Накіруйце свой меч на агульнага ворага нашага... ідзіце да нас, у сваю бацькаўшчыну, вызваляць яе ад вінаватага ва ўсіх народных бедствах — імператарскага ўрада».

Хто ж кінуў канверт з праклamацыяй у скрынку Аршанскай паштовай канторы? Адказаць адразу, маючы ў руках адну знойдзеную ў архіве справу, было немагчыма, бо дакументы зацята маўчалі наконт гэтага. Ды аўтару знаходкі да таго ж не ставала шырыні ведаў і вопыту. Няўжо пытанне застанецца адкрытае? Дапамог вядомы даследчык, дасведчаны знаўца архіўных скарбаў гісторыі XIX стагоддзя пісьменнік Генадзь Кісялёў, які паведаміў, што за распаўсюджванне аналагічных праклamацый у Оршы да судовай адказнасці прыцягваўся вольны слухач Пецярбургскага універсітэта Васіль Ігнатавіч Катырла і фрагментарныя звесткі пра яго надрукаваны ў шматтомным выданні, прысвечаным сотай гадавіне паўстання 1863 года. Такім чынам высветлілася, што Васіль Катырла быў членам пецярбургскага аддзялення «Зямлі і волі». Ён прыехаў у Оршу з Віцебска ў пачатку сакавіка 1863 года з мэтай прапаганды і стварэння на месцах канспіратыўных дзесятак з патрыётаў, гатовых да ўзброенай барацьбы з царызмам. Выдаў рэвалюцыянера аршанскаму гараднічаму баязлівец і здраднік В. Савініч, які перадаў паліцыі экземпляр праклamацыі «Льецца польская кроў, льецца руская кроў...», атрыманы ім ад Катырлы.

Высветлілася таксама, што 12 сакавіка Катырла сустрэў на гарадской плошчы Оршы радавых 3-й зводнай артылерыйскай брыгады Ігнацьева і Гудкова, уручыў салдатам «пісьмо без адраса». Канверт трапіў спачатку да фельдфебеля, пасля — да брыгаднага камандзіра палкоўніка Мухіна. Апошні знайшоў там праклamацыю з блакітнай пячаткай «Зямлі і волі» і, як апечаны, пабег з «крамолаю» ў паліцыю.

Васіля Катырлу схапілі назаўтра непадалёку ад Оршы, на 7 вярсце Віцебскага тракту. Пры вобыску адабралі пяцізарадны рэвальвер, пашпарт, выдадзены 1 лістапада 1862 года віцебскім земскім спраўнікам, і адну праклamацыю, пазначаную блакітнай пячаткай «Зямлі і волі». На вочнай стаўцы Савініч і салдаты апазналі рэвалюцыянера. Кола неабвержных доказаў замкнулася. Але праклamацыя, якую знайшоў у скрынцы памочнік наглядчыка Аршанскай паштовай канторы, у абвінавачанне супраць Катырлы не трапіла, бо з'яўлялася толькі ўскосным доказам. Паводле рашэння суда рэвалюцыянер быў асуджаны да дзесяцігадовай сібірскай катаргі.

Але скупыя звесткі, узятыя з паліцэйскіх пратаколаў, з абвінаваўчых судовых папер, не давалі адказаў на шэраг важкіх пытанняў. Па-першае, заставалася, як цяпер кажуць, «за кадрам» наступнае: чаму менавіта ў Оршу прыехаў Катырла? Цікавілі таксама абставіны і падрабязнасці надзвычай доўгага следства па справе арыштаванага рэвалюцыянера, якое расцягнулася аж на цэлых дваццаць месяцаў (суд адбыўся ў Вільні толькі 12 лістапада 1864 года). Хацелася, натуральна, даведацца, якім чынам склаўся далейшы лёс гэтага мужнага чалавека, дзе і пры якіх умовах прайшло ў Беларусі ягонае дзяцінства, юнацкія гады. Не пакідала і затоеная надзея, што далейшы пошук адкрые новыя старонкі рэвалюцыйнай дзейнасці Катырлы. Значыць, ізноў трэба шукаць у архівах, бібліятэках...

Былі падставы меркаваць, што губернскія ўлады абавязкова адрапартуюць аб арышце Васіля Катырлы ў Оршы пецярбургскаму начальству. І сапраўды, у адным з ленінградскіх архіваў удалося знайсці адпаведны дакумент, накіраваны міністру ўнутраных спраў. «Лічу абавязкам прадставіць... на разгляд Вашага Высокаправасхадзіцельства,— данасіў 16 сакавіка 1863 года магілёўскі губернатар,— справу пра двараніна Катырлу, абвінавачанага ў распаўсюджванні абураючых адозваў, і... запытаць адносна прадпісання Міністэрства па далейшаму накірунку згаданай справы». А 30 сакавіка са сталіцы прыляцела па жалезных правадах сакрэтная шыфр-тэлеграма такога вось зместу:

«Магілёў-губернскі. Начальніку губерні.

Арыштаванага двараніна Катырлу выслаць з двума жандарамі ў Трэцяе аддзяленне ўласнай Яго Вялікасці Канцылярыі».

Падпісаў шыфроўку «світы Яго Вялікасці генерал-маёр Патапаў» — упраўляючы палітычным вышукам у краіне.

У красавіку Васіля Катырлу пад вартай даставілі ў сталіцу, кінулі ў галоўную следчую турму, якая высілася страхотным пудзілам на Пантэляймонаўскай вуліцы ля Ланцужнага моста. Пачаліся бясконцыя допыты. Тым часам малады арыштант у жандарскім засценку, відаць, не здагадваўся, што ягонае становішча істотна ўскладнілася, бо магілёўскія ўлады дакапаліся да новых фактаў, якія недвухсэнсоўна сведчылі: у Магілёўскай губерні верагодней за ўсё існуе нелегальная арганізацыя моладзі, з якой Катырла, безумоўна, падтрымліваў сувязі і, магчыма, паспеў ажыццявіць нават практычныя супрацьурадавыя захады. Той самы здраднік Савініч данёс паліцыі, што

пасля «...маёй заявы на Катырлу, як на шкоднага чалавека, я атрымаў мноства непрыемнасцей, у прыватнасці ад артылерыйскага афіцэра Бучарманскага, які, убачыўшы мяне ў Аршанскім паліцэйскім упраўленні, папракнуў, што гэта данясенне можна палічыць за вялікую подласць». Савініч, набіваючы сабе цану, прызнаўся, што падобным жа чынам да яго пачалі ставіцца «многія асобы з тых, што былі маімі добрымі сябрамі доўгі час». Яны, сведчыць далей здраднік, выказвалі падтрымку Катырлу не толькі на словах, а сабралі грошы для перадачы арыштаванаму. І называе прозвішчы: Бучарманскі, Багдановіч, пісьмавод Скарына. Усё гэта, падкрэслім, мела месца ў Оршы. Калі ж Савініч у канцы сакавіка прыбыў у Магілёў, дык маладыя патрыёты з губернскага горада ўжо ведалі пра ганебны ўчынак мярзотніка. Вельмі магчыма, што яны з'яўляліся паплечнікамі рэвалюцыянера і таму публічна адпомсцілі здрадніку. Гэты інцыдэнт адлюстраваны ў адным з сакрэтных рапартаў магілёўскага гарадскога паліцэйскага ўпраўлення губернатару. 25 сакавіка, чытаем у дакуменце, у 4 гадзіны апоўдні двараніну Вячаславу Савінічу ў магілёўскім шынку «Расія» нанеслі знявагу пагрозамі і збілі пры наступных абставінах: «Дымбінскі з іншымі сябрамі... (казалі): «Вось той самы, які выдаў **нашага брата** *, а пасля, прыступіўшы да яго, сталі чыніць розныя дзёрзкасці, а адзін з іх — Акушка — разбіў на ім чайнік... астатнія білі па твары, хапалі за валасы так, што, каб не гаспадар і служкі... дык мог бы развітацца з жыццём». Паліцыя па гарачых слядах не прамінула высветліць: Акушка служыць у Магілёўскім губернскім праўленні. Гэта значыць пад носам у самога пана губернатара!

Натуральна, што губернатар Беклямішаў, службовы спрыт якога пецярбургскае начальства неаднойчы ставіла ў прыклад вышэйшым чыноўнікам усяго Заходняга краю, адчуў небяспеку ўласнай персоне, бо прашалопаў пранікненне «варожага элементу» ў свой бліжэйшы апарат. Такога ў сталіцы не даруюць! Таму працытаваны паліцэйскі рапарт ён схаваў пад сукно. У падтрымку гэтай версіі гаворыць тое, што на дакуменце няма ніякіх рэгістрацыйных адзнак, звыклых рэзалюцый, не фігуруе рапарт і сярод абвінаваўчых папер па справе «палітычнага» Катырлы. А свайго чыноўніка Акушку губернатар, скарэй за ўсё цішком, адхіліў ад службы, бо ў знойдзеных архіўных матэрыялах з былой губернатарскай канцылярыі згаданае прозвішча больш нідзе не названа.

Увогуле, магілёўскім жандарам няцяжка было дакапацца, што ў губерні існуе і дзейнічае нелегальная арганізацыя тутэйшай моладзі, звязаная тайнымі каналамі з агульнарасійскім падполлем — супрацьурадавай «партыяй» «Зямля і воля», эмісарам якой і з'яўляўся арыштаваны ў Оршы Васіль Катырла. Арганізацыя, безумоўна, была разгалінаваная, яе члены (ці прыхільнікі) меліся і ў губернскім горадзе і ў Оршы, куды Катырла прыязджаў, відаць, зусім не выпадкова. Але гэтая аналітычная выснова не задавальняла мясцовае начальства, яна зводзіла на нішто губернатаравы амбіцыі. Да таго ж, на ўсёй тэрыторыі Беларусі менавіта ў той час разгарнулася ўзмоцненая падрыхтоўка паўстання, і ў Магілёве абачліва вырашылі справу аб распаўсюджванні ў «сваёй» губерні пракламацый, пазначаных блакітнай пячаткай «Зямлі і волі», асабліва не раскручваць, не дапаўняць яе новымі дакументамі, здольнымі кінуць хоць нейкі цень на губернскае кіраўніцтва.

А што ж жандары ў сталіцы? Не дамогшыся нічога ад Васіля Катырлы, які цвёрда стаяў на сваім: «Адозвы знайшоў у Оршы, на плошчы!», у Трэцім аддзяленні 15 красавіка вырашылі: «справу... накіраваць на дапаўненне на законнай падставе... самога Катырлу, дастаўленага ў Пецярбург, адправіць на дазледаванне ў г. Оршу арыштаваным з тым, каб ён па прыбыцці ў Оршу заставаўся пад арыштам, утрымліваць яго ў... турме асобна ад іншых арыштантаў». Загад быў паспешліва выкананы, і ўлады на працяглы час быццам бы зусім забыліся на Васіля Катырлу, схаванага ў адзіночцы аршанскага астрога. Магчыма, гэта ў пэўнай ступені было абумоўлена напружанымі палітычнымі абставінамі на Магілёўшчыне, якой паўстанцы надавалі вялікае стратэгічнае значэнне, плануючы распаўсюдзіць адсюль барацьбу на сумежныя ўсходнія губерні. У красавіку — маі тут фарміраваліся атрады паўстанцаў у Аршанскім, Сенненскім і Чэрыкаўскім паветах, а ў ноч на 6 мая павятовы цэнтр Горкі быў заняты атрадам Л. Звяждоўскага. Адным словам, вастрыня ўзброенай барацьбы адхіліла на другі план справу аб знойдзеных у Оршы пракламацыях «Зямлі і волі».

* Словы падкрэслены мною.—М. З. У разглядаемы час на Беларусі падобны зварот звычайна ўжываўся сярод членаў нелегальных супрацьурадавых гурткоў, якія неўзабаве склалі ядро паўстанцаў 1863 г.



Пра арыштанта Катырлу ўспомнілі толькі ў верасні, калі сітуацыя ў губерні стабілізавалася. Але і цяпер ініцыятыва, падкрэслім, зыходзіла не ад мясцовага начальства, якое па-ранейшаму не мела асаблівай ахвоты да пэўнай пары разбіраць не надта выйгрышную для сябе палітычную справу. У мінскім гістарычным архіве зберагалося катэгарычнае запатрабаванне Пецярбургскай следчай камісіі, накіраванае магілёўскаму губернатару сакрэтнай фельд'егерскай поштай 15 верасня 1863 года: «... У якім стане знаходзіцца перасланая адносіна для дапаўнення — следчая справа пра двараніна Васіля Катырлу і калі яна яшчэ знаходзіцца ў выкананні, дык чаму дагэтуль не дасягнула завяршэння?» Губернская адміністрацыя палічыла за лепшае адмаўчацца, зрабіла ўсё, каб справа аб распаўсюджванні ў Оршы нелегальных выданняў з пячаткай «Зямлі і волі» паціху скончылася, не прыцягнуўшы да сябе нічыёй асаблівай увагі. А Васілю Катырлу заставалася марнець за кратамі, чакаць суда яшчэ доўгіх пятнаццаць месяцаў...

Мяне зацікавілі асобы маладых людзей, якія ў Оршы сабралі для свайго арыштаванага сябра грошы, і тых, што, як маглі, спрабавалі адпомсціць здрадніку Савінічу ў магілёўскім шынку «Расія». Вось гэтыя прозвішчы: артылерыйскі афіцэр Бучарманскі, Багдановіч, пісьмавод Скарына, Акушка, Дымбінскі, Бурскі (тры апошнія называлі Катырлу «братам»). Мною былі ўважліва прагледжаны амаль усе архіўныя справы па былой Магілёўскай губерні, што дайшлі да нас з 50—80-х гадоў мінулага стагоддзя, перабраны адпаведныя «Памятныя кніжкі губерні», «Магілёўскія губернскія ведамасці», розныя бібліяграфічныя паказальнікі, манаграфіі і г. д. На жаль, пакуль што высветлена зусім мала. Увага спынілася толькі на некалькіх радках з «Памятных кніжак Магілёўскай губерні» за 1861 і 1863 гады, у якіх пісьмавод Мікалай Іванавіч Скарына названы ў складзе аршанскага гарадніцкага праўлення. Растлумачым, пісьмавод літаральна азначае «пісар», альбо, як казалі тады, «чалавек для пісьма»— дробны, самага ніжэйшага рангу канцылярскі служка, што не меў чыну. Звычайна пісьмаводамі ў Заходніх губернях служылі зусім маладыя людзі з сярэдняй (гімназічнай) і няпоўнай сярэдняй (павятовыя вучылішчы) адукацыяй, якія паходзілі часцей за ўсё з немаёмаснай шляхты, мала хто з іх дасягаў «чыноў». Пасля паўстання прозвішча «Скарына» надоўга знікае з афіцыйных дакументаў. Магчыма, Мікалая за дзёрзкі і адважны ўчынак паспяшаліся звольніць са службы. Дададзім, у канцы стагоддзя на Магілёўшчыне служыў іншы Скарына — Васіль Мікалаевіч, вельмі верагодна, што ён — сын таго самага аршанскага пісьмавода (В. М. Скарына скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта і з 1895 года выкладаў рускую мову ў Магілёўскім духоўным вучылішчы). Вось і ўсё. Што ж, на дарозе даследчыка не адны знаходкі, перамогі, адкрыцці. Не губляю надзею, што некаму пашанцуе больш...

Вельмі хацелася ўзнавіць пачатак біяграфіі маладога беларускага рэвалюцыянера Васіля Катырлы, даведацца, як склалася доля нашага земляка, сасланага царызмам на сібірскую катаргу. У гэтым напрамку пошук аказаўся больш плённы, хоць атрыманыя звесткі яшчэ далёка не вычэрпныя. Мы і сёння можам толькі прыкладна назваць дату і месца нараджэння Катырлы — 1839 год, Віцебская губерня — і ўпэўнена сцвярджаць, што паходзіў ён са збяднелай тутэйшай шляхты (у «Дваранскіх спісах Віцебскай губерні за 1836 год», якія захоўваюцца ў мінскім гістарычным архіве, у Лепельскім павеце значыцца Мацей Пятровіч Катырла, відаць, нейкі сваяк бацькі рэвалюцыянера, а ў больш познім спісе дваран губерні, што валодалі маёнткамі, гэта прозвішча адсутнічае). Знойдзена таксама некалькі архіўных дакументаў, з дапамогай якіх можна сёе-тое сказаць пра вучобу Васіля Катырлы ў Віцебскай губернскай гімназіі, куды ён паступіў у 1849 годзе.

Збярогся даволі падрабязны (яшчэ нікім не вывучаны) дзённік наглядчыка (выхавацеля) гэтай навучальнай установы за пачатак 50-х гадоў мінулага стагоддзя, дзякуючы якому ўдалося крыху наталіць даследчыцкую цікаўнасць. Гартаючы запісы выхавацеля, пераконваемся, што вучыўся Васіль Катырла (як, дарэчы, і яго родны брат Ігнат, што паступіў у гімназію праз два гады, пазней таксама быў членам падпольнай «Зямлі і волі») паспяхова, хоць і часта хварэў. Пасля знаёмства з дзённікам склалася ўяўленне пра ўмовы, у якіх вучыліся і жылі тагачасныя віцебскія гімназісты. Усё надта нагадвала казарменныя парадкі: дробязная рэгламентацыя паводзін і забароны, забароны, бясконцыя забароны, што ў застойны трыццацігадовы перыяд царавання Мікалая І зрабілася паўсюднай дзяржаўнай нормай.

Гімназія мела свой інтэрнат — «агульную вучнёўскую кватэру», якая размяшчалася на Падвальнай вуліцы губернскага горада,

у каменным доме, што належаў стацкаму саветніку Урангель фон Гюбенталю — ганароваму папячыцелю гімназіі. Цікавыя звесткі пра папячыцеля — выдатнага ўрача з еўрапейскай вядомасцю — ёсць у кнізе беларускага гісторыка Валянціна Грыцкевіча «З факелам Гіпакрата». Завяршаючы змястоўны нарыс пра Гюбенталя-медыка, В. П. Грыцкевіч слушна падкрэслівае: ён усё ж заставаўся «сынам сваёй эпохі і асяроддзя». Мы пераканаліся, што гэта сапраўды так, бо, у прыватнасці, пан папячыцель не надта дбаў пра дабрабыт навучэнцаў «сваёй» гімназіі, атрымліваючы, між іншым, значную па тым часе суму — 400 рублёў срэбрам штогод — за здачу ўласнай камяніцы ў арэнду пад вучнёўскі інтэрнат.

Будучыя рэвалюцыянеры браты Катырлы жылі на «агульнай вучнёўскай кватэры», праз беднасць атрымлівалі стыпендыю. Пад дахам камяніцы «фона» ўсіх гімназістаў налічвалася да 50 чалавек. Яны харчаваліся за агульным сталом, разам рыхтаваліся да заняткаў, за імі тут скрозь неаслабна прыглядвала пільнае вока пана наглядчыка. Адзначым, што разам з братамі Катырламі ў Віцебску вучыліся многія гімназісты, імёны якіх сёння добра ведаюць тыя, хто грунтоўна цікавіцца мінуўшчынай роднай Бацькаўшчыны. Можна прывесці цэлы спіс, але мы зараз назавём толькі адно прозвішча — Станіслаў Акрэйц, які ў канцы 50-х пачне друкавацца ў некаторых сталічных выданнях, паспрабуе (без поспеху) заснаваць першы прыватны часопіс «Белорусский вестник», спроба гэтая прыцягне ўвагу М. Дабралюбава, і прозвішча Акрэйца трапіць нават на старонкі лепшага часопіса Расіі — «Современника». Дарэчы, вельмі магчыма, што поруч з беларускім літаратарам Паўлам Шпілеўскім, які быў выхавацелем у маладога Дабралюбава і, несумненна, абудзіў цікаўнасць у свайго дапытлівага гадаванца да нашай Беларусі, не меншая роля ў гэтым належыць яшчэ аднаму беларусу — Ігнату Катырлу. Пасля Віцебскай гімназіі ён нейкі час у Пецярбурзе вучыўся разам з Дабралюбавым у Галоўным педагагічным інстытуце. Студэнтаў там было няшмат, і ўсе яны ведалі адзін аднаго. Ігнат Катырла, да таго ж, не страціў сувязей са сваім былым аднакашнікам і пазней, да самай смерці Дабралюбава (лістапад 1861 г.), калі вучыўся ўжо ў Пецярбургскім універсітэце і ўваходзіў у сталічную арганізацыю «Зямлі і волі». Шкада, што гэта пытанне пакуль ніхто не вывучаў, а дакладней, яго нават не закраналі.

Але вернемся да лёсу Васіля Катырлы. У самым канцы 1864 года рэвалюцыянера, відаць, пагналі этапам на сібірскую катаргу. Ніякіх прашэнняў «на найвышэйшае імя» аб літасці ён не падаваў, інакш гэтыя паперы немінуча аселі б у адпаведнай крымінальнай справе ў канцылярыі магілёўскага губернатара ці ў цэнтральных установах дзяржавы. У гістарычных архівах Мінска, Вільнюса, Ленінграда нават знаку падобнага не захавалася. Ды, увогуле, не такі ён быў чалавек, каб прасіць. Турмы і катарга не зламалі нашага мужнага земляка. На жаль, мы маем толькі некалькі мемуарных радкоў, дзе гаворыцца аб далейшым жыцці Васіля Катырлы. Аўтар успамінаў Лангін Панцялееў (1840—1919) — студэнцкі прыяцель братоў Катырлаў, разам з імі ў складзе «Зямлі і волі» змагаўся з царызмам, быў арыштаваны, трапіў у Сібір. Пасля адбыцця шасцігадовай катаргі ў 1874 годзе прыбыў у Енісейск (звычайна са сканчэннем катаржнага тэрміну былым арыштантам Сібір пакідаць не дазвалялі). І тут старыя сябры-землявольцы сустрэліся. «З тытулам дзяржаўнага злачынцы ў Енісейскай губерні,— пісаў у пачатку нашага стагоддзя Панцялееў,— былі два-тры асуджаных... ды Катырла... Катырла быў маім сябрам па універсітэту, па нейкай справе сасланы на катаргу; адбыўшы... перабраўся ў Краснаярск».

Далёка не ўсё сказаў Панцялееў пра Васіля Катырлу з таго, што, безумоўна, ведаў. Трымаць язык за зубамі яго вымушалі не так цэнзурныя кіпці, як акалічнасць зусім іншага парадку: сам ён, зрабіўшыся з часам багатым золатапрамысло́ўцам, якому толькі ў Пецярбурзе належала нерухомасці на некалькі соцень тысяч, даўно адхрысціўся ад светлых, чыстых ідэалаў сваёй рэвалюцыйнай маладосці і на фоне пасляdоўных, непахісных барацьбітоў выглядаў далёка не лепшым чынам. Таму і напісаў пра сібірскую сустрэчу з былым аднадумцам-паплечнікам надта стрымана і надзвычай асцярожна, быццам гледзячы збоку.

...Дзякуючы нястомнаму беларускаму даследчыку Генадзю Кісялёву ў БелСЭ з'явілася першая кароткая публікацыя пра Васіля Катырлу. У мяне ж атрымаўся невялічкі гістарычны нарыс. Але ў біяграфіі рэвалюцыянера засталося яшчэ нямала нявысветленага. І колькі яшчэ такіх не да канца прачытаных старонак у нашай славутай гісторыі?

Мар'ян ЗАЙЦАЎ

*Экалогія і мы*

# ШЧАРБАТЫ ЭТАЛОН

*Я ўжо наперад прадбачу — пярэчанні будуць:*
*«Байкі дзіцячыя. Ведаем, чулі, чыталі...»*

Мікола Гусоўскі. «Песня пра зубра»

Гэта ў старых паданнях ды ў песні Аляксандры Пахмутавай, а яшчэ ў інтурысцкіх буклетах Белавежская пушча выглядае як лялечка. Прычасаная-прыбраная наіўным уяўленнем пад старасвецка-адвечнае (вынік віртуознай рэжысуры экскурсаводаў, лакіроўкі беспрынцыповых рэдактараў і краснабайства аглушаных горкай настойкай заезджых паэтаў), яна зіхаціць прывабнай рамантычнай таямніцаю і... мішурою штучнай казкі. Зіхаціць для тых наведвальнікаў, хто далей вальераў у пушчы не бывае, а з павагаю і здзіўленнем неўзаметку дакранаўся да калматага музейнага чучала зубра Пугінала. Гучыць на ўсю краіну галасамі «Песняроў», школьныя падручнікі і дзіцячыя часопісы таксама на ўсю краіну разносяць славу пра Белавежу — яна ледзь не сімвал Беларусі, разам з Брэсцкай крэпасцю і Хатынню. Сімвал, рэклама, святыня!

Чвэртку стагоддзя назад пушчай можна было і павыхваляцца. Тады яна яшчэ ў значнай ступені захоўвала рысы спракавечнасці, адпавядала вызначэнню «пушча». Ды, на жаль, нават і тады ніхто не падазраваў, што на святыню зроблены смяротны замах, што пройдзе час, і пушчай яна стане называцца сімвалічна, а рэкламаваць у ёй не будзе чаго.

Мо толькі асобныя навукоўцы трывожыліся ў 1957 годзе, даведаўшыся аб ператварэнні **запаведніка ў запаведна-паляўнічую гаспадарку.**

Астатнім было няўцям ці зусім мала турбавала, які злавесны сэнс набывае складаная слоўная канструкцыя, прыстаўленая да старажытнай назвы. А хто турбаваўся, дык моўчкі — хмары сталінізму яшчэ грувасціліся на блізкім даляглядзе, а пастанова ж была ўрадавая...

Вялікі аматар палявання М. С. Хрушчоў, пераймаючы ў гэтай справе вопыт папярэдніх уладароў, вярнуў за подпісам Булганіна Белавежскай пушчы статус царскага палявання.

Хто тут мог пярэчыць? Хто ў тыя, хай сабе і крыху адліжныя часы адважыўся б пераконваць Хрушчова-паляўнічага ў тым, што варта назаўсёды перарваць старую традыцыю і не ператвараць запаведнік зноў у велікасвецкую забаву? Да таго ж невідавочна яшчэ было, чым на самой справе праз некалькі дзесяцігоддзяў абернецца для Белавежы гэткае шыкаванне.







Шыкаваць і раней умелі. Ды з аглядкаю: і вялікі князь, і магнаты ў сваіх уладаннях пільна сачылі, каб лішняга звера не забіць, каб дастаткова пакінуць на развод, каб наступным пакаленням мыслівцаў і лоўчых пакінуць не збяднелую спадчыну. З гістарычных дакументаў вядома: яшчэ ў 13 стагоддзі абмежавалі паляванне на пушчы. Пад канец 14 стагоддзя вялікі князь Вітаўт аб'явіў Белавежу запаведнікам, пакінуўшы некаторыя прывілеі самай багатай шляхце. Як прадчуваў (а можа, геніяльны палітык і сапраўды прадчуваў?), што ў хуткім часе пушчанскія запасы спатрэбяцца дзеля святой справы: напярэдадні Грунвальдскай бітвы ён наладзіў вялізнае нават па сённяшніх уяўленнях паляванне на зуброў, ласёў, аленяў, дзікоў — тысячы лясных жывёл былі здабыты, каб забяспечыць мясам, тлушчам і скураю беларускія, літоўскія і ўкраінскія палкі-харугвы.

З цягам часу зубрыны статак памяншаецца, хоць іншага звера яшчэ дастаткова. І ў 1541 годзе на пушчы ўтвараецца зубрыны заказнік. «Устава на валокі», выдадзеная 1 красавіка 1557 года вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам, дакладна рэгламентавала не толькі карыстанне зямлёю, лесам, пашаю, але і паляванне, здабычу футра, рыбную лоўлю. Ва «Уставе на валокі» ў асобныя пункты вылучаліся меры па ахове прыроды. Затым наступаюць горкія стагоддзі: 18, 19, 20. Спачатку разбэшчваецца польскі каралеўскі двор (напрыклад, Аўгусту III проста так, дзеля пацехі, нічога не каштавала ў 1752 годзе вынішчыць адным загонам 60 дарослых зуброў і 6 зубранят), пасля Рэч Паспалітую крышаць на часткі трыма падзеламі, і на змену каралеўскай распусце прыходзіць распуста царская. Белавежская пушча ператвараецца ў паляўнічую гаспадарку дома Раманавых.

Здарылася гэта ў 1795 годзе. Раманавы пераанялі ад апошніх каралёў бессэнсоўную жорсткасць знішчэння, каласальныя аблавы і загоны, у якіх удзельнічала па 2 тысячы егераў, аб'ездчыкаў і навакольных сялян. У 1860 годзе Аляксандр II са світаю за два дні забівае 28 зуброў, 23 дзікі, 36 казуль, а Мікалай II на пачатку нашага стагоддзя за такі ж тэрмін «здабывае» 40 зуброў, 53 алені, 26 рысяў (ці набярэцца гэтулькі рысяў сёння ва ўсёй пушчы?), 36 ланяў, 325 казуль, 138 дзікоў, 51 ліса і шмат іншай лясной драбязы...

Першая сусветная вайна спыніла царскае паляванне, але ўчыніла з дапамогай немцаў непераўзыдзенае па жорсткасці выбіванне ўсяго жывога. І пушчан-

скага спракавечнага лесу акупанты паспелі ссекчы больш за чвэрць. Ды і мясцовыя жыхары, карыстаючыся безуладдзем, далучыліся да вынішчэння. Нейкі Барталамей Шпакоўскі праславіў сваё імя, як Герастрат: у 1921 годзе ён забіў апошняга ў пушчы зубра.

Праз два гады на Парыжскім міжнародным кангрэсе па ахове прыроды выявілася, што на белым свеце засталося ўсяго 52 зубры, раней прападдзеныя ў прыватныя заапаркі Еўропы. Некаторых з іх палякі адкупілі і пачалі паступова зноў разводзіць на пушчы.

Другая сусветная вайна, якая пачалася ўсяго праз дзесяць гадоў пасля вяртання зуброў на радзіму, ледзь не перакрэсліла цалкам і назаўсёды ўвесь зубровы радавод. Ізноў палякі займаліся рэанімацыяй віду на сваёй тэрыторыі пушчы, а ў 1946 годзе перадалі на наш бок 2 зубрыцы і 3 зуброў. Агульнымі намаганнямі польскіх і савецкіх заолагаў за 40 гадоў удалося стварыць буйны статак і значна прасунуцца ў напрамку стабілізацыі віду: навука сцвярджае, што такая жывёла, як зубр, можа ўпэўнена існаваць пры колькасці, не меншай за 2000. Усяго на свеце іх сёння якраз столькі.

Натуральна, у наш асветны век на зуброў ніхто не палюе і няма выпадкаў браканьерства. Але іх забівалі, і не аднойчы, знясіленыя марнай барацьбою гаспадары з падлесся, знясіленыя нахабным зубрыным «марадзёрствам».

Белавежскі цар звяроў, а па праўдзе сказаць, дык цар усіх звяроў Беларусі, істота даволі штучная, амаль звездзеная ў нябыт і з нябыту ж уваскрашоная чалавекам. У сучаснай Еўропе, бадай, з ніводнай жывёлай так не цацкаліся, не песталі—людзі ўзялі зубра на поўнае ўтрыманне. Узгадаваны, ускормлены чалавекам, ён чалавека не баіцца. А выселены з пушчы ў іншыя мясціны, якія мала падыходзяць да існавання, ды кепска накормлены, ён тыя мясціны пакідае, ідзе да чалавека, на яго поле, да яго стагоў і капцоў. Напалохаць, адагнаць зубра цяжка, хіба што пажарным вадамётам, але і тут ён баіцца, пакуль машына не ад'едзе, а потым зноў за сваё.

Зрэдку ён пакідае пушчу па сваёй ахвоце і вандруе ў наваколлі. Тады даводзіцца збіраць каманду лаўцоў, каб вярнуць у вотчыну. Але часцей і часцей на выселкі змушае тая акалічнасць, што статак занадта разросся, цяпер на нашым баку пушчы 220—230 асобін, а можна ўтрымліваць не больш за 150.

Па некалькі зуброў вывезлі ў Бярэзінскі і Прыпяцкі запаведнікі, нібыта для акліматызацыі, а на самой справе дзеля экзатычнай прыманкі наіўных экскурсантаў, бо тамашнія лясы зусім іншага тыпу: то пясчаныя на выспах бары, то забалочаныя лістоўныя,—а зубру патрэбен шыракалістоўны еўрапейскі лес на багатай глебе, толькі там разнастайны падлесак і багаты травастой. І даводзіцца трымаць перасяленцаў у загарадках, карміць, як у звярынцы, а не накорміш як след, то навасельцы ламаюць таўшчэзныя жэрдкі, нібы запалкі, і брыдуць шукаць смачнейшай долі.

Вывезлі іх і ў іншыя запаведнікі краіны, але нідзе зубрам не бывае лепей, чым у сябе дома, на пушчы, а праблема перанаселенасці па-ранейшаму не вырашаецца. Некаторыя недасведчаныя «спачувальнікі» прапануюць рассяляць іх па ўсіх моцных лясгасах—гэта пры цяперашніх скарочаных штатах, а патрэбен жа пільны нагляд, ветэрынарны і навуковы, не кажучы пра звычайны догляд.

Спелых жа лясоў на Беларусі засталося ўсяго 2,8 %, і то, напэўна, у пушчы і двух запаведніках ды дзе-нідзе ў вузкай водаахоўнай зоне. Дык што ж, у маладым чэзлым сасонніку жыць цару звяроў?!

Ён там не выжыве. Але ёсць рэальная пагроза, што і ў сваёй спракавечнай вотчыне зубру хутка жыцця не стане.



Яшчэ калі ў шэраг касманаўтаў стаў беларус Пятро Клімук, асобныя дасведчаныя навукоўцы пачалі скардзіцца на аленяў, якія з'ядаюць пушчу. Скаргі распаўсюджваліся на казуляў і дзікоў, а чэмпіёнам пражэрлівасці заставаўся алень. Той самы—высакародны еўрапейскі, жаданы трафей кожнага паляўнічага. Ні лось, якога ў пушчы мала, ні дзік тутэйшы з прыкметамі выраджэння, ні казуля







не маюць такога прэстыжу ў вачах чалавека, які марыць займець зялёны капялюш з фазанавым пяром. Культ палявання рана ці позна выводзіць на аленевую сцежку, каб здабыць уласным стрэлам рэкордныя рогі. Зразумела, такі магнацкі занятак магчымы адно ў пушчы, а высокім гасцям не стае ні часу, ні цярпення падоўгу высочваць звера, да таго ж і спрыту бракуе. Вось якасць і падмяняецца колькасцю, інтэнсіўнасць—экстэнсіўнасцю: наш папулярны прыём наладзіць якую хочаш справу, ад хімізацыі да меліярацыі. І развялі на пушчы аленя столькі, што разам з казуляй і дзіком з'еў ён, як выгаліў пад нулёўку, усе падлескі і ягаднікі. Па звестках 1987 года аленяў у Белавежы было на 1000 галоў болей, чым яна магла пракарміць, а яшчэ мелася лішніх 300 дзікоў, 60 ласёў і 77 зуброў.

Недасведчанаму можа падацца, што страта падросту пагражае адно бяскорміцай пушчанскім звярам, а калі так, то аўтаматычна скароціцца іх колькасць. Гэта, як кажуць, паўбяды. Бяда сапраўдная, роўная катастрофе, пагражае самой Белавежы, бо падлесак—яе дзіцячы сад, яе будучыня. На месцы выгрызенага падлеску і ягадніку вырасце ў лепшым выпадку ельнік. А ельнік, убачым далей, на мяжы вымірання.

«Алень з'ядае пушчу»—не красамоўная фраза. За падобнае красамоўства паплаціўся не адзін навуковец. Прынцыпы навукі, практычны вопыт лесаводаў рэзка разышліся з метадамі паляўнічага гаспадарання. Пакуль што перавага на баку пушчанскіх паляўнічтвазнаўцаў, і няцяжка зразумець чаму.

Калі вярнуцца да зусім нядаўняй гісторыі, то відавочным стане вялікі ўклад, зроблены пушчанскімі вучонымі ў прыродазнаўства. Навуковы аддзел запаведна-паляўнічай гаспадаркі яшчэ 20 год назад атрымаў права называцца навукова-даследчай арганізацыяй, і за гэты час адтуль выйшла тры дактары і дзесятак кандыдатаў навук. Працы пушчанцаў складаюць 10 тамоў. У пушчу імкнуліся трапіць, сабраць там матэрыял,—бо ведалі, дужа багатая мясцовая флора і фауна,—заолагі, лесаводы, батанікі, глебазнаўцы Мінска, Масквы, Ленінграда, шмат якіх гарадоў краіны. Саюзныя і міжнародныя сімпозіумы, канферэнцыі, з'езды не абыходзіліся без дакладаў пра пушчу. А ўладкавацца ў Белавежу на сталую працу лічылася за гонар, існаваў конкурсны адбор.

Зараз, як выказаўся адзін біёлаг, у навуковым аддзеле працуе паўтара кандыдата. А раней было 7. Існуе 9 вакансій. Ліквідаваны пасады намесніка дырэктара па навуцы і вучонага сакратара.



Вернемся да нашых зуброў. Незабяспечанасць навукаю і незабяспечанасць самой навукі сучаснымі тэхнічнымі сродкамі прывялі зубрыны статак да мяжы, за якой пагрозліва маячаць эпізаотыі. (Успышка эпізаатычных хвароб пагражае і аленям, а з вепрамі такая бяда ўжо здаралася.) Не так даўно зубры хварэлі на вочы, ды і цяпер няма гарантыі, што хвароба не ўспыхне з новай сілай, калі адбудзецца наступны экалагічны выбух гнюсу. Відавочна, машкара пераносіць нейкі вірус, а які—не вызначана.

Не вядомы ветэрынарам узбуджальнік і другой хваробы, больш небяспечнай, бо яна адмоўна ўплывае на размнажэнне зуброў. Каб весці даследаванні, выявіць пачатковыя прычыны, патрэбны спецыяльныя пнеўматычныя вінтоўкі і ўсыпляльныя кулі. Іх наша прамысловасць не выпускае; можна купіць за валюту, а валюты няма. На польскім баку ёсць і зброя, і ўсыпляльныя сродкі, там не саромеюцца прадаваць ліцэнзіі на адстрэл замежным багацеям—мільён долараў каштуе паляванне на зубра.

Святатацтва? Не. Зуброў усё адно адстрэльваюць: слабых, хворых, састарэлых, у мэтах захавання віду,—натуральных ворагаў няма, і таму не адбываецца і натуральны адбор. Вось і на нашым баку ў тым жа 1987 годзе было «изъято» (паляўнічазнаўчы «далікатны» тэрмін, які немагчыма перакласці на беларускую мову) 22 зубры, на 10 % больш, чым прадугледжана планам. «Изъято» ўласнымі егерамі вымушана, без аніякай карысці, бо што зразумееш, калі бачыш адны сумныя вынікі хваробы, а не яе прычыны.

Затое моцна недастралялі аленяў, дзікоў, казуляў. А гэта жывая валюта, ды і пушчы было б здаравей, каб едакоў паменшала.



Скаргі на кепскае вядзенне запаведна-паляўнічай гаспадаркі ў розныя часы накіроўваліся ў самыя высокія інстанцыі, вынік, як правіла, быў адмоўны. Перабудова і галоснасць прымусілі таго-сяго ахвяравацца незаслужанымі дарагімі прывілеямі і рэагаваць на крытыку. Пад уплывам цёплых вятроў змяніўся погляд на Белавежскую пушчу як на прыватны маёнтак з дзяржаўным утрыманнем. Не павінна быць у нас такіх маёнткаў, не павінны яны існаваць за кошт бязлітаснай эксплуатацыі унікальных, запаведных куткоў прыроды! Здавён прызнаная эталонам еўрапейскага лясного хараства і адзіная такая ў Еўропе, **адзіная на Планеце**, Белавежская пушча цяпер, калі прырода знаходзіцца пад прэсінгам антрапагеннага ўздзеяння, набыла асаблівае значэнне. Гэта адзін з апошніх рэзерватаў генафонду жывёльнага і расліннага свету: 44 расліны і 14 жывёл пушчанскіх занесены ў Чырвоную кнігу БССР.

З патрабаваннем навукова абгрунтаванага гаспадарання ўсё смялей выступае грамадскасць. Паважаныя акадэмікі (на жаль, не ўсе — частка з іх трымаецца кансерватыўных поглядаў, маючы на ўвазе былую кан'юнктуру) і бязвусыя **мнс** (у большасці гэта радуе, нягледзячы на выпадковыя «пеўнікі» ў дружным хоры) сыходзяцца на тым, што Белавежы неабходна як мага большая, мацнейшая і шырэйшая ў прасторы канстытуцыя запаведнасці. Менавіта моладзь патрабуе сацыяльнай роўнасці, адвяргае прывілеі карупцыі, зычыць грамадству аднавіць ленінскія адносіны да палявання.

Паляванне па-ленінску?! І тут начотніцтва, і тут выдраная з кантэксту цытата?! Не, так не будзьма. Але ж альтэрнатыва: паляванне па-хрушчоўску, калі 4 лепшыя запаведнікі краіны былі ператвораны ва ўрадавыя маёнткі, і паляванне па-брэжнеўску, паляўнічы білет № 1 тагачаснай мадэлі на імя Леаніда Ільіча? Ці адпачываць са стрэльбаю ў руках, блукаючы вольнымі пералескамі, пашанцуе — стрэлім, патрапім у перапёлку, парадуемся; не стрэлім, не патрапім — такой бяды... Ці гнаць галопам у супраўваджэнні «канарэек» з мігалкамі за 400 вёрст... А зіма на Брэстчыне капрызная: учора пароша і следна, навідавоку ўсе кварталы, куды алень пайшоў і адкуль не выйшаў, а ноччу лінуў зімовы дожджык, ды так праз два дні — ні парошы, ні следу, звера не відно, не чутно, паляваннем не пахне. Сам, і світа яго, і жвавыя хлопцы ў цывільным, пабанкетаваўшы без «крыві», без дзічыны, змрочна імчацца ў далёкі аэрапорт, папярэдзіўшы на развітанне: яшчэ адно такое паляванне, і... партбілеты на стол! Быццам кукурузу не захацелі сеяць у пушчы.

Няўдаліца здаралася рэдка, бо хапала сродкаў на заможнае пражыццё і загоншчыкам, і звярам («З лістапада па сакавік жывёлы атрымліваюць 70 % сутачнай нормы кармоў з рук чалавека» — афіцыйная даведка). І таму кроў з носа, каб толькі «з крывёю» вярталіся «ахвотнічкі». Атрыманыя дывідэнды ў выглядзе зарплаты, жылля, транспарту, Дома культуры, асфальтаваных дарог, крамнага і бытавога забеспячэння, ільгот на ўтрыманне хатняй жывёліны, своеасаблівая «дыпламатычная недатыкальнасць» у адносінах з мясцовымі ўладамі падахвочвалі раздзімаць статак паляўнічых «трафеяў», каб нават апошні мазіла, заплюшчыўшы вочы, пацэліў.

Так разбэшчваліся нізы. Неўзаметку, пры тлустым пірагу, чалавек робіцца паслугачом. Абы смачную скарыначку ўшчыкнуць. Сацыяльна тут усё проста і ясна.

А вось сярэдзінка. Ніжэйшыя па лесвіцы, што вядзе наверх, часу таксама не марнавалі. У залежнасці ад рангу хто як мог карысталіся пушчай. На свой лад і нораў. Прынцып «я табе — ты мне» аднолькава дапамагаў і развартлівому старшыні калгаса, што свежынаю і сырадоем забяспечваў паляўнічы «домік» (за тое — зорачка на грудзях і інш.), і сакратару райкома, які спачатку сціпленька прыстройваўся ў хвасце канарэечнага картэжу, а пазней мог стаць і міністрам.

Дзеля адпачынку і хутчэйшай зямной адаптацыі пасля шматдзённага арбітальнага палёту прывозілі касманаўтаў, а за імі цягнуўся «хвост» начальства мясцовага і не зусім мясцовага, якое ела і піло на рахунак пушчы, бо «суперажывала» разам з жонкамі касманаўтаў, калі на арбіце нешта не стыкавалася.

А як абстаўлялася пад выглядам традыцыі паляванне, калі якая-небудзь запрошаная славутасць прызнавалася, што палявала «даўным-даўно»! Госцейку ў прыцемках везлі на санях не так далёка, каб не замарозіць, і не так блізка, каб не чутно гасцініцы. Давалі 9-міліметровы карабін з аптычным прыцэлам, аўтаматычны. Усаджвалі на вышку-альтанку і казалі шэптам: сядзі ціха-ціха, глядзі вунь туды, на бульбяны раскрыты капец. Пакуль рахманы конік хрумкаў у торбе аўсом, егер пацішу адчыняў замаскаваную клетку, і згаладнелы кабанчык бег напрасткі да бульбы, пад аптычны прыцэл... А праз 30 хвілін, сеўшы за стол, госцейка цешыўся пахам смажанай дзічыны. «Ім» здабытай. Во спрыт!..

А ялінка на шапцы! А першы тост у гонар удалога мысліўца! А прысмакі на стале, як у сталіцах! Паэма...



Да лесу на Беларусі чалавек ставіўся адназначна — як да велізарнага скарбу, дадзенага прыродай. Лес бярог, лес сцярог, лес карміў і абагравау, а ў самыя драматычныя моманты гісторыі — ратаваў. Лес — як лёс. Ды, у адрозненне ад лёсу, стары, сівы, а вечна зялёны наш агульны дзед цалкам залежаў ад нас.

«Мікалай І і Аляксандр ІІ... загадвалі валіць лес, хаця не ведалі беларускага падання аб тым, што душа зямлі ходзіць лесам і кажа: «Сячыце, сячыце! Не будзе дрэваў — і мяне не будзе», — пісаў Уладзімір Караткевіч.

Бывае, мы перастаём верыць у ідэалы, а ўсё ж яны існуюць, незалежныя, устойлівыя, і нават ператвараюцца ў стэрэатыпы. Так адбылося з Белавежскай пушчай, якая цяпер зусім не падобная на тую, што ўхваліў рускі вучоны Д. Я. Далматаў: «Лесничий увидит в ней, как природа возвращает лес без содействия человека, как она засевает, воспитывает, разрушает и каким образом само разрушенье служит колыбелью новым поколениям дерев...»

Гэта напісана ў 1855 годзе, якраз на мяжы царавання Мікалая І і Аляксандра ІІ. Ці не падаваў Далматаў «вызваліцелю ад рабства» сігнал наконт зберажэння пушчы? Загадка.

Яшчэ адно выказванне са спасылкаю на класікаў рускага лесаводства вельмі ўпадабалі сучасныя лясныя мундзіры: «Аднаўленне і высечка лесу — сінонімы». Логіка: хутчэй і больш ссячэш — хутчэй і больш нарасце лесу? Трава і тая так хутка не расце. А сасна... Уладзімір Паўлавіч Раманоўскі, кандыдат сельскагаспадарчых навук, абараняў дысертацыю «Сасновыя лясы Белавежскай пушчы». Паводле У. П. Раманоўскага, натуральная спеласць сасны 160—170 год. Натуральная спеласць — вышэйшая якасць драўніны. Хоць бы адным вокам глянуць, дзе на Беларусі здабываюць такі сартамент! Хіба ў Белавежы?

Так, у пушчы пушчаў сякуць. Кажуць, ніхто не камандуе, колькі, а самі пушчанцы вызначаюць і бяруць па 60—70 тысяч кубоў штогод. Не так даўно бралі і па 200 тысяч. То снегалом, то караед вымушалі перавыконваць план, перапісваць рубачны білет.

Караед у лесе — як пажар. Горш за пажар. Варта ўзаконіць абсалютную запаведнасць і тым самым выключыць уплыў чалавека на прыроду — і караед распачынае сваю злачынную дзейнасць. Прычынай таму — мёртвыя паваленыя дрэвы, вываратні, буралом, сухастой. З гэтага козыра заўсёды ходзяць, калі супрацiўляюцца абсалютнай запаведнасці, а на контрдоводы, што першабытны лес таксама быў непрычасаны, недагледжаны, **запаведны ў натуры**, а ўсё ж існаваў і перамагаў усіх караедаў, адказваюць: мы не ведаем, як тады было, навука маладзейшая за чалавека.

Зона абсалютнай запаведнасці (менш за 1 працэнт ад усёй тэрыторыі) спачатку знаходзілася ў цэнтральнай частцы пушчы, узбоч дарогі, што вядзе да па-

ляўнічага «доміка». «Зялён гай непадмяцёны» раздражняў высокіх гасцей, і тады зону перанеслі на ўскраіну, раздрабіўшы на некалькі лапікаў. Крыху больш лапік абсалютнай запаведнасці знаходзіцца за польскай мяжою. Астатні лес і там рэгулярна сячэцца, мо на злоты, мо на валюту. Кажуць, культура высечкі там вышэйшая за нашу, як і падсад на пасеках.



Унутраныя праблемы, прызваўшы на дапамогу гаспадара — Упраўленне па Справах Савета Міністраў БССР, — усё ж можна вырашаць. Прэзідыумам СМ БССР створана аўтарытэтная камісія, якая абавязана распрацаваць навукова абгрунтаваныя прапановы аб раздзяленні пушчы на запаведную і паляўнічую зоны. Шкада, члены камісіі не аднадушныя, па некаторых пытаннях трымаюцца нават процілеглых поглядаў. Заолагі прапануюць аб'явіць запаведнай цэнтральную, найбольш каштоўную ў экалагічных адносінах частку пушчы, а паляванне весці на паўночным і паўднёвым ускрайках, рэзка скараціўшы статак дзікіх жывёл. Леснікі і адміністрацыя катэгарычна пярэчаць, на іх думку, не варта наогул мяняць шыльду, бо тады давядзецца скараціць і штаты паляўнічага аддзела — у такім выпадку ўзнікне сацыяльная праблема. І спасылаюцца пры гэтым на працоўны калектыў, які, натуральна, не жадае пазбаўляцца прывычных выгод. Ці пераможа тут здаровы сэнс?..

Але існуюць праблемы, якія нялёгка вырашаць нават ураду рэспублікі.

Ёсць у нас ведамства, магутнасці і незалежнасці якога — своеасаблівая дзяржава ў дзяржаве — не пазайздросціць хіба Міністэрства абароны. Гэта — Галоўпалессеводбуд, меліяратары. Шматтысячная армада, насуперак перабудове, не хоча скарачацца, а зацята ўгрызаецца ў самыя глухія нетры Беларусі. Мала што асушаны прылягаючыя да пушчы тэрыторыі ў Камянецкім і Пружанскім раёнах — 14 аб'ектаў асушваецца ў буфернай зоне. Рэчкі Белая і Перавалока скапаны на канавы, узровень ракі Нараўкі панізіўся на два метры. Адпаведна панізіўся ўзровень грунтовых вод — і гінуць, перасыхаюць славутыя пушчанскія ельнікі і дубровы.

Інтэнсіўная хімізацыя на землях навакольных гаспадарак, калгасныя свінафермы, цялятнікі, кароўнікі паступова труцяць раку Лясную, а Белая, насуперак пастанове ЦК КПСС і СМ СССР, прынятай яшчэ дзесяць год назад, дагэтуль захлынаецца ў брудных сцёках Вярховіцкага крухмальнага завода.

Такія вось «караеды»...



«Самы стары і цікавы бастыён» першабытнага лесу, адзін з апошніх яго бастыёнаў, даўно патрабуе літасці. Пакуль не выкінуты белы сцяг капітуляцыі, трэба забыцца на прыхамаці «ахвотнічкаў» і капрызы егерскай цэхаўшчыны. Пушча — дарагі скарб не адных беларусаў, а ўсяго чалавецтва, і гэты скарб мы павінны захаваць у першародным выглядзе дзеля нашчадкаў нашых.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ**

**Фота аўтара**



# ЯК ЖЫВЕШ, МАЛАДОЕ НАТХНЕННЕ?

## МАЛАДАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА, ГОД 1988

**У № 2 «Маладосці» мы пачалі друкаваць адказы на нашу анкету, з дапамогаю якой хочам агледзець, чым жыла мінулы год маладая літаратура Беларусі, якія набыткі і якія страты былі ў прозе і ў паэзіі маладых.**

**Зараз мы прадаўжаем публікацыю. Ніжэй змяшчаем адказы Уладзіміра Дамашэвіча, Віктара Супрунчука, Міхася Тычыны і Тамары Чабан.**

**Напамінаем пытанні, на якія яны адказваюць:**

**Па паэзіі:**

***1. Прайшоў яшчэ адзін творчы год. Што Вам спадабалася, што запомнілася (кнігі, падборкі, асобныя вершы) у паэзіі маладых і што расчаравала?***

***2. Апошнім часам у друку маладымі пісьменнікамі было абвешчана нямала розных дэкларацый. Ці знайшлі яны, на вашу думку, пацвярджэнне ў творчасці?***

***3. Старыя і маладыя. Які шлях, на вашу думку, больш плённы — канфрантацыі ці пленнага наследавання маладымі ўсяго лепшага, што створана папярэднікамі?***

**Па прозе:**

***1. Якім, на вашу думку, быў мінулы год для маладой беларускай прозы?***

***2. Традыцыі і наватарства. Як суіснуюць яны ў творчасці маладых? Што новага нясе маладая проза ў беларускую савецкую літаратуру? Тэмы? Вобразы? Форму?***

***3. Ці дапамог працэс перабудовы, усеагульнага абнаўлення творчаму росту маладых празаікаў?***

---

**Працяг. Пачатак у № 2.**

## Уладзімір Дамашэвіч:

1. Літаратура ніколі не гналася за бягучым днём, гэта звычайна робіць газета. Літаратура не гналася, але часам адбываліся парадоксы — яна абганяла яго, бо тое, што прыходзіла ў грамадскае жыццё трывала і надоўга, літаратура бачыла яшчэ ў зародку. Хоць, праўда, не кожны пісьменнік мог сказаць пра гэта адкрыта, не кожны мог надрукаваць свой смелы наватарскі твор. Бо першае слова было не за пісьменнікамі, яны павінны былі толькі ілюстраваць тое, на што давалі дазвол высокія функцыянеры. Груба кажучы, літаратар быў у «намордніку», а літаратура не магла «кусацца», не мела магчымасці балючых і вострых пытанняў.

Былі закрытыя тэмы, закрытыя цэлыя дзялянкі нашага сацыяльнага жыцця, куды не сягала вока і нага пісьменніка.

Гэтыя новыя прасторы мы пачалі адкрываць сёння, і найперш і найбольш іх будуць адкрываць нашы маладыя сілы. Перш за ўсё — гэта пытанні нашай роднай мовы, яе занядбаны стан. Моладзь смела гаворыць пра гэтую вострую, набалелую праблему, якую так старанна абыходзяць маўчаннем тыя ж высокія функцыянеры, хоць час прымушае загаварыць і іх, бо іхняе маўчанне можна расцаніць як згоду з маладымі, а тут хутчэй за ўсё — звычайная нязгода.

Нельга сказаць, што ў нас ужо шмат твораў маладых на новыя тэмы, але яны ёсць, і яны штораз болей будуць займаць месца на старонках нашай літаратуры.

Новыя тэмы, новыя павевы — перш за ўсё ў паэзіі, у публіцыстыцы, паступова яны пераходзяць і ў прозу. Узяць той жа зборнік «Тутэйшых» пад назвай «Жнівеньскі праспект», які выйшаў у дадатку «Маладосці». Там у зародку ўжо ёсць усё тое, што хутка разгорнецца ў шырокія палотны. Радуе прыход усё новых і новых імёнаў, якія адкрывае штодзень наша перыёдыка.

Пытанні мовы, гісторыі, развіцця самасвядомасці, пачуцця нацыянальнай годнасці, пошукі каранёў, якія страціла ў нас не адно пакаленне за апошнія дзесяцігоддзі, асуджэнне голага кар'ерызму, бяздушнасці, несумленнасці, павышаная ўвага да балявых кропак планеты, роднага краю, асобнага чалавека — усё гэта мы знаходзім у нашых маладых. Я знарок не называю прозвішчаў, хай чытач знойдзе іх сам. І ўпэўнены, што ён іх ужо знайшоў, калі гартаў часопісы «Крыніца», «Маладосць», «Полымя», газеты «ЛіМ», «Чырвоная змена» і інш.

2. Тут шмат можна спрачацца, бо ў кожнага на гэты конт ёсць свае думкі і меркаванні. Я прытрымліваюся таго, што кожная натура выяўляе сябе па-свойму, і ад таго атрымліваецца шмат розных індывідуальнасцей, не падобных адна на другую. Кожны імкнецца быць сам сабою, быць натуральным — не станавіцца на катурны і не ўсміхацца там, дзе трэба плакаць і крычаць. Калі ж нехта выбірае сабе штучную ролю, то рана ці позна гэта ўбачаць, «раскусяць» і скажуць, што ён падрабляецца пад некага, хоць бы сабе і вядомага і знакамітага, але сам сябе не знайшоў, а мо і ўвогуле не знойдзе. Такую з'яву можна назваць вядомым выслоўем: свяціць адбітым святлом.

Яшчэ мне здаецца, што кожная тэма патрабуе і знаходзіць сабе форму, толькі ёй адной уласцівую, патрэбную, самую лепшую. Што формы ўвогуле нельга прыдумаць, як робяць гэта адмысловыя краўцы-мадэльеры, а яна нараджаецца сама разам са сваім зместам,— як нараджаецца чалавек. І гэтыя суадносіны формы і зместу павінны быць такія натуральныя, што ў нас не павінна ўзнікнуць нават і думкі, што ўсё магло быць інакш.

Гэта нешта падобнае да таго, як чуеш чароўную песню, у якой словы і музыка, мелодыя як бы зліваюцца ў адно цэлае, калі ўзнікае адчуванне, што яны разам былі ўвесь час, што выспелі і нарадзіліся ў адным сэрцы.

Я за тое, каб чалавек шукаў, калі яго кліча шукаць неспакойная душа, калі ў яго шмат сілы і адвагі паспрачацца з бураю. Шукаць трэба не толькі форму, шукаць трэба і самога сябе, свой голас у вялікім хоры. Больш таго, трэба выбівацца ў салісты.

Мо нават трэба, каб кожная творчая асоба праверыла свае сілы ў розных жанрах: каб празаік спрабаваў пісаць вершы, а паэт — прозу, каб кожны паспрабаваў свае сілы ў драматургіі. Дарэмна мы сядзім у сваіх вузкаспецыфічных келлях і лічым, што з нас гэтага і даволі і мы больш не здольны на нішто, апроч таго, што ўжо зрабілі.

«Дерзайте!»— сказаў некалі Ламаносаў — і стаў пракорам у сваёй айчыне.

У мяне такая надзея, што нашы маладыя сябе знойдуць і раскрыюцца на поўную сілу ў шмат якіх жанрах і дасягнуць значных вышыняў. У іх прыкметна адна характэрная рыса: яны ідуць у літаратуру не для сябе, а для больш высокай мэты. Калі гаварыць высокім стылем — яны ідуць працаваць для дабра свае радзімы — Беларусі, для свайго роднага народа, свае культуры.

Мэта святая, хай жа святыя будуць і сродкі, якімі яны будуць карыстацца на шляху да гэтае мэты!

3. Маладым проста пашэнціла, што яны прыйшлі ў літаратуру ў такі спрыяльны час: яны могуць гаварыць усё без аглядкі, могуць гаварыць на ўвесь голас, на ўсю шырыню свае душы.

Важна, што яны ведаюць, чаго хочуць і чаго дабіваюцца. Фактычна таго ж самага, чаго дабіваліся нашы папярэднікі, у якіх балела душа за свой народ і за кожнага чалавека на роднай зямлі.

Кожны чалавек — сын чалавецтва, але перш за ўсё ён сын свайго народа, свае зямлі. Ён тут нарадзіўся і вырас, і ён стане дзікуном і вырадкам, калі перастане любіць сваіх бацькоў і іх мову, свой край і свой народ, калі ён аддасць свае сілы і талент некаму іншаму, а не свайму народу.

Мо якраз гэта тое галоўнае, што нясе ў сабе наша моладзь, якая ідзе ў літаратуру, і чаго не мелі часам мы, старэйшыя, калі пачыналі. Нас тады вучылі любіць свой народ праз галаву другога народа. Плён такой «навукі» мы сустракаем яшчэ і цяпер, калі шмат хто ўжо адмаўляе нашаму народу ў праве на дзяржаўнасць, на мову, на гісторыю,— гэта значыць права на будучыню.

А як жа можна, не любячы, не паважаючы свой народ, любіць іншыя народы і нацыі? У такую любоў я ніколі не паверу. Чалавек, які не любіць свае роднае маткі, не можа лічыцца паўнацэнным — душа яго, розум яго нечым затуманены. Гэта можна назваць летаргічным сном.

І менавіта нашым маладым талентам выпадае на долю нялёгкая місія: будзіць вось такіх няшчасных ад гэтага сну, далучаць іх да актыўных будаўнікоў нашага новага грамадства, якое зноў набывае ленінскія рысы і абрысы, якое зноў вяртаецца, а мо лепей сказаць — ідзе да сацыялізму з чалавечым аблічча́м.

І чым больш энергічныя і смелыя, чым больш адукаваныя і дасведчаныя, чым больш таленавітыя будуць нашы маладыя паэты і празаікі, тым хутчэй будзе ісці той няўмольны працэс абнаўлення, які сёння ў нас адбываецца,— працэс перабудовы.

## Віктар Супрунчук:

1. Гэткім жа, як і некаторыя іншыя гады. Надта яркіх твораў не з'явілася на старонках часопісаў. Маю на ўвазе маладых літаратараў-празаікаў. Хоць і былі надрукаваны там-сям апавяданні, зробленыя даволі прафесійна. Неблагая кніжка прозы складзена «Тутэйшымі», што выйшла ў «Бібліятэцы «Маладосці». Наогул, трэба аддаць належнае гэтаму аб'яднанню маладых... На жаль, не было такога гурту ў пачатку васьмідзесятых, калі я пачынаў працаваць у прозе. Маю на ўвазе — друкавацца... Лічу, што ў бліжэйшы час у беларускую літаратуру павінна ўвайсці немалая грамада празаікаў. Сярод іх хацеў бы назваць Федарэнку, Неўдаха, Калкоўскага (Глобус ужо член СП), Праўдзіна... Ёсць сярод маладых людзі і сталага ўзросту: Мікола Дубоўскі, Анатоль Жук, Мікалай Сердзюкоў... Яны маюць, што важна для празаіка, багаты жыццёвы вопыт, і магчыма, палітычная сітуацыя ў краіне — перабудова — дапаможа ім выкарыстаць яго ў творчасці.

2. Мне здаецца, што, нягледзячы на выказванні асобных таварышаў, у прозе маладых больш традыцыйнага, чым наватарства. Наогул, што такое традыцыі і наватарства сёння? На жаль, калі мы думаем, што гэта новае па форме і тэме ў беларускай літаратуры, дык памыляемся. Гэта не значыць, што такога не было ў сусветнай літаратуры. За апошнія дзесяцігоддзі толькі творы Маркеса былі напісаны ў новай незвычайнай форме. Хоць і ў гэтага пісьменніка некалі быў папярэднік: Ян Патоцкі са сваім раманам «Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе». Некаторыя маладыя спрабуюць пісаць суха, вельмі лаканічна. Але гэта таксама ўжо было. Літаратура, як і гісторыя, развіваецца па спіралі. Іншае, што ёсць многа тэм, якія да нядаўняга часу былі закрыты для друку. Літаратура, на шчасце, робіцца больш жыццёвай, паўнакроўнай. Такой, якая яна ў лепшых творах Быкава, Караткевіча, Пташнікава... Сёння маладыя маюць магчымасць ствараць вобразы, пра якія ў пачатку васьмідзесятых не маглі і думаць. Але, урэшце, гэта залежыць ад здольнасцей літаратара...

Маладыя шукаюць, эксперыментуюць, але ўсё гэта, паўтараю, ужо было. Толькі не было Сталіна, Брэжнева, Хрушчова...

3. Несумненна. Але не настолькі, колькі хацелася б. Складаная моўная сітуацыя ў рэспубліцы, тое, што беларуская мова ста-

ла напаўлегальнай на роднай зямлі, адчуваецца і па творах маладых. У іх руках ёсць немалая сіла, каб вырваць з гэтага падполля мову нашага старажытнага славянскага народа, адрадзіць у ім пачуццё нацыянальнага гонару. У гэта я веру.

## Міхась Тычына:

1. Мінулы год наогул можна назваць годам моладабеларусаў. Нарэшце іх стыхійны пратэст супраць маны, двухсэнсоўнасці, пустой напышлівасці, ілжэаўтарытэтаў, якія многіх палохаў сваёй экстравагантнасцю, элементамі эпатажу, падкрэсленай тэатралізаванасцю, знайшоў рэчышча. Творчая моладзь адчула, што яна сапраўды здольна ўплываць на маральную атмасферу ў рэспубліцы, што без яе перабудова можа патануць у пышнаслоўі, што яна, здаецца, заклікана выкарыстаць апошні шанец, каб выратаваць не толькі самую сябе, не толькі нацыянальную літаратуру, не толькі беларускую мову, але і тую глебу, на якой узраслі і яны самі, і літаратура, і мова. Яе паэзія, проза, публіцыстыка, якая таксама нарэшце адшукала дарогу да чытача, стала досыць шырока і часта публікавацца на старонках рэспубліканскага і ўсесаюзнага друку, успрымаецца ў кантэксце грамадскай дзейнасці, дзе маладыя выявілі сябе асабліва актыўна. Маладая проза пакуль што выконвае больш інфармацыйную, чым эстэтычную функцыю, бо чытач, згаладнелы па праўдзе аб тым, якое яно, сучаснае пакаленне, шукае перш за ўсё адказ на гэта пытанне. Эстэтычная асалода ад чытання асэнсоўваецца ў прамой сувязі з працэсам эстэтычнага пазнання. Празаічныя творы А. Наварыча, А. Глобуса, У. Сцяпана, В. Чаропкі, С. Дубаўца, іншых маладых шмат у чым дамалёўваюць абагульнены партрэт новага, незнаёмага племя, якi больш выразна вырастае з вершаў яго прадстаўнікоў. І што ж, многія пострахі, якімі мы жылі дагэтуль, уяўляючы наступнікаў як нейкіх прыхадняў з іншай планеты, што закліканы невядома кім, каб руйнаваць здабытае цяжкай працай папярэднікаў, знікаюць. Маладыя з уласцівай ім настальгіяй па паўнаце нацыянальнага быцця востра перажываюць сваю адарванасць ад роднай глебы, сваю душэўную непрыкаянасць у свеце сучасных канструкцый і адарваных ад рэальнага жыцця абстракцый, адчуваючы сябе ўнутранымі эмігрантамі на ўласнай радзіме.

2. Вонкава ўсё выглядае так, што маладых празаікаў лёгка папракнуць у тым, што яны свядома супрацьстаўляюць сябе традыцыйнай прозе. У іх усё іншае — і тэмы, і героі, і сюжэты, і сама форма. Відавочна, што яны мысляць інакш, чым многія іх папярэднікі: баючыся страціць чытача, яшчэ не набыўшы яго, яны заваблiваюць яго незвычайнасцю намалёванай карціны, дзівакаватасцю сваіх персанажаў, якія як бы выламаліся са свайго асяроддзя і напружана шукаюць сваё месца ў свеце глабальных супярэчнасцей, раптоўнасцю сюжэтных хадоў, навізной стылявога малюнку. Своеасаблівасць свайго вобразнага бачання яны часта падкрэсліваюць уласнымі ілюстрацыямі, выкананымі ў стылі мадэрна. І яны маюць рацыю, бо гару жыцця, як засведчыў яшчэ Гётэ, нельга перабраць па пясчынцы — патрэбен вертыкальны разрэз і алгебраічнае мысленне. Традыцыйныя апавядальныя структуры іх відавочна не задавальняюць сваёй апісальнасцю і неэканомнасцю, за якімі можна ўбачыць вялікую працу і не адшукаць таго, што азарае гэту працу,— таленту. Але задачы, якія стаяць перад маладымі празаікамі, традыцыйныя — не страціць сувязі з рэальным жыццём, яго праблемамі, вялікімі і маленькімі, якія бяруць пачатак здалёк. Адсюль імкненне разабрацца не толькі ў сабе самім і сучасным дні, але і ў тым, што папярэднічала іх прыходу ў жыццё і літаратуру. Яны намагаюцца не толькі перабудоўваць сучаснае, але і адрадзіць страчаныя гуманітарныя каштоўнасці мінулага народа, аб чым сведчыць іх асаблівая ўвага да нацыянальнай гісторыі. Яны востра адчуваюць прысутнасць у жыцці народа і яго літаратуры вялікіх ценяў — герояў беларускай гісторыі, класікаў роднай літаратуры, тысяч і тысяч праўдалюбцаў і падзвіжнікаў. Маладыя абнаўляюць, асвяжаюць наш погляд на свет і яго праблемы, вымушаюць нас інакш паглядзець на пражытае жыццё, убачыць свой народ як вялікую жывую істоту, якая пакутуе і спадзяецца на лепшае.

3. Большасць імёнаў маладых стала вядома якраз у апошнія гады, якія мы звязваем са словамі «перабудова», «абнаўленне», «адраджэнне». Моладабеларусы адчулі магчымасць актыўна ўдзельнічаць у духоўным жыцці сваёй краіны, сваёй рэспублікі і ўпарта шукалі поле дзейнасці. Спачатку здавалася, што яны празмерна шмат увагі і энергіі аддаюць грамадскай, а часта і проста асветніцкай дзейнасці: працуюць, скажам, з бацькамі, якія сумняваюцца ў тым, аддаваць ці не аддаваць сваіх дзяцей у «беларускія класы». Але без гэтага яны не маглі адчуваць сябе і пісьменнікамі, бо, каб пісаць і быць «настаўнікамі жыцця», трэба мець на гэта права. Яны востра перажывалі падзенне прэстыжу пісьменніцкай прафесіі і зрабілі ўсё, каб слова «пісьменнік» успрымалася як яшчэ адзін сінонім паняцця «прарабы перабудовы». Маладыя, магчыма, не ўсе, але многія, адчулі, а некаторыя і асэнсавалі, што талент і маральнае аблічча творцы — два бакі аднаго і таго ж медаля. Свой стыль творчых паводзін яны яшчэ не выпрацавалі, але, калі меркаваць па фактах іх творчасці і грамадзянскіх учынках, то ёсць рэальныя падставы, каб спадзявацца, што новае пакаленне пісьменнікаў пойдзе да мэты ў поўны рост, з адчуваннем сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці адолее той разрыў, што ўтварыўся паміж пакаленнем класікаў і цяперашніх «саракагадовых», верне да жыцця тыя ўзоры высокай грамадзянскасці і асабістай мужнасці, якія ў нашым уяўленні звязваюцца з імёнамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа.

## Тамара Чабан:

1. Мінулы, 1988 год быў, як мне здаецца, менш за ўсё паэтычны. Празаічны, драматычны, трагічны... Я маю на ўвазе не перавагу жанраў, а агульны эмацыянальна-псіхалагічны настрой, «музычны тон» года. Папярэдні, 1987 год быў больш «паэтычны», тады было шмат надзей, спадзяванняў, захапленняў, пратэсту, эмоцый. Гэты ж год — год трывог, выпрабаванняў, расчараванняў, болю, год цвярозага одуму.

Публіцыстычны «бум» у паэзіі, мне здаецца, праходзіць, і ўвагу чытачоў прыцягваюць вершы не проста вострыя, палемічныя, выкрывальныя, публіцыстычныя, а больш глыбінныя, духоўна-філасофскія, дзе разгубленая, абпаленая горкай праўдай чалавечая душа знаходзіць духоўную апору, надзею на выйсце з пакутнага лабірынту. Нездарма, як мне здаецца, паэтычнай падзеяй, з'явай года стала кніга А. Разанава «Вастрыё стралы», дзе няма вострых і кідкіх лозунгаў, знешніх прыкмет надзённасці, а ёсць унутраны драматызм часу, адчуванне шляху.

У маладой паэзіі, у адраджэнцкай ідэі, якую яна паэтычна сцвярджае, таксама, мне здаецца, на першы план павінны выйсці не лозунгі і дэкларацыі, нават не туга і боль па страчаных нацыянальных каштоўнасцях, не заклік у абарону мовы і радзімы, а глыбіннае духоўнае асэнсаванне гэтых каштоўнасцей, узнаўленне нацыянальнага вобразу свету ў яго цэласнасці, уключанасці ў агульначалавечае і сусветнае. Крокі ў гэтым кірунку адчувальныя найперш у творчасці А. Сыса. Творчым ростам, паглыбленнем псіхалагізму, філасафічнасці радуюць паэтычныя падборкі А. Дэбіша, А. Бадака, М. Скоблы (часопісы «Маладосць», «Беларусь», «Крыніца»). Па-добраму ўразілі глыбінёй і гуманізмам нацыянальнай ідэі, унутранай свабодай вершы Г. Дубянецкай у Дні паэзіі — 88. Цікава і нетрадыцыйна выступіла з першай падборкай у «Крыніцы» Таццяна Сапач. Але найбольш значным адкрыццём паэтычнага года ў маладой паэзіі былі падборкі вершаў Людмілы Рублеўскай з іх маладым духоўным максімалізмам і неюначай удумлівасцю, глыбінным духоўным падключэннем да гісторыі (асабліва вершы «1864» і «Ефрасіння»). Увогуле, за рэдкім выключэннем, газетныя і часопісныя публікацыі маладых цікавыя.

А вось выпрабаванне першымі кнігамі маладыя, на маю думку, не вытрымалі. На агульным шэрым фоне «Лагоднага промня раніцы»— чарговага калектыўнага зборніка, выдадзенага «Мастацкай літаратурай», вылучаюцца, бадай, толькі вершы М. Шэлехава. Гэта кніга, мне здаецца, канчаткова скампраметавала саму ідэю калектыўных зборнікаў, не сцэментаваных агульнай ідэяй, духоўнай і творчай блізкасцю паэтаў. Але вось у зборніку «І надзея, і лёс, і ўспамін...», які выйшаў у «Бібліятэцы «Маладосці», такая блізкасць, здаецца, павінна быць (аўтары — члены і «сябры» таварыства «Тутэйшыя»), аднак зборнік усё ж слабаваты і па глыбіні светаадчування, і ў мастацкіх адносінах. Усцешвае тое, што аўтары гэтай кніжкі людзі сапраўды маладыя, што гэта першыя спробы, што ў іх усё наперадзе.

Расчаравалі ў нечым і доўгачаканыя кнігі паэзіі А. Сыса і А. Глобуса. Зборнік А. Сыса «Агмень» павінен быў выйсці гадоў 6—7 назад, а цяпер, калі мы ведаем па падборках, на што здольны паэт, калі на падыходзе яго кніжка «Пан Лес», гэты зборнік успрымаецца як крок назад, як добрая кніжка пачаткоўца — і толькі. Але ж калі прэтэндуеш на высокае месца ў паэзіі, то і пачынаць трэба, як Лермантаў, як Багдановіч — з «Вянка», з «выбранага», а не са «збору твораў»...

Зборнік А. Глобуса патрабуе асобнай гаворкі; тут хацелася б заўважыць, што яму

 

не стае паэтавай самакрытычнасці, мастацкага адбору, ён абцяжараны і паслаблены «вучэбнымі» эцюдамі, занатоўкамі, дзе аўтар дэманструе мастакоўскую назіральнасць, вастрыню позірку, уменне параўноўваць...

2. Вось і адказ на пытанне пра дэкларацыі і творчасць... Але што гэта за творчасць, калі яна будзе служыць толькі пацвярджэннем маніфестаў і дэкларацый, іх ілюстрацыяй! Сапраўдная паэзія заўсёды глыбейшая, мудрэйшая, вольная. Увогуле ж з дэкларацый, маніфестаў, паэтычных і грамадзянскіх праграм пачынала амаль кожнае пакаленне, кожная паэтычная плынь (успомнім рамантыкаў, сімвалістаў, паэтычныя школы 20-х гадоў)... Праўда, пачынаючы з 30-х гадоў маніфесты і дэкларацыі зніклі, і паэтычнымі праграмамі лічыліся апошнія партыйныя, урадавыя пастановы. Таму сучаснае адраджэнне іх я лічу добрым знакам, адчуваннем паэзіяй сваёй «самасці», унікальнасці сваіх задач.

Наколькі я магу меркаваць, маніфесты і дэкларацыі маладых літаратараў не стольні літаратурныя, колькі маральныя, грамадзянска-палітычныя. І што самае галоўнае, моладзь пацвярджае іх не столькі паэзіяй, колькі сваімі ўчынкамі, уласным жыццём, пераадольваючы разрыў паміж словам і справай. Спадзяюся, што ўрэшце гэта ўвасобіцца і ў паэзіі, у той яе ўнутранай праўдзівасці, калі бачна, што паэт «жыве, як піша, і піша, як жыве»...

3. Праблема ёсць, але, здаецца, шмат у чым яна перабольшаная тымі, хто выкарыстоўвае моладзь як казырную карту ў непатрэбнай і даўно ўсім абрыдлай групавой барацьбе.

Што адмаўляюць маладыя ў папярэдніх літаратурных пакаленнях? Па сутнасці, тое, што і самі «старыя» ў сабе адмаўляюць, з чым змагаюцца, што пераадольваюць,— страх і пакорлівасць перад «сістэмай», згодніцтва, прыстасавальніцтва, кан'юнктуршчыну.

Гэта нялёгка і няпроста, калі пражыта большая палова жыцця, але кожны сапраўдны мастак хоча быць унутрана свабодны, хоча быць мастаком, а не літчыноўнікам і літслугою і не прамяняе высокую і шчаслівую здольнасць творчасці на пасады і матэрыяльныя даброты. Большасць пісьменнікаў сумленна вытрымала выпрабаванні, але і тым, хто не вытрымаў, думаю, не трэба так катэгарычна адмаўляць у магчымасці адраджэння.

З другога боку, адсутнасць «першароднага грэху» яшчэ не ёсць дабрачыннасць. У маладых усе выпрабаванні наперадзе, і толькі год праз дзесяць можна будзе сказаць, хто ёсць хто.

А пакуль што — добра, што акрамя суда сумлення ёсць яшчэ і маральны суд «Тутэйшых», хоць іх прысуд і цяжка паддаецца абскарджанню.

У галоўным жа — у адносінах да Радзімы, да мовы, да роднай культуры і гісторыі — у літаратурных пакаленняў няма значных супярэчнасцей. І гэта выдатна пацвердзілі падзеі 30 кастрычніка, калі на полі ля Маскоўскіх могілак і пасля таго «Тутэйшыя» не засталіся ў адзіноце — іх падтрымалі літаратары, сумленная інтэлігенцыя ўсіх пакаленняў.

Што ж датычыцца непасрэдна паэтычнай традыцыі, творчай узаемасувязі пакаленняў, то тут паэзія, я лічу, мудрэйшая за дэкларацыі, асабістыя канфлікты і абапіраецца на ўвесь вопыт папярэднікаў. Напрыклад, у вершах А. Сыса адчуваецца творчая вучоба ў М. Танка (асабліва ў верлібрах), у вершах В. Куртаніч чуюцца публіцыстычныя інтанацыі Н. Гілевіча, А. Бадак сцвярджае: «Пішацца цяжка пасля Барадуліна... Пішацца лёгка пасля Барадуліна...»

*Старонкі ўспамінаў*



# ЯНА — З ЛЮДЗЬМІ

Першага сакавіка, паводле народнага календара,— дзень Еўдакіі.

Еўдакіяй назвалі бацькі бялявую дзяўчынку, якая нарадзілася першага сакавіка 1929 года ў вёсцы Старына Ушацкага раёна. Віцебшчына, багатая на таленты, падарыла Беларусі яшчэ аднаго паэта. На гэты раз — жанчыну.

Свой першы зборнік Еўдакія Лось назвала «Сакавік» (1958).

Хутка над зялёнаю прысадай
Прагучыць зязюльчына «ку-ку!».
Абудзіўся свет:
Я вельмі рада,
Што радзілася ў сакавіку.

Любіла святло, імкнулася да яго. І разам з тым ніколі не забывала свайго, азмрочанага вайной, дзяцінства. І звярталася да Айчыны:

**Верасень 1960. Дэкада беларускай літаратуры ў Латвіі.**
На здымку: **Латышскія пісьменніцы А. Бродэле, Ц. Дзінарэ, Е. Лось** (у цэнтры), **А. Саксэ** (Латвія), **Э. Агняцвет.**



 

Я цябе ведаю светлай, аконнай,
Ясныя зоры, садовы спакой.
Я ж цябе ведала беднай палоннай—
Самай бяздомнай, няўроднай, сляпой.

Я цябе ведаю добрай і рознай...
Як чалавеку, табе гавару:
Не пакідай, абыходзься як з роднай,
Нават калі далюблю, дагару!

Недалюбіла. Недагарэла. Згарэла на ляту!

Яе трывожылі ўсе праблемы сучаснага жыцця. Чытаеш вершы Еўдакіі Лось—шчырыя і ласкавыя, гарачыя і мужныя,—і ў цябе няма пытання, калі яны напісаны. Гэта наша, XX стагоддзе—бурнае, супярэчлівае, трагедыйнае, гераічнае.

З гордасцю гаварыла пра сваіх продкаў:

Рубіў ён зрубы залатыя,
Нарогі, гонкія чаўны
І сцены белыя Сафіі
Над плынню быстраю Дзвіны.
Умеў мой продак човен ладзіць,

Паліць ікластыя карчы,
Таму, хто ў роспачы,—
дарадзіць,
Таму, хто ў горы,—
памагчы...

І заўсёды стукала ў сэрца тэма вайны. Паэма «Гавораць несмяротныя» (пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці), вершы «Пісьмо ў Фастаў», «Абеліскі», «Партызанская зямлянка», «Дзяўчаты мінулай вайны», «Белая хустка» апякаюць сваім болем. Дакладныя, вывераныя словы знаходзіла Еўдакія Лось. Паслухайце канцоўку верша пра дзяўчат мінулай вайны:

Пужаліся свісту міны,
Чужых незычлівых вачэй,

А гінулі—як мужчыны,
Абняўшы зямлю ямчэй.

І побач з гэтымі пранізлівымі радкамі—лірычныя мініяцюры. Роздум аб жыцці і людзях, аб сваіх перажываннях, аб каханні, светлым і нешчаслівым.

Калі я думаю пра Еўдакію, адразу ўспамінаю такія радкі:

Ах, Беларусь, мая ты доля,
Мая сляза і пацалунак,

Маё ў бярозках белых поле,
Мой песнямі набіты клунак!

І запомніліся «Бярозкі ля станцыі Разліў» (удалую песню на гэтыя словы напісаў Юрый Семяняка). Паэтэса звяртаецца да адной бярозкі:

Мы з табой спазніліся радзіцца,
Не маглі яму мы пакланіцца,
Пазвінець зялёнымі лістамі,
Памагчы адданымі рукамі.

Мы з табою страцілі замнога—
Леніна не бачылі жывога.

Нячаста сустракаюцца такія асабістыя радкі, прысвечаныя Леніну.



...Мне б хацелася азірнуцца на жнівень 1958 года. Дубулты. Перад вечарам на ўзбярэжжа прылятаюць чайкі. Здалёку сярод чаек прыкмячаю постаць светлавалосай дзяўчыны: вецер развявае валасы, яна ўглядаецца ў сінюю далеч. Раптам чайкі сарваліся, некуды адляцелі і дзяўчына застаецца адна. Адзінокая чайка. Ціха праходжу міма. Чую вясёлы вокліч: «Эдзі Сямёнаўна, хаця мы яшчэ мала знаёмы, але ўсё ж не праходзьце міма!»

Еўдакія Лось толькі-толькі прыехала ў Дубулты і адразу пабегла на бераг. Так і пачалося наша знаёмства.

Да майго ад'езду заставалася некалькі дзён, але мы не раз бачыліся, размаўлялі на розныя тэмы. Было лёгка і цікава. Калі я ад'язджала, на вакзале сабралася шумная кампанія. Дуся, зусім маладая, ажыўленая, смяялася, радавалася новым людзям. І яе вясёлосць засланіла вобраз адзінокай чайкі.

Менавіта з Латвіяй найболей звязаны мае ўспаміны аб Еўдакіі Лось. У верасні 1960 г. у Латвіі праходзіла дэкада беларускай літаратуры. Мы ездзілі па ўсёй рэспубліцы, адчувалі самую цёплую прыязнь сяброў-латышоў. Дружба дарыла нам радасць.

У беларускай дэлегацыі былі П. Броўка, Я. Брыль, П. Панчанка, П. Пестрак, В. Вітка, С. Грахоўскі, А. Вялюгін, І. Грамовіч, М. Калачынскі, А. Зарыцкі, Р. Сабаленка. І дзве жанчыны—Е. Лось і я. Заканамерна, што мы былі акружаны ўвагай.

Па дарогах Латвіі з намі ездзілі нашы слаўныя латышскія сябры. Сярод іх—самы старэйшы, народны паэт Ян Судрабкалн, самы малады, вельмі таленавіты—Ояр Вацыецыс.

Прыгожая, залатая пара!

Дуся была акрылена ўвагай і сваёй маладосцю. Твар яе свяціўся. Гэты настрой добра ўлоўлены фотакарэспандэнтам на адным калектыўным здымку, дзе мы зазнятыя разам з вядомымі пісьменніцамі Латвіі Аннай Саксэ, Аннай Бродэле, Цэцыліяй Дзінарэ.

За дзень адбываліся па тры-чатыры літаратурныя сустрэчы, потым «засядалі» за гасціннымі сталамі (і гэта было!). І, тым не меней, мы з Дусяй яшчэ доўга, ледзь не да світанку, дзяліліся ўражаннямі. Раптам яна ўсхоквала: «А я ж зусім забылася, што я да таго ж і карэспандэнт «Звязды»! Бегла да стала, старанна запісвала для газеты дзённік дэкады і раніцай акуратна адпраўляла ў Мінск свае нататкі. Яны адразу ж, па свежых слядах, з'яўляліся ў друку. Спецыяльны карэспандэнт «Звязды» быў на вышыні!

Але бывала і такое: натаміўшыся ў дарозе, пасля многіх літаратурных вечароў, яна адразу засынала і вельмі цяжка ўздыхала ў сне. Неяк я спалохалася, пабудзіла яе: «Што з вамі, Дуся?» «А так... Сэрца схапіла...»

І міжволі ўспамінаўся бераг, адзінокая чайка...

А ўдзень зноў былі кветкі і закаханыя позіркі латышскіх паклоннікаў, калі яна чытала свае праніклёныя, лірычныя вершы.

У горадзе Даўгаўпілсе з гордасцю расказвала яна, што сёстры Маня і Маруся вучыліся ў тутэйшым педагагічным інстытуце і дзякуючы яму сталі добрымі настаўніцамі. З вялікай цеплынёй расказвала пра свайго бацьку, які ведаў латышскую мову (Віцебшчына недалёка ж знаходзіцца ад Латвіі). Бацька часам называў сваіх дачок па-латышску—«мейтанэ»—дзяўчынка...

Пасля таго залатога верасня 1960 года я ніколі больш не бачыла Еўдакію такой прыўзнята-шчаслівай. Хіба толькі тады, калі ў яе жыцці з'явіўся сынок Дзіма. На яго глядзела з асаблівай ласкай і замілаваннем.

Ціхая просьба—
Першаму грому:
«Не пагражай
Хлапчуку малому!»

Гэткая ж просьба—
Да бліскавіцы:
«Не разгарайся над ім,
Сястрыца!»

Дзіма быў новай крынічкай яе творчага натхнення. Разам з ім рос і набіраў сілу талент паэтэсы Еўдакіі Лось. Сведкай гэтаму яе вершы і паэмы ў зборніках «Хараство», «Яснавокія мальвы», «Вянцы зруба», кніжкі для дзяцей. З'явіліся яркія паэтычныя кнігі «Перавал», «Галінка з яблыкам» і апошняя... «Лірыка ліпеня».

...Аднаго разу рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» папрасіла Е. Лось напісаць пра мяне артыкул. Ёй патрэбны былі дадатковыя матэрыялы: ваенныя вершы, дзённікі, фота.

З ёю ішоў Дзіма. Яны падыходзілі да нашага ганка, тут Дзіма ўбачыў мяне на двары, вырваўся з матчыных рук і кінуўся насустрач з букецікам белых астраў. Дуся здзівілася і ўзрадавалася дзіцячай непасрэднасці (яму было тады тры гады): «Ніхто ж яго не вучыў гэтаму!» Праз нейкі час, за сяброўскім застоллем, яна прыгадала выпадак на двары і пажадала мне: «Дзеці лепш за нас, дарослых, адчуваюць душу чалавека. Няхай заўсёды бягуць дзеці радасна насустрач вам!»

Вельмі кранулі мяне гэтыя шчырыя словы, як і артыкул Еўдакіі Лось у «ЛіМе» «З вераю ў маладосць».

Цяпер, калі яе няма, многія (у тым ліку і я) са спазненнем зразумелі, што яна сама мела неабходнасць у чалавечай спагадзе, у добрым слове, у маральнай падтрымцы. І часам сваімі наноснымі адносінамі і так званым «цяжкім характарам», як шчытом, засланяла ранімае сэрца...

Але не забывала і пра добрае.

Кніжку для дзяцей «Синие дни», якая выйшла ў Маскве ў 1971 годзе, падарыла мне з надпісам: «Хроснай маці гэтай кніжкі. Добрага здароўя!»

А было так: у снежні 1968 мы зноў сустрэліся ў паездцы. У Маскве адбываліся Дні беларускай літаратуры да 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.

Былі сумесныя выступленні, падарожжы па Маскве, таварыскія гутаркі.

У вольны час загаварылі аб дзіцячых вершах Еўдакіі. Мне найбольш падабалася «Казка пра Ласку». Яна і кажа: «Хочаце, пачытаю новыя вершы пра сінія дні майго Дзімы ў Кактэбелі?» Вершы былі лёгкія, свежыя, запамінальныя. І назаўтра раніцай мы пайшлі да дырэктара выдавецтва «Детская литература» К. Ф. Піскунова. Так я і стала «хроснай маткай» кніжкі. Прыемна было чытаць пазней у часопісе «Дружба народов» цёплы водгук Сяргея Баруздзіна на кніжку «Синие дни».

Яе вельмі радавалі поспехі нашых маладых паэтаў. Неяк у філармоніі ўвосень 1966-га адбываўся вечар, прысвечаны таджыкскай літаратуры. У фае сярод многіх пісьменнікаў яна адразу заўважыла Жэню Янішчыц і Алеся Разанава. Уся засвяцілася і ўсклікнула: «Гэта наша будучыня!»

...У апошнія гады яе жыцця, нягледзячы на адкрыты характар, яна часта замыкалася. І ў нашых узаемаадносінах з'яўлялася незразумелая недагаворанасць. Немаведама чаму раптам Дуся праходзіла міма і ледзь ківала галавой. Калі б я ведала, што яна цяжка хварэе і што гэта былі хвіліны самапаглыблення чалавека, які на нейкі час становіцца нібыта «потусторонним»... Не гаварыла ж на гэтую тэму, не скардзілася.

У апошні раз мы ўбачыліся ў сакавіку 1977 г. У Доме літаратара пісьменніца Галіна Васюкова адзначала свой юбілей. Еўдакія была прызначана тамадой. Вяла вечар весела, непасрэдна. Калі пачаліся танцы, засмуткавала. Мы разам выйшлі з залы.

Яна жыла на Берасцянскай, мой дом — каля філармоніі. Пайшлі не спяшаючыся. Я ўспамінала Дзіму ў яго маленстве. Раптам Дуся паскардзілася: «Вось Галіне добра, яна з мужам на сваім юбілеі. Хутка і мой юбілей... Як жа я?»

Потым загаварыла аб тым, што жанчынам значна цяжэй жывецца ў літаратуры. Хатнія справы, магазіны, нялёгкі быт... Пэўна, таму не ўсе жанчыны-пісьменніцы маюць час на грамадскае жыццё. Трэба быць падзвіжніцамі.

На развітанне шчыра, цёпла сказала: «Жадаю вам самага-самага добрага!»

У тым жа 1977 была я ў Дубултах. Зноў Латвія!

Чытаю першы ліпеньскі нумар «Литгазеты» і нічога не разумею: імя Еўдакіі Лось у чорнай рамцы. Адкуль? Чаму? Памерці ў самым росквіце жыцця!

...А бераг усё той жа: людзі, чайкі. І ў памяці ўсё той жа вобраз: адзінокая чайка.

Не! Яна не адзінокая. Застаўся на зямлі яе працяг — самы родны чалавек яе жыцця сын Дзіма, якога любіла без памяці. А цяпер падрастае і ўнучак Андрэйка. Не давялося ёй пабачыць маленькага...

І засталася таленавітая паэтычная спадчына.

Я да цябе, паэзія, дабіралася,
Як далакоп на сухой мясціне.
Я з табой, нарэшце, спазналася,—
І стала светла ў маёй хаціне.

Яна — з людзьмі.

Эдзі АГНЯЦВЕТ

Фота А. Перахода





# ВАНДРОЎКІ НАЯВЕ І Ў СНЕ

## ПА СТАРОНКАХ ДАРОЖНАГА ДЗЁННІКА МАЛАДОГА МАСТАКА-ГРАФІКА УЛАДЗІМІРА САВІЧА

— Чалавек, творца — пасрэднік паміж рэальным і ідэальным, паміж гісторыяй, сучаснасцю і будучыняй,— кажа Уладзімір Савіч і гартае адзін за адным старыя і новыя свае блакноты.

### ЖУРАВІНАВАЕ СВЯТЛО

У Швейцарыі асляпляльна зялёная, смарагдавая трава. І заміж стромкіх гор — яснае высокае неба... Але Уладзімір Савіч ча-





**Ілюстрацыі да кнігі Ніла Гілевіча «Родныя дзеці»** (аловак, 1985).

мусьці не паказвае зробленых там занатовак.

— Штовечар я выходзіў на вуліцу і глядзеў на неба. Месяц свеціць, а я гляджу на яго і думаю: цікава, ці відаць яго цяпер у нашай вёсцы...

«— Мама, а чаму восень такая непрыветная, шэрая?

— Ды што ты, сынок. Ці ж не бачыш, яна едзе на рабым кані. Ён падобны на вунь той клён. Рабы клён...

Бралася на мароз. Яны збіралі рассыпаныя па зялёных купінах налітыя сокам ягады. І вячэрняе неба адзывалася жураўінавым зыркім святлом...»

...Так створаны чалавек. Калі ягоная душа замірае ад хараства, яна, уражаная, імкне на Бацькаўшчыну і толькі так набывае два крылы. Уладзімір Савіч нарадзіўся на Міншчыне. І дзе б ні быў, яму ў хвіліны натхнення і роспачы наканавана вяртацца ў родную вёску, да маці...

— Эмацыянальны, творчы пачатак у мяне ад маці. Яна нас чацвёра сыноў выгадавала. Брыгадзірам у калгасе была. Калі трэба што, і па сталярцы можа зрабіць. Але чалавек яна тонкі, далікатны. Спяваць любіць. Гледзячы, як яна вышывае, я вучыўся малявацъ... А вось калі трэба было рашацца ехаць з роднае вёскі ў Мінск, у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву, тут ужо бацькава воля выявілася. Раз паступіў, кажа, хай едзе. Потым, памятаю, усё не мог дачакацца выхадных, каб дадому хутчэй... Самыя трапяткія, пяшчотныя ўспаміны ў мяне з дзяцінства... Цяпер бюракраты, чыноўнікі любяць называць тых, хто шануе родную мясцінку, рупіцца пра яе лёс, не патрыётамі, а «нацыяналістамі». А ведаеце, такі «нацыяналіст» ніколі ж, як бы соладка ні было, за мяжою не застанецца. Бо не жыць яму без Бацькаўшчыны, як немаўляці без маткі...

Згадваю нізку каляровых афортаў Уладзіміра Савіча «Маці-Бацькаўшчына». Калі даверыцца творчай інтуіцыі мастака, яе можна суаднесці з высновамі філосафаў, якія лічаць жаночы пачатак пераважна прыродным, касмічным. Мужчынскі — антрапалагічным, чалавечым. Толькі адзін праз аднаго людзі здольныя спазнаць сваю сутнасць. Не парываючы сувязі з маці-зямлёю, а праз яе з сусветам, удзельнічаць у асабовым, свядомым пераўтварэнні стыхіі.

Маці-Бацькаўшчына... Два графічныя аркушы «Першы трактар. Койданаўская МТС» і «Бежанцы» Уладзіміра Савіча з'яднаны адзіным вобразам. Сярод выразных чорна-белых фігур пераўтваральнікаў свайго ўласнага і землякоў сваіх лёсу больш светлым цёплым карычняватым тонам вылучана постаць жанчыны, якая нясе на плячах калыску з дзіцем. Яна быццам рушыць праз гісторыю, па бясконцым шляху часу адыходзіць у мінулае. Да нас, у будучыню скіраваны толькі светлы, чысцюткі позірк немаўляці. І гэты, закладзены як аснова, нетаропкі рух надае канкрэтным падзеям філасофскай значнасці. Першая ў Савецкай Беларусі машынна-трактарная станцыя была створана ў лютым 1930 года на Койданаўшчыне. Мастак разгледзеў у тым прасякнутым пафасам будаўніцтва новага жыцця часе розных па ўзросту, настроі, характары людзей. На другім аркушы мала мужчын. Тут старыя, жанчыны, дзеці. У першыя ж дні Вялікай Айчыннай ім даводзілася кідаць родныя селішчы, ісці на ўсход. Роспач і боль на спакутаваных тварах. Але Маці-Бацькаўшчына ўсё бачыць, усё адчувае, яна рушыць наперад... і ў будучыню ўглядаецца яе сын...

А ў той будучыні хлапчука з Койданаўшчыны (цяпер Койданава перайменавана ў Дзяржынск) мастака Уладзіміра Савіча запрасяць у ФРГ, каб аформіць серыю дзіцячых кніжак «Дзецям пра звяроў». Дзве першыя — «Дзеці вады» і «Дзеці саду і поля» ўжо выйшлі ў свет. Намаляваў Уладзімір Савіч і жыхароў лесу, саду і гарода.

Гартаю бліскучую, далікатную, такую вабную дзіцячую кніжку. На форзацы — чароўны краявід: сіне-зялёная вада, акаймаваная гнуткаю вытанчанаю травою, што хінецца да пясчанага берага. Далей выцягнуліся, як па струначцы, трохі ганарлівыя выдры, плыве вечны працаўнік бабёр, завіслі ў паветры стракозы — слюдзяныя крылцы... Кожнаму прысвечаны кароткі мастацкі тэкст. У канцы — энцыклапедычны даведнічак, дзе мож-

на атрымаць звесткі пра герояў і нават дазнацца, як называюцца яны па-лацінску.

Акварэльныя малюнкі, калі іх надрукавалі, здаецца, ачысціліся, паяснелі. На кожную ж кропачку растравай сеткі было скіравана па шэсць лазерных промняў! Засталася нават ледзь прыкметная алоўкавая лінія. «Вы б самі єцерлі»,— здзіўлены, сказаў Уладзімір Савіч выдаўцам. «У нас не прынята,— адказалі яму,— без вас, без аўтара, мы не маем права». А самы галоўны з іх дадаў: «Мы вельмі шануем мастакоў. Нашы машыны могуць усё. Адно не здольныя, як вы, маляваць...»

Тэхніка ў ФРГ сапраўды на грані фантастыкі. І праз кожныя пяць гадоў яе мяняюць. Ды толькі на кніжнай выстаўцы ў Франкфурце-на-Майне чамусьці больш за ўсё цікаўных сабралася каля вітрыны з кнігамі, якія афармілі савецкія мастакі, у тым ліку і Уладзімір Савіч. Тут звераняты не нагадвалі герояў дзіснееўскіх мультфільмаў. Яны былі як жывыя, са сваім характарам, норавам, у натуральным асяроддзі. І гэта цешыла душу не толькі дзецям, але і іхнім бацькам. У ФРГ шырыцца дзейнасць «зялёных». І выданне кніг, альбомаў пра жывёльны і раслінны свет — таксама частка іх праграмы. Дзеці з маленства павінны разумець, любіць і шанаваць прыроду.

— Простыя людзі ў ФРГ вельмі цікавяцца мастацтвам,— расказвае Уладзімір Савіч.— Напрыклад, пасля таго, як кніжка выйдзе, наладжваецца продаж арыгіналаў. Дык цэлыя чэргі выстройваюцца за аўтографамі. У краіне, якая практычна задыхаецца ад сучаснай індустрыі, як нідзе, адчуваюць патрэбу ў рэалістычным мастацтве. Кажуць, што тыя фармальныя пошукі ў параўнанні з малюнкам, у якім ёсць духоўнасць...

Уладзімір Савіч праілюстраваў і афарміў каля 50 кніг для дзяцей і юнацтва. Зрэшты, і заўважылі яго, запрасілі супрацоўнічаць з заходнегерманскімі кнігавыдаўцамі, пабачыўшы кнігі, афармленыя для беларускіх дзяцей,— «Казку пра суседзяў, змяю і мядзведзя» Ніны Мацяш, «Госці» Васіля Віткі, беларускую народную казку «З рога ўсяго многа...» і іншыя.

Мне асабіста імпануе жаданне мастака раскрыць дзецям праз знаёмыя яму (гараджанам, на жаль, не вельмі знаёмыя) прадметы і вобразы паэтычны свет зямлі пад белымі крыламі, падабаецца яго вынаходлівасць. Посцілка перакідваецца па небе вясёлкай. Кола, што ўсцягнуў гаспадар на дрэва, ператвараецца ў буслянку. Кабеты ў гарманічных народных строях, намітках, хлапчукі — аднагодкі чытачоў — у чыстых белых кашулях, падпяразаных шматколернымі паяскамі. Уладзімір Савіч спрабуе даць урокі традыцыйнага народнага хараства, урокі густу.

Але вось уяўляю нашага маленькага чытача, для якога знаёмства з друкаваным словам пачалося з выдадзеных «Мастацкай літаратурай» (1980 г.) у серыі «Мая першая кніжка» «Міхасёвых прыгод» Якуба Коласа. На шэрай паперы колеры пабляклі, змяніліся. Сказіўся і ўмоўны, разлічаны на дакладны пэўны каларыт малюнак...

Уяўляю і ягонага равесніка з ФРГ, які гартае яркую, на бялюткай паперы надрукаваную кнігу «Дзеці вады». Над дзіцячым ложкам ці століком вісіць у акуратнай рамачцы чапля — аркуш з аўтографам Уладзіміра Савіча (яго купілі на продажы арыгіналаў бацькі)...

Ні Уладзімір Савіч, ні ягоны сын у маленстве не трымалі ў руках такіх прыгожых кніжак. Дык, можа, хоць цяпер варта не пашкадаваць сродкаў і выпусціць разам з заходнегерманскімі кнігавыдаўцамі кніжкі, афармленыя беларускім мастаком Уладзімірам Савічам і па-беларуску?

Кожная вандроўка ў дзяцінства — гэта вандроўка ў будучыню... Дзяцей трэба вучыць бачыць і падтрымліваць у прыродзе гармонію і хараство. І кніжка тут добры памочнік.

## СМАК МЁДУ

У вёску Аздамічы, што на Століншчыне, Уладзімір Савіч трапіў са сваім сябрам этнографам і мастацтвазнаўцам Міхасём Раманюком. Яны слухалі тутэйшыя песні, запісвалі абрады, фатаграфавалі народныя строі... Потым, разглядаючы свае замалёўкі, малады графік і сам здзівіўся. У срэбназалатым каларыце ля далягляду ясна вымалёўвалася, з аркуша ў аркуш паўтаралася заміж хатак то ледзь прыкметная, то выразная — з краю ў край — гарызанталь...

— Кожны край, кожная мясцінка мае свой голас, свой колер і нават лінію... Пагоркі Міншчыны бачацца мне пераважна ў цёплай малочна-шэрай гаме. Віцебшчына, яе камяні, курганы, валатоўкі, стромкія берагі Дзвіны — у празрыстым, блакітна-зеленаватым каларыце. А бяскрайнюю роўнядзь Брэсцкага Палесся я спасціг, палюбіў, пачуўшы распеўную тутэйшую гаворку... Мне здаецца, што і кожная пара года мае свае адметныя колеры, лініі, пах і смак. Толькі як перадаць гэта ўсё на паперы?



**У. Савіч.** Аздаміцкі святы (акварэль, 1988).

У. Савіч. Стары гасцінец. Зіма (акварэль, 1988).



**Спеў жаўрука** (акварэль, 1988).

«У паветры бурштынавая цяплынь. Па дарозе сцелецца пылок... Ён, стомлены, набеганы за дзень, вяртаецца дамоў. Мые паколатыя ржышчам ногі. П'е сырадой. А за акном цвыркочуць конікі, пахне свежаскошанай травой і мёдам...

Цікава, а можна намаляваць цвыркатанне конікаў і смак мёду?»

Так пачыналася вандроўка па Бацькаўшчыне.

У літаратуразнаўстве замацаваўся адзін не вельмі дакладны, але, магчыма, неабходны тэрмін. Тых, хто прыйшоў у беларускую літаратуру ў 60-я гады, называюць «філалагічным пакаленнем», адмяжоўваючы іх ад папярэднікаў-франтавікоў. Паводле фармальнай логікі мастакоў, якія склаліся як асобы, творчыя індывідуальнасці ў 70-я, можна вызначыць як «этнаграфічнае пакаленне». Вытокам натхнення і справай жыцця стала для іх вывучэнне гісторыі і культуры роднай зямлі. Жывапісцы Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, скульптар Аляксандр Шатэрнік, графікі Лявон Баразна, Яўген Кулік, Уладзімір і Міхась Басалыгі, Мікола Купава і іншыя. Якраз у гэты час выдаюцца альбомы, кнігі, наладжваюцца шматлікія экспедыцыі. Разам з этнографамі збіраюць лепшыя ўзоры народнага мастацтва, падтрымліваюць майстроў, ладзяць выстаўкі і мастакі.

Але з маладзейшых, мусіць, толькі Уладзімір Савіч паслядоўна распрацоўвае матывы традыцыйнага народнага мастацтва, этнаграфіі. Разам з М. Раманюком ён падрыхтаваў набор паштовак «Беларускае народнае адзенне». Вылучаліся творы Уладзіміра Савіча і ў экспазіцыі маладзёжнай выстаўкі 1985 года «Жывапіс. Графіка», у якой ён удзельнічаў разам з Віктарам Альшэўскім, Алесем Ксяндзовым, Валерыем Славуком, Міколам Селешчуком, Уладзімірам Тоўсцікам і Феліксам Янушкевічам.

Народнае мастацтва для Уладзіміра Савіча не толькі ключ да натуральнага ўвасаблення таго або іншага рэгіёна, шлях да расшыфроўкі свайго генетычнага коду. Малады



**Пад час вандровак па Беларусі. У. Савіч, М. Раманюк з дзецьмі.**

графік дасканала вывучае і выяўленчыя, фармальныя яго сродкі, сімвалічны вобразалад, элементы арнаменту. І ці не дзякуючы гэтай скрупулёзнай рабоце ўласцівая большасці маладых шматслоўнасць у яго-ных графічных аркушах саступае месца шматзначнасці, лаканізму. Мяккая стылізацыя падначальваецца рытміцы тканых вырабаў, народных мелодый і напеваў. Уладзіміра Савіча хваляць за сучасную мастацкую мову. Але так і хочацца сказаць: яна яму дадзена ў спадчыну. Бо не займаецца Уладзімір Савіч модным штукарствам, выяўляе тонкі густ, спалучаючы разнастайныя тэхнікі і колеры... Але асоба вызначае і сцвярджае сябе толькі поруч з раўназначнымі асобамі.

— Яшчэ ў інстытуце я спазнаў вартасць суполкі, сябрыны. Мае аднакурснікі — рана памерлая надзвычай таленавітая Ларыса Палякова, сёння вядучыя нашы графікі Антаніна Лапіцкая, Мікола Селяшчук, Мікола Купава... Майстэрня Васіля Пятровіча Шаранговіча... Мы былі вельмі згуртаваныя, шмат працавалі. Пачынаючы з нас, студэнтаў упершыню дапусцілі да ўдзелу ў рэспубліканскіх выстаўках. І пасля інстытута мне, можна лічыць, пашанцавала. На трох з Міколам Селешчуком і Уладзімірам Тоўсцікам далі майстэрню. Так і прывыклі да дзесяці вечара штодня працаваць. У вольны час шмат дыскутавалі. Што ёсць мастацтва? Якія тэндэнцыі самыя перспектыўныя? Творчыя суполкі — выдатная справа. Гэта не столькі крытыкі побач, колькі сябры, аднадумцы, якія шануюць адзін аднаго і, галоўнае, спрабуюць зразумець. Думаю, пасля сканчэння БДТМІ ёсць сэнс лепшым з лепшых даваць на трох-чатырох майстэрню. Я цяпер выкладаю ў інстытуце і ўсё чакаю, калі ж сярод маіх вучняў з'явяцца мае канкурэнты. Ведаеце, нават пакутую ад таго, што яны так марудна ўключаюцца ў мастацкае жыццё.

Цяпер так часта бывае. Скончыць таленавіты чалавек інстытут і ўсю сваю творчую энергію траціць на тое, каб знайсці, выбіць месца працы. А гэта ж самы час — тварыць... Памятаю, убачыш краявід — душа гарыць хутчэй перадаць сваё ўзрушэнне...

Дыпломнай работай Уладзіміра Савіча была дакладна этнаграфічна і гістарычна распрацаваная серыя ілюстрацый да «Пінскай шляхты» В. Дуніна-Марцінкевіча. Сёння ў маладога графіка выпрацаваўся свой адметны падыход да афармлення кнігі, якую ён разглядае як цэласны арганізм. Напрыклад, ілюстрацыі да рамана Івана Чыгрынава «Свае і чужынцы» пры ўсёй канкрэтыцы падпарадкоўваюцца развіццю агульнай ідэі твора. Людзі, што напачатку па адным, кідаючы выклік лёсу, падымаліся на барацьбу з ворагам, аб'ядноўваюцца. Іх змаганне робіцца арганізаваным. Згуртаванасць надае ўпэўненасці ў перамозе. Сугучна з народам жыве і навакольная прырода — зацятанасцярожаная напачатку, сагрэтая, ажыўленая рухам вызвалення ў фінале.

Вынікам шматгадовай экспедыцыйнай і даследчыцкай працы па вывучэнню роднага краю Уладзімір Савіч лічыць ілюстрацыі да рамана ў вершах «Родныя дзеці» Ніла Гілевіча. Тут якраз і выявілася здольнасць мастака адбіраць шматзначныя дэталі, пераўтвараць канкрэтныя прадметы ў мудрыя зямныя сімвалы. А меладычным лейтматывам стаў схілены пад ветрам, бы жывыя жаночыя постаці, ядловец...

Вобразы, пазначаныя сілуэтамі, лініямі ў аднатонных ілюстрацыях, набываюць паўнагучча ў акварэлях. Колькі іх, яшчэ не здзейсненых, у дарожных блакнотах! Вось калодзеж з жураўлём, павязаны ручніком. Значыць, заручыліся два закаханыя сэрцы. Значыць, у вёсцы вяселле. Крыжы на магілках — адны з ручнікамі (мужчыны), другія — з фартушкамі (жанчыны). Саламяны павук — з простых дэталей, здаецца, а такая складаная, мудрая, як сусвет, канструкцыя...

Ёсць ва Уладзіміра Савіча, як і ў кожнага мастака, свой цэласны вобраз Бацькаўшчыны.

— Сонца ў нас не пякучае, мяккае. Яно мне чамусьці часцей бачыцца праз смугу... І каларыт нашых краявідаў пераважна стрыманы, някідкі. Зрэшты, як і характар тутэйшых людзей.

І працягвае:

— Калі мастак бярэцца за здзяйсненне задумы, ён, як правіла, заўсёды выходзіць да нейкай філасофскай высновы. Я ніколі не імкнуся ўскладняць твор. Суадносна з агульнай ідэяй стаўлю сам сабе некалькі канкрэтных пытанняў і, калі не магу на іх адказаць, спрашчаю кампазіцыю. Ведаю, іначай атрымаецца рэбус, які ніхто не зразумее, а яшчэ горш — зразумее не так...

Уладзіміра Савіча паважаюць яго старэйшыя калегі. Маладыя дык увогуле часам нават падпадаюць пад уплыў яго вобразаў. А сам мастак, як, зрэшты, кожная творчая асоба, змяняецца. Вось што сказаў пра Уладзіміра Савіча наш народны мастак Гаўрыла Харытонавіч Вашчанка:

— У творчасці Савіча відавочныя два перыяды. Першы — этнаграфічны, калі ён спазнаваў свет, гісторыю. Гэта натуральны для маладога мастака шлях. Праз асяроддзе ён пазнае самога сябе. Цяпер жа Уладзімір Савіч думае з'явамі. Калі спачатку ён увасабляў толькі тое, што на паверхні, скрупулёзна вывучаў лініі, колер, то сёння навучыўся фармуляваць сутнасць. І гэта найбольш пранікнёна, эмацыянальна....

Цыкл «Зямля мая» («Святло роднага дома», «Пара мёду», «Кліч кнігаўкі», «Цвыркатанне коніка», «Вяселле», «Аблокі плывуць», «Аздамічы. Борці») можна ўспрымаць як своеасаблівую філасофскую сістэму, паэтычны роздум пра сэнс і сутнасць быцця, пра яднанне чалавека з навакольным светам і праз яго з сусветам.

Цэнтр, кропка апоры быцця — родны падворак, брама якога да скону застанецца сімвалам спакою, раўнавагі і бяспекі. Ды толькі нішто ў гэтым свеце не творыцца само па сабе. І такі вабны на смак бурштынавы духмяны мёд — плён нялёгкай руплівай працы дружнай пчалінай сямейкі...

Колерам, лініяй мастак агучвае свае акварэлі. Сталёвым водбліскам перадае трывожны кліч кнігаўкі, што кружыць над гняздом, аберагаючы птушанят. Мякка размывае ў гарачым летнім пыле цвыркатанне нябачных конікаў...

Вось ён, новы асяродак дабрыні, пяшчоты і чалавечнасці,— «Вяселле». Але чалавеку трэба часцей глядзець не толькі на зямлю,

але і на неба («Аблокі плывуць»). Мы ж, як і маленькая палеская вёсачка Аздамічы, усяго часцінка сусвету. Пчаліны рой, борці, ці не знак гэта адзінства не толькі сям'і, але і ўсяго чалавечага роду?..

## СПОВЕДЗЬ СТАРЫХ КУРГАНОЎ

Але ў кожнага роду, як і ў кожнай сям'і, ёсць свая гісторыя, свая памяць. Уладзімір Савіч услаўляе добрую памяць. Аптымізм, жыццялюбства, прага харавства і гармоніі, ці не яны ратавалі душу народа ў ліхалецці?

Серыя «Пераможная вясна» Уладзіміра Савіча з'явілася ў год 40-годдзя Вялікай Перамогі. Гэта своеасаблівая лірычная хроніка вясны 1945-га. Любоўю, цяплом і вераю ў перамогу дабрыні прасякнуты першы аркуш — «Старонкі дзён векапомных». Беларускія жанчыны ў народных строях выйшлі па старажытнаму абраду гукаць вясну, вітаць першых птушак. Яны прыслухаліся да спрадвечных рытмаў зямлі і быццам зліліся з прыродай. У гэты час абнаўлення яны, здаецца, як і сама Бацькаўшчына, прадчуваюць хуткі канец вайны і свайго чакання: вось-вось вернуцца з фронту іх каханыя, родныя, блізкія... У краявідзе «Квецень» пранізлівая радасць першых мірных дзён канцэнтруецца ў адзіным светланосным акордзе — квітнеючым дрэве. І нарэшце ў кампазіцыі «Дыван пераможнай вясны» паўнагучная музыка фарбаў традыцыйных беларускіх маляваных дываноў пераўтвараецца ў велічны ўрачысты гімн Вялікай Перамозе...

— Калі хадзіў па выстаўцы югаслаўскай графікі, дзе экспанавалася шмат чыста фармальных работ, лавіў сябе на думцы, што не пазнаю тую глыбока самабытную культуру, якую ўспрыняў праз творы выдатнага шчырага мастака-прымітывіста Генераліча... Але, магчыма, югаславы сёння маюць права займацца і чыстым эксперыментатарствам. Яны ад нас далёка, а кожны больш-менш культурны чалавек мае сваё ўяўленне, свой вобраз Югаславіі. А самі мы, беларусы, яшчэ не заявілі пра сябе на ўвесь голас. І нам цяпер не столькі трэба спяшацца вывучаць, пазычаць новыя тэхнікі, прыёмы, колькі нарошчваць культурны пласт. Вось прыехаў у госці знаёмы літовец, зайздросціць: у вас жа такая багатая гісторыя, у ёй столькі белых плям... А многія мае суайчыннікі жыццё пражылі, не ведаючы пра тое...

Доўгі час мастакі заставаліся лідэрамі ў адкрыцці новых імёнаў і падзей нашай гісторыі. Цяпер адчуваюць моцную падтрымку літаратараў. У агульнакультурнай сітуацыі гэта, зрэшты, натуральна. Літаратура павінна ісці наперадзе.

Да выстаўкі, прысвечанай 150-годдзю Кастуся Каліноўскага, Уладзімір Савіч падрыхтаваў два графічныя аркушы. Першы — «Спеў жаўрука». Аднекуль зверху разам з тужліваю мелодыяй ліецца на зямлю святло... І вылучае сілуэт крыжа, павязанага ручніком. Значыць, пахаваны мужчына. І маўкліва паўстаюць у мяккім бэжавым святле жаночыя постаці — вечны смутак і памяць... А на другім, больш цёмным па каларыце аркушы «Памяць старых курганоў» мы бачым, як захінула зямля, аберагае магілу і вечны сон свайго вернага сына-касінера. Сонечныя промні слізгаюць па паверхні глебы. Верхняе (на першым аркушы) і бакавое святло ўтвараюць прамы вугал, і такім чынам кампазіцыя набывае ўстойлівую канструкцыю. Гэта што датычыць сучаснай фармальнай мовы. Але яна робіцца натуральная толькі тады, калі задума грэе сэрца мастака.

Уладзімір Савіч лаканічнымі, вечнымі ў нашым народзе вобразамі злучае некалькі гістарычных пластоў. У яго апошніх работах тая ж Маці-Бацькаўшчына нябачна прысутнічае ў канкрэтных дэталях. І птушкі на гуканні вясны, і маляваныя дываны, і наміткі, і курганы, і крыжы на могілках звязваюць не адно пакаленне тутэйшых людзей. А прысутнасць продкаў узвышае канкрэтныя гістарычныя падзеі... Шкада, што не ўсе мае равеснікі здолеюць зразумець глыбінны сэнс графічных аркушаў Уладзіміра Савіча. Для большасці гараджан, прынамсі пакуль што, культура і гісторыя нашага народа не зрабілася натуральным, як паветра, асяроддзем.

— А тыя, хто здольны тварыць, скончыўшы інстытут, на некалькі гадоў змаўкаюць... Памятаеце выстаўку, прысвечаную 500-годдзю Міколы Гусоўскага? Колькі яркіх дэбютаў, новых імёнаў! А на выстаўцы да юбілею Кастуся Каліноўскага маладых было значна менш. Можа, гэта і таму, што час змяніўся. Выстаўка Гусоўскага праходзіла ў 1980 годзе. Яна была тады ці не адзінаю магчымасцю выявіць сваю грамадзянскую пазіцыю. А цяпер і «Талака», і «Тутэйшыя», і мастацкія так званыя нефармальныя аб'яднанні. І як чалавеку, што прагне сцвердзіць сябе як асоба, растлумачыць: калі дадзены табе прыродай мастацкі талент, шануй яго, развівай? Творчасцю выказвай самае запаветнае... Нас усіх, мастакоў розных пакаленняў, сёння павінна з'яднаць вывучэнне і ўвасабленне гісторыі нашага шматпакутнага краю. І часцей, як мага часцей варта ладзіць такія выстаўкі, як выстаўка твораў Аляксея Марачкіна і Аляксандра Шатэрніка ў Полацку. Наша мінулае павінна для кожнага грамадзяніна паўставаць у вобразах канкрэтных асоб. Толькі так мы навучымся шанаваць сваю зямлю, сваю Маці-Бацькаўшчыну і саміх сябе...

«Дарога на Полацк — быццам шлях у мінулыя стагоддзі. Стромкія хвоі імкліва патанаюць у сутонні. І сярод пакінутых ледніком камянёў, велічныя і магутныя, з'яўляюцца на даляглядзе курганы, валатоўкі... Раней, калі людзей хавалі, кожнаму клалі тое, што ён любіў. Жанчыне — верацяно ды праселку, мужчыну — сякеру, ножык. Колькі б маглі расказаць гэтыя прадметы, каб ажылі...»

І ў аўтобусе Уладзімір Савіч не мог не маляваць... Ён падарожнічае ў гісторыю.



**Уладзімір Савіч з сябрамі — мастаком-жывапісцам Вітаўтасам Цыпліяўскасам (у цэнтры) і народным майстрам Арнольдам Галубовічам.** Вільнюс, 1988 г.

**Галіна САЧАНКА**

**Фота Я. Контыша, М. Раманюка**




# ЭЛЕГІІ Ў СТАЛІЧНЫМ ПАРКУ

**Адам Глобус. Парк: Вершы.
Мн.: Маст. літ., 1988.**

Адаму Глобусу пашанцавала.

Яго кніга паэзіі з'явілася ў час, калі людзі зноў чытаюць, калі стаяць чэргі да кіёскаў «Саюздруку», калі вяртаюцца з небыцця імёны і творы Алеся Гаруна, Ларысы Геніюш, Андрэя Зязюлі, Ігната Канчэўскага, Андрэя Мрыя, калі набываюць другое жыццё паасобныя творы класікаў—Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Таму, можа, варта было чакаць. А чакаў А. Глобус выхаду свайго «Парку» з 1982 года. Тым болей, што напачатку ён быў і не «Паркам», а «Грудам», «Адзінаццаццю разрэзамі», «10×10». Адпаведна кожнаму рукапісу змяняліся рэцэнзіі і выдавецкія заключэнні. Змянялася нават прадмова: замест уступнага слова Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча з'явілася слова на дарогу, напісанае Міхасём Лявонавічам Стральцовым.

У недасведчанага чытача можа скласціся ўражанне, што рукапіс кнігі дапрацоўваўся, адшліфоўваўся, «даводзіўся» па ўсіх параметрах. Зрэшты, амаль што гэтак яно і было. Здымаліся спрэчныя, на думку выдаўцоў, вершы «Тэстамант», «Сон», «Браты», «Сцяна», «Слуп», якія, між іншым, прайшлі праз рэспубліканскую перыёдыку і неаднаразова гучалі, узмоцненыя мікрафонамі Дома літаратара і рэспубліканскіх святаў. Знікалі (пад выглядам палітычнай звышпільнасці і, мабыць, з-за актыўнай антыалкагольнай барацьбы ў рэдакцыі паэзіі выдавецтва) паасобныя радкі і нават строфы, накшталт:

Ён гаварыў: пра недарэчнасць
Заўчаснай гібелі Купалы,
Інфармацыйную навалу,
Пра Дух і кантаўскія рэчы.
(«Калі ёсць брат»)

Ці:

Мне зімою не золка,
Як наведваю бары,
Дзе каньячныя зоркі,
Як успышкі на тварах.
(«Фотакарэспандэнт»)

Знятыя строфы і вершы «дапрацоўваюцца» і «дашліфоўваюцца», а я, на здзіўленне, усё ж гартаю старонкі першай і, спадзяюся, не апошняй кнігі паэта Адама Глобуса.

Ці не самае спрэчнае і нетрадыцыйнае ў ёй—трохрадкоўі і пяціраткоўі—хайку і танка, бо вельмі цяжка з дапамогаю логікі вытлумачыць суседства класічных японскіх форм са звыклымі ў беларускай лірыцы санетамі ці актавамі.

Хаця прыгадайма, што танка з'явілася ў беларускай паэзіі яшчэ ў 1915 годзе дзякуючы Максіму Багдановічу:

Усё знікае
І следу нат не кіне,
Як шэры попел
Ад чорнага агнішча,
Развеяны вятрыскам.

Хайку ж з'явілася ў нас амаль на тры чвэрці стагоддзя пазней—у 1983 годзе. Але, тым не менш, гэтую сціплую форму некаторыя вядомыя літаратары сустрэлі ў штыкі дый сёння прымаюць непрыхільна. Гэта нагадвае змаганне многіх сучасных рускіх паэтаў з верлібрам, на той час як паэты Эстоніі, Латвіі, Грузіі, Югаславіі шырока выкарыстоўваюць як першую, так і другую формы. Ці не выклікана ў нас гэтая непрыхільнасць комплексам «малодшай сястры»—заўсёды хавацца за шырокія спіны суседніх літаратур, найперш рускай?

А. Глобус, з улікам традыцый Максіма Багдановіча, які чэрпаў і з крыніц усходняе паэзіі, робіць настойлівыя спробы прывіць гэтую актыўную форму на беларускай моўнай глебе.

Шэрань на слупах.
Не спыняецца цягнік
Ля вясковых хат.

Думаецца, што гэты верш, найбольш з усіх, змешчаных у кнізе, набліжаецца да традыцыйных хайку, бо ў ім праз канстатацыю звычайнага, нязначнага на першы погляд факта перадаецца такое складанае пачуццё, як сум. Паводле М. Стральцова, А. Глобус—гараджанін, які «не парваў сувязяў з вёскай, з «малой» бацькоўскай радзімай. Яна, выяўляецца, трэба яму як дападзенне да існага жыццёвага вытоку і тады, калі ён бярэ ў рукі пэндзаль», бо «ўласны вопыт графіка і жывапісца не абмінуты А. Глобусам, як не абмінуты, а па-свойму ўбачаны праз мастацтва, праз акварэль і вопыт традыцыйнага японскага верша, чаму ёсць у зборніку даволі яскравыя пацвярджэнні».

Мяне прывабіла «неяпонскасцю» такое трохрадкоўе:

Заснуў пад дажджом
Алавяны салдацік
У пясочніцы.

Але зусім не спадабалася наступнае:

Ломкі лабірынт
Падлічвае памылкі
Шляхоў лагічных.

Бачыцца ў ім уплыў паэтыкі Алеся Разанава, яго квантэм і, у прыватнасці, гукапісу, які ў А. Глобуса тут знарочысты, разбуральны. Думаецца, што хайку ўсё ж патрабуе большае натуральнасці і дакладнасці пісьма.

Што да пяціраткоўяў, дык яны ў кніжцы ўспрымаюцца як вучнёўскія практыкаванні, і не больш.

У цёмным небе
над рогам маладзіка
ўяўляю палёт—
мігценнем рудой зоркі
і ціхім круглым гукам.

Аўтару не хапіла моцы напоўніць дасканалую форму адпаведным зместам, і ён не здолеў пазбегнуць банальнасці. Таму і вынікае нязграбная метафарычнасць «круглага гуку» і немастацкія азначэнні «неба цёмнае», «зорка рудая», «гук ціхі».

Практыкаваннямі выглядаюць у зборніку і некаторыя васьміраткоўі:

Нас не спыталі, нам далі жыццё...
Жаданне нашае—у целе існаваць
І разумець сусвет як адкрыццё
Няспыннасці, упарта ашчаджаць
Той тэрмін, дзе змясцілася быццё,
Але істоту мусяць спакушаць
Бязгучным існаваннем па-за целам,
Дзе зноў збяромся мы ў бязмежжы белым.
(«Спакуса»)

Ёсць у гэтай актаве пэўная груватаксаць, сінтаксічная абцяжаранасць—адзін сказ запісаны ў сем (!) радкоў. Не назавеш арыгінальнымі назоўнікавыя рыфмы «жыццё—адкрыццё—быццё», а тым больш дзеяслоўныя—«існаваць—ашчаджаць—спакушаць».

Што тычыцца зместу, то пры наяўнасці яркай тэзы («Нас не спыталі, нам далі жыццё...») практычна адсутнічае антытэза. Таму заканамерным бачыцца пытанне: «А ці дастаткова аднаго, хай добрага радка, каб ставіць верш у зборнік?»

Самотным, падтрыманым хіба толькі анатацыяй, выглядае адзіны верлібр «Зоры». Што гэта—спроба аўтара давесці, што валодае і гэтаю формаю, ці памкненне ахапіць як мага болей паэтычных канструкцый? Пытанне пра форму гэтага верша вынікае нездарма, бо гаварыць пра яго змест не варта—зор у нашай паэзіі проста безліч, і палічыць іх не здолее ніводны астраном.

У адрозненне ад верлібра, санет прадстаўлены даволі шырока—як у «італьянскім», так і ў «англійскім» варыянтах. Гэта сведчыць пра тое, што паэту падабаюцца не толькі касмічныя станцыі і водар асфальту, але і самі цвёрдыя формы верша. Што ж укладае аўтар зборніка ў санет? Гэтая старажытная форма, трэба зноў жа пагадзіцца з М. Стральцовым, «абнаўляецца сучасным рытмам і зместам».

Мне падабаецца: мікраравён—
Жалезны дух у канструктыўным целе,
Дзіцячы пляц і школьны стадыён...
Мне падабаюцца шурпатыя панелі.

Люблю метро, асветлены вагон
І колы, што на грукат захварэлі.
Люблю, калі састаў бярэ разгон
У доўгім, як працоўны дзень, тунелі.

Мне да душы падмуркі ў катлаване,
Абмазаныя ў чорную смалу.
Мне да душы ісці па рыштаваннях

На самы найвышэйшы дах. Люблю
Убачыць на дарожным скрыжаванні
Рассыпаную з кузава зямлю.

(«Сталіца»)

Думаецца, што санет гэты—прынцыповы для сучаснай беларускай паэзіі. Вызначальны ён нават у сваёй назве. Аўтар, у процівагу звыклым гаям і лажкам з канюшынаю ці мядункам, сцяжынкам і размаітым падлескам, прапануе новыя эстэтычныя каштоўнасці. Горад у яго—не бяздушная, жорсткая пачвара, якою найчасцей малявалі яго беларускія літаратары, а аб'ект увагі і натхнення. Лірычны герой А. Глобуса нязмушана і вольна пачуваецца як на ампірным праспекце, так і на канструктыўным рыштаванні новабудоўлі. Яго не раздражняюць струмені адлюстраванняў у вітрынах, парашуты парасонаў, манекены-Буды, пенабетонныя атланты, іржа машыннага шыпення, ацэтыленавы агонь і наогул усе аб'ектыўныя рэаліі, якімі поўніцца сённяшні Мінск. Тут аўтару давяраеш больш, чым калі ён пачынае кідка і дэкаратыўна вымалёўваць казачныя фантасмагорыі («Валун», «Варона», «Спатканне», «Нараджэнне», «Смык»). Ствараецца адчуванне, што ў апошніх ён заходзіць не на сваю тэрыторыю, трапляе ў чужое царства. Пра гэта сведчаць і апавяданні А. Глобуса: у іх таксама не знойдзеш дужых славянска-русых вятроў, каранаваных варон, цароў-лесуноў з залатымі вачыма і папараць-кветак, якіх у з'арыентаваных на паганскую міфалагічную вобразнасць аўтараў не менш, чым у рускім класічным рамансе «розы-морозы-берёзы-слёзы», не кажучы ўжо пра зоры.

Бо тыя ж казачныя матывы, што абапіраюцца на фактурныя койданаўскія рэаліі, гучаць пераканаўча.

Не тужы, Рэгіна,
Знойдзецца каханне,—
Чорная вяргіня
Залатою стане.

(«Рэгіна»)

На яркіх малюнках правінцыйнага мястэчковага побыту, падсвечаных успамінамі дзяцінства, грунтуюцца вершы «На станцыі Койданава», «Бронік», «Казік», «Хутар», «Восень», «Брат», але несумненна, што «койданаўскія» матывы так ці інакш праглядаюцца ў большасці Глобусавых вершаў.

І міжволі зважаеш яшчэ на адно: на элегічнасць «Парку», што вынікае ці не з гэтых самых матываў. Яна арганічна знітоўвае, арганізуе вершы зборніка ў кнігу паэзіі, з'яўляецца яе асноваю.

Думаецца, што элегічнасць—характэрная рыса ў паэзіі сённяшніх трыццацігадовых. Дастаткова згадаць «Дняпроўскі жнівень» Аляксея Паршчыкава, апошнія падборкі Юрыя Кабанкова, Дзмітрыя Мізгуліна ці Нугзара Каберыдзе.

Шырока выкарыстоўваюць гэтыя паэты трохстопныя метры, доўгі радок, што спрыяе выяўленню няспешнай плыні пачуцця і думкі, дазваляе дакладна акрэсліваць малюнкі і вобразы.



Штучны рай скончыў працу. Маляр прапакосціў арэлі,
У Кітай чарнагрудыя сітаўкі пераляцелі.

(«Парк»)

Страказа-верталёт праміне сваю цёплую зорку;
Прыгадае Зямля—час Адама ад яблыка горкі.

(«Меліярацыя»)

Відавочна, што зварот да элегіі—своеасаблівая рэакцыя на рэчаіснасць, якая доўгі час была засмечана траскучымі лозунгамі, пратэст супраць аптымістычна-бадзёрага рыфмавання тытулаваных ці (пакарыстаемся лексіконам «Тутэйшых») прыкарытных графаманаў.

У заключэнне, нягледзячы на выказаныя крытычныя заўвагі, трэба ўсё ж пагадзіцца, што кніга паэзіі Адама Глобуса «Парк»—кніга неардынарная. Яна стала адметнай, цікавай з'яваю ў сучаснай беларускай паэзіі.

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

**Ад рэдакцыі:** У «Маладосці» з'явіўся яшчэ адзін водгук на гэтую ж кнігу Адама Глобуса. Рэцэнзію Тамары Чабан на «Парк» чытайце ў наступным, чацвёртым нумары нашага часопіса.

# Папытай у кнігарні

**«ЛАГОДНЫ ПРОМЕНЬ РАНІЦЫ».** У гэтым зборніку змешчана дзевятнаццаць падборак, а правільней — дзевятнаццаць першых кніжак паэзіі маладых літаратараў, чые першыя публікацыі з'явіліся ў друку на пачатку 80-х гадоў. У кнізе прапаноўваюць чытачу свае творы Эдуард Акулін, Раіса Аўчыннікава, Алесь Бабаед, Рычард Бялячыц, Ганна Іванова, Сяргей Кавалёў, Ганна Кашуба. Янусь Малец, Міхась Мамонька, Лілія Матусевіч, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Пецюкевіч, Леанід Пранчак, Ніна Радзівончык, Уладзімір Сіўчыкаў, Уладзімір Цішуроў, Соф'я Шах, Аркадзь Шынтар і Міхась Шэлехаў.

Усе аўтары зборніка розныя па манерах і накірунках сваёй творчасці, але ўсіх іх аб'ядноўвае шчырае жаданне сумленна служыць роднай літаратуры.

Укладанне зборніка Л. Дранько-Майсюка.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«У ШУМЕ ЖЫТНЯГА СВЯТЛА»** — гэта апошняя прыжыццёвая кніга паэзіі выдатнай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Пра яе веліч усе здагадваліся яшчэ пры жыцці гэтай трапяткой летуценніцы, аднак побач з класікамі, побач з І. Мележам, А. Куляшовым, А. Пысіным, яна стала, на вялікі жаль, толькі зараз, толькі пасля смерці.

Усяго пяць кніжак паэзіі выдала Жэня Янішчыц за сваё кароткае, але такое змястоўнае і напоўненае жыццё — «Снежныя грамніцы», «Ясельда», «На беразе плача», «Пара любові і жалю», «Каліна зімы». Аднак іх, на нашу вялікую радасць, хапіла, каб вечна застацца ў роднай літаратуры.

Рупліва і строга адбірала свае вершы і паэмы паэтэса — у кнігу яе выбраных твораў не трапіла нічога прахаднога, слабога, абыякавага. Яе лірыка здзіўляе натуральнасцю, арганічнасцю, усхвалявана-ўзрушанымі адносінамі да, здавалася б, самых дробязных падзей жыцця, што, дзякуючы таленту, які да іх дакрануўся, робяцца важнымі, цікавымі, паэтычнымі.

Кніга выбранай лірыкі Я. Янішчыц плённа падсумоўвае яе дваццацігадовы шлях шчырага служэння беларускай паэзіі.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ВЫБРАНАЕ».** Лепшыя вершы і паэмы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Анатоля Грачанікава склалі яго кнігу выбранай паэзіі. У яе ўвайшлі творы з усіх сямі кніг паэта — «Магістраль», «Круглая плошча», «Грыбная пара», «Начная змена», «Дрэва на выспе», «Палессе», «Я вас люблю».

Прадмову да кнігі «Бясконцы сусвет дабрыні» напісала Тамара Чабан.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«МЕЛОДЫІ ЗАБЫТЫХ ПЕСЕНЬ».** У новую кнігу прозы Васіль Гігевіч уключыў аднайменны раман, які даў назву ўсяму зборніку, а таксама тры аповесці — «Карабель», «Сола для віяланчэлі», «Громаў В. Д.». У канцы змешчана апавяданне «Яшчэ снягі халодныя ляжалі».

Усе творы В. Гігевіча, аб'яднаныя ў кнізе, прысвечаны сучаснасці і сучасніку.

Арыгінальна праілюстраваў кнігу мастак Уладзімір Лукашык.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ЖЫВЕШ ТОЛЬКІ РАЗ»** — першы раман Віктара Супрунчука. Ён, як гаворыцца ў анатацыі, прысвечаны «карэннай перабудове вёскі, пераадоленню старых стэрэатыпаў у мысленні некаторых кіраўнікоў». Галоўны герой яго — сакратар райкома партыі — змагаецца супраць хлусні, хцівасці, пустазвонства, бюракратызму.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«БАЛАДА ПРА СУМНАЕ КАФЭ».** «Бібліятэка замежнай прозы», якую выдае «Мастацкая літаратура» з 1983 года, папоўнілася чарговаю кнігаю. Яе склалі дзве аповесці вядомай амерыканскай пісьменніцы Карсан Маккалерс — «Балада пра сумнае кафэ» і «Адлюстраванні ў залатым воку».

Аповесці з англійскай мовы пераклаў і прадмову да выдання напісаў У. Шчасны.

«Выдавецтва Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА XIX СТАГОДДЗЯ».** Першым выданнем гэта хрэстаматыя выйшла ў 1971 годзе і тады ж была цёпла сустрэта не толькі студэнтамі-філолагамі, але і шырокім колам чытачоў. У другое, перапрацаванае і дапоўненае, выданне апроч твораў, вывучэнне якіх прадугледжана праграмай курса гісторыі беларускай літаратуры, уключаны новыя творы, якія знойдзены беларускімі тэкстолагамі ў апошнія гады, уводзяцца ва ўжытак новыя імёны. Сярод іх — Адэля з Устроні, Зоф'я Манькоўская, Вікенцій Равінскі, Геранім Марцінкевіч, Ігнат Легатовіч, Юльян Ляскоўскі, Станіслаў Гласка, Зыгмунт Нагродскі. Многія творы, якія друкаваліся ва ўрыўках, даюцца ў поўным альбо ў больш шырокім выглядзе. «Энеіда навыварат», да прыкладу, ужо друкуецца не сярод ананімных паэм, а ў раздзеле «Пачынальнікі» як твор Вікенція Равінскага.

У кнізе змешчаны таксама выказванні Адама Міцкевіча пра Беларусь і беларускую мову, «Тарас на Парнасе», «Песня беларускіх жаўнераў», поўнасцю падаецца «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага, а таксама друкуюцца творы Яна Чачота, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Вінцэся Каратынскага, Фелікса Тапчэўскага, Каруся Каганца, Марыі Косіч і іншых.

Складальнікі хрэстаматыі і аўтары каментарыяў да яе — Алег Лойка і Вячаслаў Рагойша.

Кніга дапушчана Міністэрствам народнай асветы БССР у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультатываў вышэйшых навучальных устаноў.

Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1988 г.

**«ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ».** Удумлівасць, непаспешлівасць, грунтоўнасць даследавання — усё гэта заўсёды было характэрным для творчасці вядомага крытыка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя І. Мележа Серафіма Андраюка. Таму не дзіўна, што менавіта ён узяўся за стварэнне нарыса творчасці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, вядомага беларускага пісьменніка Івана Пташнікава, творчасць якога таксама адрозніваецца ўдумлівасцю, непаспешлівасцю, грунтоўнасцю.

Крытык спрабуе дакапацца да вытокаў творчасці гэтага самабытнага майстра, уважліва разглядае шырока вядомыя яго аповесці «Лонва», «Тартак», «Найдорф», раманы «Мсціжы», «Алімпіяда», спыняецца на апавяданнях пісьменніка, якія ў беларускай навелістыцы займаюць віднае месца.

Кніга мае сем раздзелаў — «Вытокі творчага лёсу», «У пошуках самога сябе», «На пераломе», «Вайна жыве ў сэрцы», «Чалавек на вятрах часу», «Вёска — маці наша», «Барозны за небасхіл».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«СУЧАСНАЯ ЛІТАРАТУРА І ЧЫТАЧ».** У прадмове да гэтай кнігі гаворыцца: «Стварыць праўдзівы малюнак жыццядзейнасці сучаснай літаратуры — задача навукі, у першую чаргу літаратуразнаўчай... Навука аб літаратуры пачынае ўсё больш уважліва праслухоўваць пульс сучаснасці. Сведчаннем таго з'яўляецца павышэнне цікавасці даследчыкаў да метаду сацыялагічнага вывучэння сучаснага працэсу».

Фактычнай асновай гэтай кнігі з'явіўся матэрыял чытацкай і пісьменніцкай анкет, якія распрацаваў, а затым і правёў у 1984—1986 гадах Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Анкетаванне праводзілася на тэрыторыі рэспублікі, а таксама за межамі Беларусі. Сярод чытачоў, якія адгукнуліся на анкету, былі людзі розных нацыянальнасцей. Усяго запоўнена каля 4 тысяч анкет.

Над кнігаю працавалі навуковыя супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН БССР Л. Гарэлік, Т. Грамадчанка, Э. Гурэвіч, В. Козіч, А. Лысенка.

Кніга выдадзена пад грыфам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1988 г.

**«БЕЛАРУСКАЯ МОВА».** Гэта чарговая кніга з «Бібліятэкі настаўніка беларускай мовы і літаратуры», якую выпускае выдавецтва «Народная асвета». У слове ад аўтараў, надрукаваным у кнізе, гаворыцца: «Дапаможнік разлічаны перш за ўсё на пашырэнне навуковага кругагляду настаўніка роднай мовы па пытаннях фанетыкі, арфаграфіі, словаўжывання, словаўтварэння, словазмянення і сінтаксісу, якія раскрываюць тэарэтычную сутнасць адпаведных тэм школьнай праграмы і, на думку аўтараў, уяўляюць пэўныя цяжкасці. Таму ў некаторых артыкулах чытач сустрэнецца і з поглядамі на вядомыя з'явы беларускай мовы, якія не супадаюць з традыцыйнымі і не знайшлі адлюстравання ў вучэбнай літаратуры».

У кнізе шэсць раздзелаў: «Фанетыка», «Арфаэпія і правапіс», «Словаўтварэнне», «Словаўжыванне», «Словазмяненне назоўнікаў і дзеяслова», «Аб некаторых сінтаксічных цяжкасцях беларускай мовы».

На завяршэнне падаецца спіс літаратуры для настаўнікаў.

Кніга выйшла пад рэдакцыяй А. Падлужнага. Яна рэкамендавана Міністэрствам асветы БССР.

Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1987 г.

**«БЕЛАРУСКІЯ ГУЛЬНІ Ў ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ»** — дапаможнік для выхавацеля. У ім сабрана вялікая колькасць беларускіх народных гульняў з тлумачэннем іх выхаваўча-адукацыйных задач і правілаў правядзення, якія могуць быць выкарыстаны ў час адпачынку дзяцей старэйшага дашкольнага ўзросту.

У кнізе расказваецца пра гульні «Спрытнякі», «Хапанка», «Каза», «Свабоднае месца», «Лянок», «Мянькі», «Паспей адбіць», «Жартаўнік» і іншыя.

Усе гульні згрупаваны па раздзелах «Гульні-карагоды», «Гульні вялікай рухомасці», «Гульні сярэдняй і малой рухомасці», «Спартыўныя святы». У дадатку падаюцца лічылкі і спіс выкарыстанай літаратуры.

Складальнікі З. Ермакова і В. Шабека.

Кніга выйшла другім, дапоўненым выданнем.

Яна рэкамендавана Міністэрствам асветы БССР.

Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1987 г.

**«МОЎНЫЯ АДЗІНКІ Ў КАНТЭКСЦЕ»** — зборнік навуковых артыкулаў па беларускай мове. У яго ўвайшлі артыкулы «Слова-дзеянне ў мастацкім тэксце Івана Мележа» М. Кавалёвай, «Моўныя сродкі публіцыстычнага стылю» А. Каўруса, «З аналізу мовы і стылю А. Пашкевіч-Цёткі» М. Новік, «Некаторыя словазлучэнні ў беларускіх тэкстах арабскім пісьмом» В. Несцяровіч і інш.

Тут жа разглядаецца першы шматмоўны батанічны слоўнік — «Зёльнік» Зоські Верас.

Зборнік выйшаў пад рэдакцыяй Ф. Янкоўскага. На ім грыф Міністэрства асветы БССР і Мінскага педінстытута імя Горкага.

Выдавецтва «Універсітэцкае», Мінск, 1987 г.

**«ЗАМЕЖНЫ ДЭТЭКТЫЎ».** Добры падарунак прыхільнікам дэтэктыўнага жанру зрабіла выдавецтва «Мастацкая літаратура». Яно выдала па-беларуску зборнік замежных дэтэктываў, у які ўвайшлі аповесці «Нябожчыкава люстэрка» Агаты Крысці, «Порт у тумане» Жоржа Сіменона, «Доўгае лета» Нікалае Штэфанеску. На беларускую мову іх пераклалі П. Марціновіч, А. Асташонак і А. Каўрус. Усе творы перакладзены з мовы арыгінала.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

 

# З рэдакцыйнай пошты



## ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Вялікае Вам дзякуй за «Старажытную Беларусь» Міколы Ермаловіча. Я даўні чытач «Маладосці», але цяпер перакананы, што нагаданая праца — самая смелая, самая неспадзяваная, амаль што самая каштоўная публікацыя і «Маладосці», і ўсяго беларускага друку за апошні час. Што ж датычыць аўтара, Міколы Ермаловіча, то лічу, хоць і не ведаю яго асабіста, што ён таленавіты даследчык, сапраўдны вучоны, вялікі майстар гістарычнага апавядання. Яго нарысы прыцягваюць навізной думак, глыбінёй навуковага аналізу, лагічнасцю абгрунтавання і нетрадыцыйным падыходам да самых складаных пытанняў. Вось такія і павінны быць сапраўдныя даследаванні — смелыя, захапляючыя, наватарскія.

«Старажытная Беларусь» для мяне цікавая і каштоўная ўдвая: я сам займаюся даследаваннем беларускіх старадаўнасцей. Гэта не толькі маё, як гавораць, хобі, але і мая навуковая спецыяльнасць. Я — тапаніміст, гэта значыць даследчык геаграфічных назваў. Дарэчы, мая дысертацыя, якую я абараніў у маі 1988 года, называлася «Этнатапанімія Беларусі». На працягу некалькіх гадоў я збіраў і аналізаваў тыя беларускія назвы, у якіх адлюстраваліся імёны плямён і народаў, якія мелі дачыненне да тэрыторыі Беларусі са старажытнасці да новага часу. Не дзіўна, што, аналізуючы назвы — адпаведныя моўныя знакі,— я закранаў і разнастайныя гістарычныя і этнаграфічныя пытанні. У сваіх даследаваннях я ішоў не ад гісторыі да назвы, а наадварот, ад назвы да гісторыі. Я імкнуўся «прачытаць» падзеі мінулых стагоддзяў, абапіраючыся на тую інфармацыю, якую давала мне назва. А гэтая інфармацыя не такая ўжо і малая. Невыпадкова яшчэ ў XIX стагоддзі геаграфічныя імёны часам вобразна называлі «мовай зямлі». Дык вось, «мова зямлі» беларускай прывяла мяне да шэрагу цікавых фактаў. З некаторымі з іх я ўжо азнаёміў чытачоў як навуковых выданняў, так і перыядычнага друку рэспублікі. Але ж у маёй асабістай картатэцы зафіксавана 375 геаграфічных назваў, якія з'яўляюцца найменнямі 750 населеных пунктаў Беларусі. У гэтых назвах, па маіх назіраннях, адлюстравалася каля 70 этнічных найменняў, імёнаў розных народаў, плямён, племянных груп. Многія з гэтых тапонімаў ніколі не даследаваліся вучонымі. Што ж датычыць чытачоў увогуле, усіх тых, хто цікавіцца нашай спадчынай, то для іх, на жаль, у большасці сваёй геаграфічныя назвы застаюцца толькі адрасным знакам. Вось таму я і вырашыў звярнуцца ў «Маладосць» са сваімі нататкамі. Гэтае рашэнне прадыктавана яшчэ і тым, што ў «Старажытнай Беларусі» М. І. Ермаловіча, асабліва на пачатковых яе старонках, робяцца спасылкі на многія геаграфічныя і этнічныя імёны. Хачу, каб мяне зразумелі правільна: Мікола Ермаловіч — добры гісторык, але лінгвістычны, уласна тапанімічны бок яго меркаванняў месцамі выглядае менш пераканаўча. Для мяне ж, як спецыяліста, гэта не абыякава. У сучасны момант я рыхтую да выдання навуковую працу — манаграфію па этнічнай тапаніміі Беларусі. Але я хачу, каб не толькі навукоўцы, але і шырокія колы чытачоў-неспецыялістаў былі знаёмы з асаблівасцямі найбольш цікавых геаграфічных назваў. І калі «Маладосць» сапраўды зацікаўлена ў шчырай, плённай размове аб нашым далёкім мінулым, аб чым, дарэчы, часопіс абвяшчаў у прадмове да нарысаў М. Ермаловіча, то прапануемыя нататкі, як я спадзяюся, дапамогуць маладым і больш сталым чытачам часопіса больш усебакова ўявіць сапраўдную Старажытную Беларусь і яе гістарычныя назвы, якія ў наш час зусім правільна пачалі разглядацца як своеасаблівыя помнікі мінуўшчыны.

Аб сабе. Рогалеў Аляксандр Фёдаравіч, 1956 года нараджэння, рускі, кандыдат філалагічных навук, правадзейны член Геаграфічнага таварыства СССР. Працую выкладчыкам кафедры рускага, славянскага і агульнага мовазнаўства Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны.

г. Гомель

Аляксандр РОГАЛЕЎ



 




# *Усмешкі маладосці*

Як прызнаецца аўтар гэтых гумарыстычных малюнкаў Мікалай Чаркасаў, на гумар яго пацягнула яшчэ ў школьныя гады. Сяброўскія шаржы, вядома, прыносяць аўтару не толькі радасць, а іншы раз і крыўду таварышаў.

Але, як бы там ні было, мастацтва стала неад'емнай часткай яго жыцця — скончыў графічнае аддзяленне БДТМІ, займаецца плакатам, супрацоўнічае ў «Вожыку», хоць сцвярджае, што з узростам траціць пачуццё гумару.

Прадстаўляючы малюнкі Мікалая на старонках часопіса, мы мусім з ім не пагадзіцца: што гэта, калі не добры, дасціпны гумар?





















# Нашы аўтары

**ЯКАУЛЕВА Алена** нарадзілася ў 1971 годзе ў вёсцы Ігрушка Крупскага раёна. Скончыла Ігрушскую сярэднюю школу. Зараз—студэнтка Літінстытута імя А. М. Горкага.
Друкавалася ў газетах «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», «Знамя юности», часопісе «Бярозка».
У «Маладосці» выступае ўпершыню.

**ВОЗІСАВА Лідзія** нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Лебядзёўка Добрушскага раёна. Скончыла біёлага-хімічны факультэт Удмурцкага дзяржаўнага універсітэта ў Іжэўску. Працавала адказным сакратаром раённай газеты «Прикамская правда», выхавацельніцай у дзіцячым садзе ВА «Гомсельмаш». Зараз—адказны сакратар Гомельскага раённага таварыства аматараў кнігі.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**БОНДАР Таіса** нарадзілася ў 1945 годзе ў Рудзенску. Скончыла Мінскі дзяржаўны педінстытут замежных моваў. Настаўнічала, працавала ў рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», зараз—намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь».
Аўтар кніг паэзіі «Захапленне», «Акно ў восень», «І голас набыла душа», «Святочны снег», «Спадчынны боль».

**ПАУЛАУ Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша Любанскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у газеце «Чырвоная змена», у кінабюлетэні «На экранах Беларусі», у выдавецтве «Мастацкая літаратура», кансультантам у Саюзе пісьменнікаў БССР.
Выдаў кнігі паэзіі «Узлётная паласа», «Светацені», «Начная балада», «Сляза на вейцы», «Гадавое кальцо» і кнігі прозы.

**МАЗГО Уладзімір** нарадзіўся ў 1959 годзе ў Зэльве. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працуе рэдактарам у выдавецтве «Юнацтва».
Выдаў кнігі вершаў «Пад спеў крыніц», «Вершаліна».

**НЯХАЙ Валерый** нарадзіўся ў 1951 годзе ў горадзе Балхаш Казахскай ССР. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў рэкламным камбінаце Белкаапсаюза. Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва».
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ШКЛЯРАВА Ніна** нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Пракопаўка на Гомельшчыне. Скончыла філфак ГДУ. Цяпер настаўнічае ў Гомелі.
Выдала кнігі вершаў «Мая вёска», «Міг і вечнасць».

**КАРОБКІНА Святлана** нарадзілася ў 1939 годзе ў вёсцы Сенніца на Міншчыне. Працавала ў цэнтральнай кнігарні, у музеі П. У. Броўкі. Выдала зборнік вершаў «Колер дабра».

**ПЯРКОУСКАЯ Тамара** нарадзілася ў 1940 годзе ў Вілейцы. Скончыла філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працавала настаўніцай, інжынерам на Мінскім трактарным заводзе, у газеце «Звязда», выдавецтве «Юнацтва». Друкавалася ў рэспубліканскай прэсе і калектыўным зборніку «Сцяжына».

**ЧЫГРЫНАУ Іван** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў рэдактарам у выдавецтве АН БССР, у часопісе «Полымя», сакратаром СП БССР, зараз—старшыня Беларускага аддзялення Фонду культуры СССР.
Аўтар кніг прозы «Птушкі ляцяць на волю», «Самы шчаслівы чалавек», «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы» і інш.
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

**«МОЛОДОСТЬ» № 3 (1—176), 1989 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар КАЗЛОУ.** Тэхнічны рэдактар **Яніна ВАЖНІК.**
Карэктары **Валянціна БАШАК, Мая ВІНАГРАДАВА.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.
Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.01.89. Падпісана да друку 23.02.89. АТ 10214. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 14,39. Тыраж 11 208 экз. Зак. 31.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі 220041, Мінск. Ленінскі пр., 79.



**У. Савіч.** Памяць сівых курганоў (акварэль, 1988).